# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

21 КРАСАВІКА 1995 г. № 16 (3788) Кошт 400 руб.


## НЕНАПІСАНЫЯ СЮЖЭТЫ

***Уладзімір МЕХАЎ: "Прачытаўшы ў сярэдзіне шасцідзесятых гадоў у часопісе "Юность" невялікае апавяданне Васіля Аксёнава "На плошчы і за ракой", я перажыў незвычайнае для сябе як чытача адчуванне. Тое, што прачытаў, было вельмі падобным да таго, што мог бы расказаць па тэме апавядання сам".***

**5, 12**

## КАЛАРЫЗМ І КАЛАРЫСТЫ ...

***Алег МАЦІЕВІЧ: "І пазайздросціў я сябрам-палякам, патрымаўшы ў руках даўнюю іх манаграфію "Каларысты", дзе адведзены асобны раздзел З. Валішэўскаму і іншым удзельнікам аб'яднання "Камітэт парыжскі". І ўспомнілася, як прагнулі мы ў студэнцкія часы да спадчыны жывапісцаў..."***

**13**

## КАЛІ ПРЫЙДУЦЬ НАШЫ?..

***Іван НАВУМЕНКА: "Гэта быў сорак другі год, чэрвень месяц. Настрой, які тады валодаў намі, быў трывожны, панылы. Пасля пераможнай, радаснай зімы, калі немцаў пагналі ад Масквы, калі Чырвоная Армія наступала на іншых напрамках, калі ў нямецкіх зводках разы дватры нават мільгала назва беларускага Віцебска, фашысты зноў узялі ў рукі ініцыятыву".***

**16**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

**Шаноўныя прыхільнікі "ЛіМа"!**

**З 20 красавіка пачалася падпіска на перыядычныя выданні Рэспублікі Беларусь на трэці квартал 1995 года.**

**Падпісацца на "ЛіМ" можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі. Падпісны кошт у Мінску на адзін месяц — *5000 рублёў;* на квартал — *15 000 рублёў.* За межамі Мінска на месяц — *4000 рублёў;* на квартал — *12 000 рублёў.***

***Наш індэкс — 63856.***



# ГАБЕЛЕН СТАГОДДЗЯ

З адкрыцця чамусьці найбольш запомніліся не прамовы афіцыйных асоб, айца Філарэта, дзеячаў культуры. У кутку нечакана расплакалася бабулька-прыбіральшчыца: "Ай, чаму ж мы такія сляпыя? Чаму ж такую прыгажосць раней не бачылі?.."

Аляксандра Кішчанку, мастака з сусветным імем, ледзьве не адзінага майстра габелена не камернага, а манументальнага, усхвалявала менавіта яна, звычайная старая жанчына, яе нечаканая, але вельмі шчырая ацэнка яго новага твора. "Габелен стагоддзя" стаў падзеяй для беларускай культуры і мастацтва. Велізарны (19 на 15 метраў — вышыні выставачнай залы Экспацэнтра яму не хапіла) габелен захапляў — усеагульнай ідэяй, надзіва згарманізаванай кампазіцыяй і прыгожым шэра-блакітным (са сполахамі чырвонага) "кішчанкавым" каларытам. Твор увабраў у сябе ўвесь сусвет з Хрыстом, Божай маці, Тайнай вячэрай, планетай, населенай нашымі сучаснікамі — то касмічная опера ў нітках, праспяваная чыста, без фальшу. Тут усе героі — беларусы, немцы, французы, яўрэі... — расстаўлены ў кампазіцыйнай паслядоўнасці, а не па іерархічных ступенях. Кожнаму месца прадугледжана гісторыяй ды мастакоўскім бачаннем. Таму і выбар асоб,

*(Працяг на стар.3)*

# ГАБЕЛЕН СТАГОДДЗЯ

*(Пачатак на стар. 1)*

што прадстаўляюць наша стагоддзе, адлачатку яднае сцверджаных даведнікамі і суб'ектыўна ўзятых мастаком. Побач з братамі Луцкевічамі, што распачыналі беларускую дзяржаўнасць, — цяперашні прэзідэнт Лукашэнка, побач з Леніным і Сталіным — Ельцын і Гарбачоў, з Папам Рымскім і Філарэтам — Феліні...

Праз пару дзён, у майстэрні, дзе яшчэ нават не былі прыбраны эскізы, мастак з болем згадваў, як многа давялося пераадолець на шляху да ўрачыстай прэзентацыі. Грашовыя пазыкі, што ярмом вісяць на ягонай шыі і, на жаль, могуць стаць апошнім прымусам, каб прадаць габелен за мяжу. А так хацелася, каб стаў ён уласнасцю нашай дзяржавы, яе адзнакаю, здольнай упрыгожыць нават архітэктурную збедненасць будучага Палаца рэспублікі. Але і гэта не галоўнае. Пяць год працы, якія Аляксандр Міхайлавіч вытрымаў дзякуючы нязменнай дапамозе мастачкі і сваёй вучаніцы Т. Кіршынай, былі перарваныя ў сярэдзіне абсурдным, але такім натуральным для нашай дзяржавы выпадкам, калі ў напалову скончанай рабоце быў выразаны кавалак у некалькі квадратных метраў. Цяпер жа чарговая бяда: каб паказаць габелен у замежжы (а запрашаюць ужо Вашынгтонская нацыянальная галерэя, Кенэдзі цэнтр, Еўрапарламент у Страсбург і Брусель, аж на 2000 год у Гановер на міжнародную выставу і г. д.), ніхто не дае страхоўку...





Дзіва, але, як і раней, культура наша трымаецца на падзвіжніках. Аляксандр Кішчанка распачаў і па сутнасці стварыў на Беларусі выдатную школу габелена, роўнай якой без перабольшання няма ў свеце. Родам з Расіі, вучань львоўскай мастацкай школы, ён прынёс у мастацтва габелена ўласна ім вынайдзенае колеравае бачанне, яркае і кантраснае, паклаў пачатак разумення габелена як "оперы вытканай", а не звычайнай камернай тканай карціны, надзвычай папулярнай, напрыклад, у прыбалтаў. Мастак штогод ездзіць на радзіму, вяртаецца адтуль са стосам замалёвак і ідэй, з дапамогай якіх нараджаюцца выдатныя творы, унікальныя і беспрэцэдэнтныя. Беларусь можа толькі ганарыцца, што яе культура інтэгравала гэтага цікавага творцу, талент якога ўвайшоў у культуру заўважным і моцным акордам. Кішчанка, не менш за іншых, мог бы ганарыцца сваім "рэвалюцыйным" мінулым — знішчаным керамічным пано на станцыі метро "Парк Чэлюскінцаў", якое не адпавядала афіцыйнай дагматыцы, партрэтамі Скарыны, якія ён у першых шэрагах творцаў увёў у свае мазаікі на дамах мікрараёна Усход і ў габелены Вялікага тэатра оперы і балета, за што атрымаў адны непрыемнасці. Яго новы "Габелен стагоддзя" гэтаксама мусіць прагучаць адкрыццём для сусветнай грамадскасці зямлі terra incognita — Беларусі.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

# НА ВЯЛІКДЗЕНЬ

**Прышлі анёлы да Айца-Бога,**
**Казалі Богу: "Чалом, чалом!**
**Ідзём з далёкай мы пуць-дарогі, —**
**Мы з Беларусі хвалу нясём.**
**Хрыстос ўваскрос!**

**Дзе людзі спалі — усе паўсталі**
**Жыццё на волі адбудаваць.**
**У родным краі усе пачалі**
**Ратаі долю сабе каваць.**
**Хрыстос ўваскрос!**

**Да ночы позняй да самога рана**
**Адбудаванне ідзе без мер.**
**І хлебаробы пайшлі ў пашану,**
**Над імі зорка бліщчыць цяпер.**
**Хрыстос ўваскрос!"**

**Казаў анёлам Гасподзь Магутны:**
**"Гэй, дайце ў званы сярод нябёс,**
**Што Беларускі народ пакутны**
**Ўваскрос.."**
**Хрыстос ўваскрос!**

**ЯСАКАР.**

*("Беларускі шлях". Нядзеля, 5 мая 1918 г.)*

Nota bene

# АЛЯКСАНДР, ВЕДАЙ...

**Літаратура ў высокім сэнсе гэтага слова заўсёды імкнецца апярэдзіць час, прароча высветліць шляхі, абраныя народам, прадказаць будучыя сацыяльныя катаклізмы і злачынствы ўладароў. Пісьменнікам дадзена асаблівае валоданне словам, праз якое яны здатныя абудзіць у душах чытачоў адказнасць за лёс сваёй Радзімы. Канечне, у нечым пісьменнікі могуць памыляцца, але калі іхняя творчасць скіравана на сцвярджэнне агульначалавечых каштоўнасцей, дык застаецца стваральнаю і надзённаю на тысячагоддзі.**

**Усё вышэйсказанае можна цалкам аднесці да помніка старажытнай беларускай літаратуры — кнігі "Тайная Тайных". Твор гэты паходзіць ад арабскага арыгінала VII—IX стст., у перакладзе на латынь ён мае назву "Secretum secretorum". У сярэднявеччы ён быў шырокавядомы ў Еўропе і змяшчаў мудрыя павучанні, быццам бы напісаныя Арыстоцелем для свайго вучня Аляксандра Македонскага.**

**Аднак варта адзначыць, што ў старажытнабеларускім тэксце кнігі "Тайная Тайных" змешчаны асобныя арыгінальныя раздзелы, якія не сустракаюцца ў іншых версіях гэтага твора. Хто перакладаў твор і калі — невядома, ды, на думку навукоўцаў, гэта зроблена ў канцы XV — пачатку XVI ст.**

**З"яўленне "Тайная Тайных" у Вялікім княстве Літоўскім не было выпадковасцю. Згадаем гісторыю: якраз у канцы XV ст. пасля смерці вялікага князя Казіміра на гэтую пасаду быў абраны ягоны сын Аляксандр. У цяжкі час выпала правіць маладому вялікаму князю, трэба было бараніць родную зямлю ад набегаў крымчакоў, ад нападаў малдаван і сквапнага маскоўскага князя Івана, які жадаў завалодаць старажытнарускімі землямі і называў сябе царом. Праўда, палітыкі Вялікага княства Літоўскага не жадалі гэты тытул прызнаваць. Пераклад "Тайная Тайных" з'явіўся запаветам вялікаму князю Аляксандру, як кіраваць дзяржаваю і падданымі.**

**Рукапіс кнігі "Тайная Тайных" захоўваўся ў Віленскай публічнай бібліятэцы і быў надрукаваны ў 1908 годзе М. Сперанскім. Тэксту, напісанаму на старабеларускай мове, споўнілася паўтысячы гадоў, але і сёння ён гучыць вельмі актуальна. Напэўна, нашым выдаўцам варта было б парупіцца пра выданне гэтага твора, а я прапаную ўвазе чытачоў некалькі вытрымак з "Тайная Тайных".**

**Зінаіда ДУДЗЮК**

"Аляксандр, ведай, што скупы не можа быць ані добрым чалавекам, ані прыхільнікам законаў, гэтак жа як марнатраўца не захавае назаўсёды свайго гонару. Ва ўсялякай справе трэба прытрымлівацца сярэдзіны, абедзве крайнасці згубныя, і ва ўсіх дзеяннях царскіх захоўваць памяркоўнасць, а інакш царства не зможа квітнець...

Аляксандр, кажу табе, што ўсялякі цар, які раздае без меры, разбурае сваё царства. А хто накладае на сваё царства цяжар непасільны, той загубіць яго і загіне сам... Бо сутнасць шчодрасці — не квапіцца на чужое...

... Ведай, што збяднела царства вялікае і старое толькі таму, што цары шмат давалі, а мала ўкладвалі ў казну, і яны пакваліліся на народнае дабро, і народ знішчыў іх — так загінула царства назаўсёды...

Аляксандр, вельмі асцерагайся дазваляць жывёльным страсцям атрымаць верх над царскай уладай, каб не ўзвысіць тленнае над вечным, не патурай сваім прыхамацям — бо гэта грэх найвялікшы...

Аляксандр, усялякі цар, які падначальвае царства сваё ісціне закона свайго, варты цараваць; а той, хто падначальвае закон царству, заб'е закон... Усе законы ты павінен выконваць старанна, бо калі людзі ўбачаць, што патрабаванні твае не адпавядаюць справам тваім, дык не пахваляць жыцця твайго. А таму не парушай ніводнай часткі закона, нават калі б ты атрымаў, дзякуючы гэтаму, прыбытак вялікі. Так ты будзеш любы Богу і слугам тваім.

Аляксандр, ведай, што ты дасягнеш велічы толькі тады, калі ўзвысіш настаўнікаў закона і суддзяў. Будзь сумленны і пакорны, не выяўляй гордасці і будзь, трывушчы; узважваючы ўсё, умей прадугледзець будучыню і будзь міласэрны...

Не мяняй звычаяў сваёй зямлі, а асабліва сваіх звычак з-за людской пагалоскі. Старанна думай пра тое, каб аблегчыць падаткі і пошліны нетутэйшым купцам, бо калі ты ўстрымаешся ад незаконных пабораў, дык дасягнеш павелічэння законных, калі багацце царскае будзеш раздаваць народу сваёй зямлі, а не прыгнятаць яго. І нават калі твае скарбніцы будуць напоўненыя золатам, а ты не будзеш мець добрай славы ў народзе, дык усё гэтае нічога не вартае. А дзякуючы славе добрай, ты напоўніш зямлю сваю таварам з усіх зямель, бо ўсе купцы рэчы дарагія са сваіх зямель павязуць у тваю, і набудзе народ усё неабходнае. І, дзякуючы гэтаму, будуць людзі табе пакорныя, а іншаземцы захочуць, каб ты кіраваў імі, бо яны халопы справядлівасці...

... Пазбягай праліваць кроў, бо гэтае пакаранне знаходзіцца пад уладаю Бога, які ведае тайнае, а ты будзеш рабіць наколькі бачыць тваё вока.

Аляксандр, пра землеўладальнікаў сваіх даведайся, хто чым валодае і чым табе служыць, так ты даведаешся пра іхнюю адданасць табе і чым кожны перад табою расплачваецца. Бо калі ты абкладзеш бедных вялікімі падаткамі — гэта царству твайму пашкодзіць...

Аляксандр, чытай кнігу гэтую мноства разоў, каб зразумець яе, бо я сабраў у ёй мудрасць філасофіі і растлумачыў табе прыроду чалавечую — што такое розум, і як ён звязаны з целам гэтым тленным, і як узнагародзіў Бог рабоў сваіх па заслугах, дзякуючы чаму яны набліжаюцца да яго, — таму ўсё гэта табе неабходна ведаць, дай табе Гасподзь..."

# КРЭДЫТАЎ НЕ БУДЗЕ?

ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ

Сённяшняя тэма нашай размовы ў чарговы раз — узаемаадносіны Беларусі з міжнароднымі фінарганізацыямі. Калі канкрэтна — адкладзенае Міжнародным валютным фондам прыняцце рашэння аб прызначаным Беларусі крэдыце ў памеры 250 мільёнаў долараў.

Відавочна, у штаб-кватэры фонду нарэшце разабраліся, што мемарандум, які ўрад Беларусі і Нацыянальны банк туды накіравалі, больш за ўсё быў падобны на "экспартны варыянт" эканамічнай палітыкі. Строга кажучы, у гэтым няма нічога благога. І ў прынцыпе менавіта з гэтых дакументаў, разлічаных на "знешняе выкарыстанне", лягчэй, чым з публічных выступленняў кіраўнікоў краіны, можна было зразумець, якой эканамічнай стратэгіі на самай справе маюць намер прытрымлівацца (альбо не прытрымлівацца) беларускія ўлады.

Гэта не дзіўна: у рэшце рэшт беларуская эканоміка ў значнай ступені залежыць ад пазіцыі Захаду (гаворка ідзе аб прадастаўленні новых крэдытаў, адтэрміноўцы ў выплаце старых, доступу беларускіх тавараў на сусветныя рынкі і г.д.), а Захад хоча, каб палітыка беларускіх уладаў была па меншай меры прадказальнай.

У любым выпадку было б спрашчэннем лічыць, што прэзідэнт Лукашэнка і яго кабінет у такіх дакументах абмяжоўваюцца толькі абяцаннямі, якія не намераны выконваць. Канечне, такі цынізм уласцівы многім палітыкам, і беларускія ў гэтым сэнсе не з'яўляюцца выключэннем. Але ў слабаразвітых краінах тыпу Замбіі ці Беларусі распрацоўка заяў і мемарандумаў праходзіць з удзелам заходніх экспертаў, якія потым досыць пільна сочаць за рэалізацыяй гэтых дакументаў.

Нягледзячы на гэта, лозунг "Усе на барацьбу за крэдыты!" так і не стаў актуальным ні для беларускага палітычнага кіраўніцтва, ні для беларускага народа, які імкліва робіцца жабраком. Відавочна, што ў ходзе фінансавай "раскруткі" сусветнага супольніцтва Беларусь зрабіла стаўку не на кампетэнтнасць кіраўніцтва (проста скажам, досыць сумніцельную), а на яго такую ж сумніцельную абаяльнасць. Ужо колькі было ў нашай прэсе размоў аб тым, як спадабаўся публіцы на Мадрыдскім сэйшэне МВФ сп. Багданкевіч. Усхваляльнікі беларускага фінансавага генія забылі, аднак, што "добры чалавек — гэта не прафесія". Тое ж самае тычыцца і астатніх кіраўнікоў.

Каб зразумець пазіцыю Валютнага фонду ў адносінах да Беларусі, неабходна ўсведамляць, што палітыка, якая ім прапаноўваецца, прызначана для ўраўнаважання баланса знешняга гандлю і для хутчэйшага вяртання прадастаўленых сродкаў. Справа ў тым, што МВФ досыць дырэктыўна ставіцца да краін, якія карыстаюцца пагадненнямі па атрыманні крэдытаў. Пятнаццаць гадоў назад фонд кадыфікаваў прынцыпы, якімі, на ягоную думку, належыць кіравацца краінам-пазычальнікам. Пералік досыць шырокі, і я прывяду толькі найбольш важныя прынцыпы: пагадненне аб крэдытах не з'яўляецца міжнародным пагадненнем: падпісаўшая яго краіна ў адзіночку нясе адказнасць за яго выкананне і адаптацыю; МВФ павінен улічваць нацыянальныя задачы, асабліва сацыяльныя і палітычныя, эканамічныя прыярытэты і становішча зацікаўленай краіны; крытэрыі рэалізацыі праграмы тычацца толькі макраэканамічных пераменных (аб'ёму банкаўскага крэдыту, крэдытаў дзяржаве і г. д.) і засяроджаны на дзеяннях, неабходных для ўрэгулявання знешніх плацяжоў. Фонду забаронена ўмешвацца ў іншыя галіны.

Праграмы эканамічнага аздараўлення, адобраныя МВФ, змяшчаюць, як правіла, стандартныя меры: скарачэнне дзяржаўнага дэфіцыту, кантроль за ростам крэдытаў і асабліва крэдытаў дзяржаве, дэвальвацыя валюты без кампенсуючага росту аплаты працы, каб скараціць імпарт і садзейнічаць экспарту.

З пункту гледжання палітычных і сацыяльных наступстваў гэтыя праграмы не небяспечныя для ўрадаў, якія іх праводзяць. Аднак пры гэтым яны, як правіла, даюць прамы эканамічны эфект.

Тым не менш, з пачатку года Нацыянальны банк прадпрыняў шэраг мер, з пункту погляду Міжнароднага валютнага фонду досыць неадэкватных. Сюды можна аднесці і фактычную фіксацыю курсу мясцовай валюты ў адносінах да долара, і зніжэнне стаўкі рэфінансавання.

Пазіцыя прэзідэнта і кабінета таксама хістаецца ў процiфазе з генеральнай лініяй мемарандума. Замежныя крэдыторы зусім не парадаваліся павышэнню зарплаты, а таксама адставанню ад зададзеных тэмпаў росту платы на жыллё і прыватызацыі, якая заглухла, не пачаўшыся.

Даволі натуральнай рэакцыяй на такое вольнае трактаванне абавязацельстваў Беларуссю і стала адмова МВФ разгледзець пытанне аб выдзяленні нам чарговага транша крэдыту ў 250 мільёнаў долараў.

**Аляксандр МАМЕТАЎ,**
**эканамічны аглядальнік "ЛіМа"**

## НЯМА АНАЛАГАЎ У СВЕЦЕ

**Мы пастаянна паведамляем пра выхад гісторыка-дакументальных хронік "Памяць", але раней гэта былі тамы, прысвечаныя асобным раёнам нашай дзяржавы. Нядаўна ж у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі з'явілася выданне, аналагаў якому няма ў свеце. У рэспубліканскай кнізе "Памяць" адзначаны усе пахаванні абаронцаў і вызваляльнікаў Беларусі, называюцца брацкія магілы з пералікам прозвішчаў усіх, хто знайшоў у іх свой вечны спачын. Усё гэта зроблена з геаграфічнай прывязанасцю да абласцей, раёнаў, сельсаветаў і асобных вёсак.**

**Каб з'явілася гэтае унікальнае выданне, разам з супрацоўнікамі энцыклапедыі нямала намаганняў прыклаў калектыў Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. І, вядома ж, ахвотна пайшла насустрач дзяржава, аплаціўшы асноўныя выдаткі па выданні "Памяці".**

**Прэзентацыя кнігі прайшла ў Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Перад прысутнымі выступілі міністр А. Бутэвіч, галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі Б. Сачанка, намеснік галоўнага рэдактара С. Самуэль, дырэктар інстытута гісторыі М. Касцюк, навуковы кансультант "Памяці", генерал-маёр у адстаўцы В. Шомадзі. Усе яны адзначалі важнасць выдання гэтых кніг, якія садзейнічаюць таму, каб жыла святая для ўсіх нас Памяць, без якой немагчыма будаваць суверэнную дзяржаву.**

## ПРА СВОЙ ВЫБАР НЕ ШКАДУЕ



**Работнік культуры ідзе працаваць на ферму. Пагадзіцеся, такое здараецца нячаста. А вось Валянціна Дварэцкая (на здымку) з акцыянернага таварыства "Новае жыццё" Нясвіжскага раёна менавіта так і зрабіла, і нікольկі не шкадуе. Шосты год працуе яна на ферме Наруцэвічы і дамаглася нядрэнных вынікаў. У мінулым годзе ад кожнай з 50-ці кароў надаіла па 4.100 кілаграмаў малака. Па сённяшнім часе гэта выдатны паказчык!**

**Што ж тычыцца сельскіх работнікаў культуры, пры цяперашняй мізэрнай аплаце іх працы яны, відаць, хутка разбягуцца, хто куды.**

*Фота Рамана КАБЯКА*

**БЕЛІНФАРМ**

## ПАСМЯЯЛІСЯ АД ДУШЫ

**Паэт Уладзімір Верамейчык, як вядома, жыве ў в.Ведрыч Рэчыцкага раёна, працуе дырэктарам мясцовай сярэдняй школы. Тут напісаліся лепшыя яго творы — і не толькі вершы, але і гумарэскі, публіцыстычныя нататкі. Зразумела, што землякі пісьменніка цікавяцца літаратурнай працай Уладзіміра Міхайлавіча. Вось і на прэзентацыю яго новай кнігі сатыры і гумару "Магарыч" яны ахвотна сабраліся ў мясцовым клубе.**

**Начальнік раённай бібліятэчнай сістэмы Т. Елісеева нагадала пра творчы шлях земляка, расказала, якім попытам карыстаюцца яго кнігі ў аматараў літаратуры. Байкі і гумарыстычныя вершы з "Магарыча" чыталі вучні. І, вядома ж, сам віноўнік свята смеху. А пасмяяліся людзі і сапраўды ад душы.**

**Парадаваў прысутных сваім майстэрствам і хор з в. Зашчэб'е.**

**Васіль ТКАЧОЎ,**

адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ







БАРСКІ Алесь (БАРШЧЭЎСКІ Аляксандр Андрэевіч). Паэт. Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Бандары Беластоцкага ваяводства (Польшча). Скончыў аддзяленне рускай філалогіі філалагічнага факультэта Лодзінскага універсітэта. З 1975 года загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Доктар філалагічных навук. Член Саюза польскіх пісьменнікаў з 1962 года.

Упершыню выступіў у друку ў 1956 годзе.

Аўтар кніг паэзіі "Белавежскія матывы" (1962), "Жнівень слоў" (1967), "Мой бераг" (1975), "Блізкасць далёкага" (1983) і іншых.

Плённа працуе ў галіне літаратуразнаўства, займаецца перакладамі.

У 1991 годзе А. Барскі ўзнагароджаны медалём Францішка Скарыны.

ГАЙДУК Мікола (Мікалай Раманавіч). Паэт, празаік. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Кабылянка Беластоцкага ваяводства (Польшча). Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1959). Член Саюза польскіх пісьменнікаў з 1985 года.

З першымі вершамі па-беларуску выступіў у 1957 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі "Ціш" (1988), зборніка нарысаў "Белавежскія паданні" (1990). Сабраў у наваколлі Белавежы і апрацаваў казкі, легенды і паданні "Аб чым шуміць Белавежская пушча" (1982). У 1992 годзе выйшла кніга гістарычных нарысаў і эсэ "Паратунак".

КЛІМОВІЧ Уладзімір Аркадзьевіч. Нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Ігнаткаўцы Лідскага раёна. Скончыў Беларускую акадэмію мастацтваў (1990). На творчай працы.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1989 годзе.

Аўтар кнігі прозы "Выратаванне бездані". У 1994 годзе тэатр-студыя "Абзац" паставіла п'есу У. Клімовіча "Маленькая балерына" паводле аднайменнага апавядання У. Караткевіча.

ПАШКЕВІЧ Алесь Аляксандравіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Набушава Слуцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1994). Аспірант філалагічнага факультэта гэтага ж універсітэта. Намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Першацвет".

Літаратурную працу пачаў у 1986 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі "Нябесная сірвента". Піша прозу, літаратурна-крытычныя артыкулы.

САРОКА Валерый Іларыёнавіч. Празаік. Піша па-руску. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Скакуноўшчына Бешанковіцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1982). Генеральны дырэктар аграпрамысловага аб'яднання "Ранет" СП "Кансент".

Літаратурную працу пачаў у 1986 годзе.

Аўтар кніг прозы "Витебское дело, или Двуликая Фемида" (два тамы, 1993, 1994), "SOS. Спасите наши души" (1993), "Оставь надежду", "Бывшие сотрудники", "Тагильская бездна" (усе выйшлі ў 1994 годзе).

# СЯРОД МНОСТВА ГАЗЕТ НЯМА СВАБОДНЫХ...

Мо праз кожны дзень на Беларусі засноўваецца новая газета. Але ці пераходзіць колькасць у якасць? Давайце паглядзім.

Найбольшую цікавасць, як правіла, уяўляюць першыя нумары выданняў. Вось, да прыкладу, першы нумар мінскай газеты "**Вперед**" ("газета трудящихся"). На першай паласе друкуецца пастанова ЦК ВКПБ, прынятая на аснове даклада генсека Ніны Андрэевай. "Адзіны шлях выхаду з крызісу і выжывання народа — адраджэнне сацыялізму". Тут жа "Гений и непоколебимый полководец" (да 115-ай гадавіны з дня нараджэння І. В. Сталіна.) Доктар эканамічных навук В. Вайцахоўскі настойліва праводзіць думку пра неабходнасць вярнуцца да планава-размеркавальнай сістэмы. Увогуле, уся газета "Вперед" — адзін суцэльны заклік "назад" (так, па ўсёй бачнасці, і належала яе назваць).

Амаль у гэткім жа духу вытрыманы нумары газеты "**Товарищ**". Звяртае на сябе ўвагу артыкул Васіля Новікава (былога саперніка Лукашэнкі). На яго думку, усё, што мы назіраем сёння, ёсць "параджэнне стратэгічнага плана ўнутранай контррэвалюцыі і сусветнай закулісы на канчатковае разбурэнне брацкіх рэспублік і нахабнае рабаўніцтва народаў". Можна зразумець, што "сусветная закуліса" робіць усё, каб "увасобіць у жыццё ідэалы каланіяльнай дэмакратыі". Тут жа "разаблачаюць" вядомага мецэната Дж. Сораса, а таксама "траянскага каня МВФ". Даецца папярэджанне, што "нас чакае страшная доля сапраўдных рабоў капіталу". Піша ў "Товарищ" чытач "Советской Белоруссии" Іван Кузьмянкоў і абураецца, што новыя людзі прыйшлі да кіраўніцтва гэтай старэйшай газеты. Яго не задавальняе "асабліва Якубовіч, вядомы ўсім чытачам як яры антысаветчык, прапаведнік ідэй БНФ". "Казла ўпусцілі ў капусту", — папярэджвае пільны чытач.

Дарэчы, пра "**Советскую Белоруссию**". Апасенні яе чытачоў аказаліся марнымі, газета не толькі не змянілася па духу, але нават вярнулася да ўласнага стылю пачатку 80-ых гадоў. Але яе, газету, пакінула большасць журналістаў. Яны перайшлі ў новае выданне: пад кіраўніцтвам апальнага Ігара Асінскага, былога рэдактара "СБ", цяпер выдаецца дзіўнаваты штотыднёвік "**Белоруссия**". Скразны тон новай газеты ўсё такі ж. Калі папросту, яна таксама з'яўляецца саве[illegible]кай. Самым цікавым і адзіным па-сапраўднаму новым аказаўся, як я лічу, толькі першы нумар. Тут звяртае на сябе ўвагу артыкул, які напісала жонка галоўнага рэдактара Людміла Асінская, уласны карэспандэнт "Белоруссии" ў Берліне, "Ці залежыць здароўе грамадства ад здароўя палітыкаў?". Сістэматызуючы дадзеныя з розных крыніц, Л. Асінская піша: "Вучоныя... больш катэгарычныя: паранойя — вось галоўнае захворванне ўладу маючых". (Паранойя — хранічнае псіхічнае захворванне, якое характарызуецца сістэматычнымі навязлівымі вар'яцкімі ідэямі, якімі чалавек і кіруецца. Гэтая хвароба цяжка распазнаецца, бо маскіруецца пад тэмперамент і ідэйную палітычную заангажаванасць.) Вось як арыентуюцца параноікі: "Ворагі паўсюль... але... параноіку ўдаецца іх выкрыць. Ён наносіць удары ў адказ, і куды б ён ні ўдарыў, там аказваецца яго вораг". "Нармальныя людзі ніколі не адчуваюць жадання бясконца хлусіць, траціць жыццё на тое, каб душыць сваіх ворагаў, пацiскаць мільёны рук. Што прымушае дарослых людзей... любой цаной быць у цэнтры ўвагі, прыцягваць позіркі мноства людзей да сваёй персоны? Справа простая. Гаворка ідзе пра людзей, якія пакутуюць на зусім пэўную форму псіхічнага расстройства". Артыкул Л. Асінскай, па ўсёй бачнасці, з'явіўся невыпадкова і ўяўляе сабой тонкі і востры намёк на асобных беларускіх палітыкаў.

Часцей за ўсё новыя газеты прадстаўляюць левы палітычны фланг. І гэта зразумела: у камуністаў, сацыялістаў больш сродкаў і яны лепш усведамляюць, што "газета з'яўляецца калектыўным прапагандыстам і агітатарам".

У газет з правага фланга выгляд худаваценькі, як, напрыклад, у новай беларускай газеты "**Лад**", якую заснаваў Л. Баршчэўскі: па плошчы яна разоў дваццаць меншая за "Белоруссию". Дэмакратычная "**Згода**", газета Партыі народнай згоды, дзе лідэрам дасюль застаецца Г. Карпенка, мае такі ж фармат, выходзіць раз у месяц і з вялікімі спазненнямі. Наогул, у "нацыяналаў" і дэмакратаў, калі не лічыць "**Свабоды**", салідных газет фактычна няма. Праўда, ветэраны зларадна называлі "**Народную газету**" "бэнэфаўскай". Але ў тых, хто мысліць непрадузята, такія вызначэнні выклікалі толькі ўсмешку. На жаль, падобныя абвінавачванні прагучалі і з боку прэзідэнта, і сёння гэтая самая масавая ў рэспубліцы газета перажывае, як вядома, цяжкія часы. Падзеі скандальныя. Яны пагражаюць існаванню на Беларусі незалежнага друку ўвогуле. Сёння ў рэспубліцы засталася адзіная масавая штодзённая газета, што інфармуе чытачоў аб'ектыўна і падрабязна (з папраўкай, канечне, на наш змрочны час). Гэта "**Звязда**".

Калі казаць пра штотыднёвыя газеты, то варта адзначыць "**Европейское время**", якое набывае ўсё больш "еўрапейскі" выгляд і змястоўнасць. Інфармацыя, што змяшчаецца ў газеце, досыць цікавая.

Набіраюць ачкі дзелавыя газеты, з іх самая прафесійная, бадай, "**Белорусский рынок**". Аналітычныя матэрыялы газеты выдатныя.

Моцна канкуруе з "БР" "**Белорусская деловая газета**". У ёй можна сустрэць матэрыялы скандальна вядомага па "белых плямах" Аляксандра Фядуты, цяперашняга супрацоўніка гэтага выдання. Вось што піша журналіст пра свайго былога шэфа: "**Прэзідэнт у кожнай прамове, разлічанай на аўдыторыю, вярбуе сабе праціўнікаў паўсюль, дзе толькі можна і дзе нельга, з настойлівасцю, вартай лепшага прымянення**". Цяпер, калі Вярхоўны Савет сам аказаўся ў складаным становішчы, адзіным заступнікам дэмакратычнай, незалежнай прэсы можа быць толькі сусветная супольнасць, і еўрапейская ў прыватнасці.

Нядаўна ў Беларусь прыбыла дэпутат Еўрапарламента Элізабет Шройдэр. Яна ўзначальвае дэлегацыю ЕС па сувязях з Украінай, Малдовай і Беларуссю. Яе цікавіць і стан сродкаў масавай інфармацыі. На прэс-канферэнцыі Э. Шройдэр сказала: "Я ашаломлена тым, што адбываецца ў вашым парламенце і ўзроўнем дэмакратыі на Беларусі ўвогуле..."

І гэта толькі першыя ўражанні.

Прэзідэнт А. Лукашэнка, мякка кажучы, без асаблівага энтузіязму ўспрыняў візіт дэлегацыі Э. Шройдэр. Ён, мабыць, не здагадваецца, што становішча з нашай дэмакратыяй цікавіць не толькі пані Э. Шройдэр.

Нядаўна прадстаўнік МВФ у Беларусі заявіў, што прадастаўленне абяцанага банкам крэдыта ў памеры 200 з лішнім мільёнаў долараў адкладваецца на няпэўны час у сувязі з невыкананнем Беларуссю эканамічных абяцанняў. Няма сумнення, што факты грубейшых парушэнняў дэмакратычных норм у нашай рэспубліцы паўплывалі на данае рашэнне: у дзелавым свеце не можа быць даверу да кліента, які парушае любыя нормы цывілізаванага грамадства, нават калі яны і не звязаны напрамую з эканомікай.

**Вячаслаў АЎСЕЙЧЫК**

*("Газета Андрэя Клімава", N 10, 7—13 красавіка 1995 г.)*

## БЫЛО Б 75...

**выдатнаму паэту Аляксею Пысіну. Афіцыйна народным не быў, але прызнанне народнае меў. Высокіх пасад не займаў, а меў ці не самую высокую і адказную пасаду — заўсёды і ва ўсім заставацца ЧАЛАВЕКАМ. Жыў і працаваў сціпла, але пакінуў пасля сябе вялікі след — кнігі сапраўднай, высокай паэзіі.**

**Ушанаваць памяць Аляксея Васільевіча сабраліся ў Доме літаратара яго сябры, малодшыя калегі па пяры, тыя, каго ён у свой час падтрымаў на пачатку літаратурнай дарогі, шматлікія чытачы.**

**Прачулыя словы гучалі з вуснаў вядучага вечара сакратара праўлення СП Беларусі А. Пісьмянкова, народнага пісьменніка Я. Брыля, народнага паэта Н. Гілевіча, В. Ракава, А. Капусціна, А. Слесарэнкі... Выконваліся песні на вершы Аляксея Васільевіча — іх спяваў кампазітар А. Чыркун і бард А. Атаманаў. Рэжысёр народнага тэатра В. Ермаловіч прачытаў некалькі ваенных вершаў А. Пысіна.**

## ДЗЕ МАЛАДОСЦЬ, ТАМ ШЧЫРАСЦЬ

**Таму свой ліст у рэдакцыю часопіса "Першацвет" Н. Дзівіна і пачала так непасрэдна: "Мне 16 гадоў, вучуся ў 72-ой менскай сярэдняй школе, у адзінаццатым класе. Люблю ў вольны час слухаць музыку, падарожнічаць. Вершы пачала пісаць недзе год назад. Не ведаю, што мяне падштурхнула да гэтага. Мабыць, узнікла патрэба ў нечым натхнёным і ўзнёслым..." Асобныя творы Н. Дзівінай змешчаны ў трэцім нумары часопіса. З вершамі выступаюць таксама І. Гаравая, А. Міцкевіч, Г. Ціханава, Г. Плаўская, І. Сінкевіч, Т. Мазур, В. Бародзіч, а проза прадстаўлена творамі Т. Цвіркі, Т. Ахрэмчык, П. Развадоўскага, А. Кузняцовай, А. Чабатар, Г. Пашкевіч.**

**У раздзеле "Нам пішуць" уступнае слова Л. Рублеўскай "Апякункі Беларусі" і развагі Н. Мацяш, В. Угрыновіч-Камінскай, А. Васілевіч, Л. Сіманёнак, Г. Каржанеўскай, Т. Талерчык; у "Гасцёўні" — верш А. Кавалюк і ўрывак з рамана В. Коўтун "Анёлы Галгофы", у "Спадчыне" — неапублікаваныя творы С. Гаўрусёва (каментарыі і падрыхтоўка да друку Т. Барысюк).**

**А. Стосуй рэцэнзуе кнігу А. Станюты "Стэфанія" ("Магічны крышталь мастацтва"). А. Дуброўскі дзеліцца ўражаннямі ад зборніка вершаў В. Куртаніч "Начное сонца" ("Прымем за аксіёму"). А. Чарота разважае над праблемай нацыянальнай прыналежнасці вобраза Ваўкалака ("Харты святога юра"). Побыт і Быццё ў беларускім песенным фальклоры — тэма артыкула Н. Захаранкі "А на той рацэ чаўначок плаваў..."**

## "ПРАЛЕСКА", N 2

**Безумоўна, у гэтым нумары часопіса ўвагу выхавацеляў дзіцячых садоў, настаўнікаў ды і бацькоў прыцягне каляровы разварот. На ім змешчаны "Каляндар свят і абрадаў беларусаў" на 1995 год, складзены В. Ліцвінкам, а таксама ўзоры нацыянальнага арнаменту, якія, безумоўна, спатрэбяцца ў працы з дзецьмі. Часопіс віншуе з 60-годдзем Р. Барадуліна (каляровы партрэт Рыгора Іванавіча і некалькі яго твораў), адзначае 75-годдзе з дня нараджэння А. Пысіна (артыкул А. Марціновіча "Пад знакам дабраты" і вершы). Змешчаны ліст галоўнага рэдактара "Пралескі" А. Сачанкі "Мадонны Беларусі", інтэрв'ю З. Лысенкі з дырэктарам Мінскага педвучылішча N 1 (яго ў свой час закончыў Н. Гілевіч) М. Палешчуком "Самая вялікая палітыка", артыкул В. Скідана "Маладзічкі-цёткі, дайце нам намёткі" (рубрыка "Традыцыі. Абрады. Фальклор"), іншыя матэрыялы.**

## СТАНЕ ПАМОЧНІЦАЙ... "ГАСПАДЫНЯ"

**Гэтым разам — зусім не аднайменны часопіс, а настольны каляндар, выдадзены як дадатак да часопіса. Асноўны змест яго займаюць лепшыя матэрыялы, апублікаваныя ў свой час на старонках гэтага выдання, якія па-ранейшаму не страцілі сваёй актуальнасці. Акрамя таго, у каляндар увайшлі і новыя артыкулы, нататкі, спецыяльна напісаныя да яго. Мяркуецца, што гэты выпуск "Гаспадыні" стане зусім не апошнім, а першым: плануецца працягваць выпуск календара.**

Крытыка

# АСАБІСТАЕ, НЕПАЎТОРНАЕ

Кнігу Міколы Мікуліча "Максім Танк і сучасная беларуская лірыка" (Мінск, "Навука і тэхніка", 1994 г.) адкрыла з пачуццём хвалявання. Даўно ўжо наспела неабходнасць пераасэнсавання творчага набытку нашых пісьменнікаў. Настаўнікам, выкладчыкам, студэнтам як хлеб патрэбны свежыя манаграфіі, даследаванні творчасці Я. Коласа, Я. Купалы, К. Чорнага, І. Мележа, В. Быкава, П. Панчанкі, многіх іншых аўтараў, часам незаслужана абдзеленых увагай.

Сваё асабістае, непаўторнае імкнецца сказаць услед за папярэднімі даследчыкамі творчасці М. Танка малады крытык. Шляхам асэнсавання ідэйна-эстэтычных традыцый і станаўлення творчай індывідуальнасці пісьменніка аўтар вядзе чытача да больш шырокага, на першы погляд, неабдымнага: "Максім Танк і мастацкія пошукі беларускіх паэтаў".

М. Мікулічам сабраны каштоўны матэрыял, прысвечаны ўплыву М. Танка на развіццё сучанай беларускай паэзіі, які ў сваю чаргу грунтуецца на глебе тых літаратурных традыцый, на якіх узрастаў сам паэт. Гэта перш за ўсё — духоўная спадчына Купалы, Коласа, Багдановіча, народна-песенны скарб беларусаў, здабыткі паэтычнай культуры іншых народаў свету.

Крытыка захапляе шырыню танкаўскага паэтычнага дыяпазону ўжо на самым пачатку яго творчасці. "Нават калі ўзяць нейтральны пласт, прыродаапісальныя творы, то яны не зводзяцца да традыцыйнай эмпірыкі, а ўбіраюць у сябе цэлы комплекс разваг і перажыванняў аўтара", — адзначае М. Мікуліч.

Назіранні аб творчасці М. Танка, М, Арочкі, Д. Бугаёва, У. Гніламёдава, А. Кабаковіч, І. Навуменкі, М. Стральцова і іншых даследчыкаў М. Мікуліч выкарыстоўвае не толькі для таго, каб данесці да чытача тую ці іншую думку вядомых крытыкаў, а хутчэй яму патрэбна гэта як пацвярджэнне сваіх творчых адкрыццяў, вывадаў.

"Максім Танк схіляўся ў сваёй лірыцы ды ідэйна-зместавай значнасці і ёмістасці, падкрэсленай канцэнтраванасці, вобразна-метафарычнага насычэння радка. Часта ў нязмушанасці прамаўлення, знешняй вяласці і "расхрыстанасці", сінтаксічнай раскутасці паэтавага слова была заключана гранічная ўнутраная сабранасць і скандэнсаванасць, прытоены залежы вялікай энергіі і волі, пачаткі сапраўднага літаратурнага мастацтва", — разважае крытык. Ён абгрунтоўвае свае думкі фактамі, якія сведчаць аб тым, што купалаўская рамантычная ўзвышанасць, коласаўская школа рэалізму, філасафізм Багдановіча па сутнасці і сфарміравалі ў маладога Танка цягу да паэтычнай шматмернасці, спалучэння рэалістычнасці, вострай публіцыстычнасці з абсягамі рамантычнага ўзлёту.

М. Мікуліч лічыць, што творчыя сувязі М. Танка пазбаўлены догмы, статычнасці, — жывыя, рухомыя, як сам час. Бясспрэчна, М. Танк сталеў як творца, яго творчыя арыенціры набывалі новае гучанне, новыя фарбы і адценні, яго філасофска-светапоглядная сістэма эвалюцыянізавала, сталела. Яму ўласцівы няспынны пошук: "паэзія павінна адкрываць новае".

У нетаропкім, удумлівым расповядзе М. Мікуліча пра паэзію М. Танка часам сустракаюцца недакладнасці. Пасля гаворкі аб тым, што форма верлібра з яго ўмоўнаасыцыятыўнай вобразнасцю цікавіла Танка на самым пачатку творчага шляху, аўтар манаграфіі піша: "Шырокае распаўсюджанне яна знойдзе пазней, на сучасным этапе, а тады сярод іншых у паэта былі і такія радкі:

**На касагоры хаты батракоў,**
**Пападпіраныя парканамі,**
**Голадам,**
**Чаканнем перамен,**
**Стаяць з дзіравымі капелюшамі стрэх...**

Даследчык далей поўнасцю цытуе верш "На касагоры". Чытачу цяжка зразумець, што ён хацеў сказаць. Асабіста мне бачацца ў гэтым творы досыць удалыя пошукі маладога Танка. Пазіцыя ж М. Мікуліча як крытыка ў адносінах да гэтага твора застаецца, *на жаль, нявысветленай*.

Прыемна адзначыць, што М. Мікуліч здолеў узбагаціць навукова-даследчыцкую канву сваёй кнігі цікавым фактычным матэрыялам. Напэўна, праца ў многім страціла б сваю каштоўнасць, калі б ён не выкарыстаў анкетнага апытвання паэтаў-сучаснікаў аб творчасці майстра. Выказванні М. Арочкі, У. Караткевіча, Дануты Бічэль-Загнетавай і многіх іншых падкупляюць сваёй шчырасцю, індывідуальнай своеасаблівасцю непасрэднасцю, высокім інтэлектуальным узроўнем. Яны застануцца ў гісторыі танказнаўства як яшчэ адна цікавая, адметная старонка.

Значную ўвагу М. Мікуліч як даследчык надае перакладчыцкай дзейнасці М. Танка, сапраўднаму "універсітэту стылю" паводле К. Чукоўскага.

Малады крытык абгрунтоўвае думку аб тым, што танкаўскі герой—чалавек "нацыянальна-свядомы, актыўны жыццялюб, высвечваецца праз акт мэтанакіраванага дзеяння, заўсёды ці амаль заўсёды падаецца ў незвычайных фізічных высілках, духоўным напружанні".

Высока ацэнена аўтарам кнігі творчасць М. Танка перыяду Вялікай Айчыннай вайны. *Тым не менш*, М. Мікуліч не абмінуў працэсу запавольвання творчага руху паэта ў канцы 40-х — пачатку 50-х гадоў. Ды і сам паэт не хавае таго, што ў свае падборкі "звычайна даваў адзін "жалезабетонны" верш, які павінен быў ратаваць ад прыдзірак цэнзараў і строгіх ідэолагаў". На жаль, калі быць шчырымі, і ў апошніх зборніках паэта ("Збор калосся", 1989 г.) ёсць некалькі вершаў, якія там, як парушынкі ў воку. Але гэтых парушынак малады даследчык, свядома ці не, — не заўважае. Магчыма, ён мае рацыю. Бо такія вершы, як "Унука вяду ў маўзалей" П. Панчанкі, "Гадзіннік Леніна" М. Танка — гэта водбліскі былой веры.

Інтэлігентнасць, удумлівасць, цярплівасць М. Мікуліча як даследчыка, яго імкненне давесці да ладу, плённа выкарыстаць багаты матэрыял пра сувязь М. Танка з сучаснай беларускай паэзіяй заслугоўваюць вялікай увагі. На думку У. Гніламёдава, якая выказана ва ўступным слове да кнігі, "кожны тут чэрпае сваё, роднаснае: А. Вялюгіну, скажам, блізкая вобразна-жывапісная сіла Танкавага слова, У. Караткевічу — яго рамантычны ўзлёт, П. Макалю — грамадзянска-публіцыстычны пафас, А. Вярцінскаму — інтэлектуальная аголенасць думкі, Я. Сіпакову — шматграннасць і непасрэднасць успрымання жыцця, Р. Барадуліну — паэтычнае "язычніцтва" і міфалагізм, В. Зуёнку — маштаб сацыяльна-мастацкага абагульнення".

Цяжка не пагадзіцца з трапнымі высновамі вядомага крытыка...

**Галіна ДАШКЕВІЧ**

*г. Мазыр*

# З КЛОПАТАМ АБ ШЫРЫНІ ДУХОЎНАЙ

Нямала гаварылася аб тым, што апошнім часам наша літаратура нашмат пабагацела. І не толькі таму, што з'явіліся новыя творы, а і дзякуючы вяртанню з небыцця таго, што па розных прычынах забывалася, не згадвалася. Адпаведным чынам уносяцца карэктывы ў выкладанне літаратуры як у сярэдняй школе, так і ў вышэйшых навучальных установах. Як слушна зазначае кандыдат педагагічных навук Тамара Мушынская, "уключэнне ў школьную праграму выдатных твораў беларускай літаратуры, якія па розных прычынах не вывучаліся раней, але якія па праву можна лічыць нацыянальнай класікай, вымагае перагледзець некаторыя аспекты работы над літаратурным творам у класе. Новы якасны ўзровень выкладання патрабуецца яшчэ і таму, што беларуская літаратура сёння ставіцца на першае месца і да яе пераходзіць роля галоўнай крыніцы і сродку фарміравання асобы ў межах школьнай адукацыі".

Гэтымі словамі Тамара Фёдараўна адкрывае сваю кнігу "Беларуская літаратура 20—30 гадоў", якую выдавецтва "Народная асвета" выпусціла ў серыі "Бібліятэка настаўніка беларускай мовы і літаратуры". У полі зроку аўтара — творчасць пісьменнікаў, без якіх, несумненна, немагчыма сёння ўявіць беларускую літаратуру.

Зусім новае, чым раней, сёння ў нас стаўленне да М. Гарэцкага. З яго твораў і пачынае гаворку Т. Мушынская: "Аповесці Максіма Гарэцкага (аналізуюцца "У чым яго крыўда?", "Меланхолія", "Ціхая плынь", "На імперыялістычнай вайне", "Роднае карэнне". — В. Ц.) на першы погляд могуць падацца маладому чытачу дужа лакальнымі па задуме і ўзнятых жыццёвых пластах. У першых двух аповесцях і ў дакументальна-мастацкіх запісках "На імперыялістычнай вайне" — адзін скрозны герой Лявон Задума. Яго жыццёвая сфера — родны край, свая сям'я і аднавяскоўцы, знаёмыя і сваякі з іншых вёсак і мястэчка, вучылішча з выкладчыкамі і сябрамі, прыяцелі, Лявонавы асабістыя настроі і перажыванні, хоць у іх і гучаць грамадскія матывы. Гэта і нязгода з векавечнай прыгнечанасцю вёскі, пакорай лёсу і цемраю, усведамленне сябе шукальнікам шляхоў да лепшай долі свайго народа. У аповесцях, асабліва ў другой і трэцяй, мала падзей, мала пакручастых паваротаў сюжэта, хоць і многа герояў, акрэсленых яскрава і запамінальна".

Але ж тут жа з'яўляецца і ўдакладненне: "Гэта ўражанне па першым чытанні аповесцей. Калі ж пачынаеш удумвацца і ўглядацца ў рэчаіснасць, узноўленую Максімам Гарэцкім, адкрываецца складанасць задумы цыкла твораў і наватарскае яе вырашэнне. Шырокая панарама беларускай дакастрычніцкай вёскі намалявана каларытна, жыццёва".

Здавалася б, нічога незвычайнага ў падобным падыходзе да аналізу пэўных твораў няма. Але гэта так, калі не прымаеш пад увагу, каму ў першую чаргу кніга адрасавана. А яе Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь прапануе настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. А, значыць, праз іх, настаўнікаў, і старшакласнікам, ды і іншым вучням. Тут жа акурат і важна, каб як педагогі, так і іх выхаванцы раз зразумелі: у літаратуры важна не што сказаць, а як сказаць. Бо пры тым уважлівым чытанні, да якога і запрашае Т. Мушынская, лёгка высветліць, наколькі арыгінальны, глыбока самабытны пісьменнік М. Гарэцкі.

Запрашаючы да чытання М. Гарэцкага ўдумліва, засяроджана, аналітычна, Т. Мушынская падае матэрыял аформленым у некалькі ўрокаў (у далейшым гэты прынцып захаваны, аналіз твораў суседнічае з практычна-метадычнымі рэкамендацыямі, тут жа прыводзяцца заданні, якія можна даць вучням, пытанні, што ўзнікнуць пры абмеркаванні.

Аналізуючы "Запіскі Самсона Самасуя" Андрэя Мрыя, аўтар адразу падкрэслівае адметнасць твора: "сатырычны раман, адзін з самых арыгінальных па жанру твораў беларускай літаратуры". Таму і ў многім інакшы да яго падыход. Важным становіцца высветліць, наколькі пісьменніку ўдалося ўбачыць негатыўнае ў самой эпосе, як А. Мрый праз стыхію камічнага паказаў драматычнасць часу, а за гэтай драматычнасцю калі-нікалі праступаюць і трагічныя моманты, што вядуць да знішчэння чалавека як асобы.

Акрамя згаданых пісьменнікаў, у кнізе па-новаму прачытваюцца раманы "Сцежкі-дарожкі" і "Вязьмо" Міхася Зарэцкага, "Зямля" Кузьмы Чорнага. Зноў жа прываблівае ўменне аўтара некалькімі дакладнымі штрыхамі заўважыць у тым ці іншым творы найбольш істотнае, падаць яго такім чынам, каб узнікла жаданне паразважаць аб плённасці аўтарскага пошуку.

Эпіграфам да кнігі ўзяты словы М. Багдановіча. Сярод іх і такія радкі:

***Жыві і цэльнасці шукай,***
***Аб шырыце духоўнай дбай.***

З клопатам аб шырыні духоўнай вучняў і настаўнікаў напісана і гэтая патрэбная кніга.

**Васіль ЦІМОШАК**

Лаўрэаты-94

# ДЗІЎНАЯ РОДНАЯ МОВА...

Спачатку было Слова. Гэтае біблейскае выказванне вельмі дарэчы. Бо і ў дадзеным выпадку таксама пачалося ўсё са слова. Толькі не са звычайнага, а з радыёклуба "Жывое слова", першая перадача якога выйшла ў эфір у 1963 годзе. Дзякуючы вядучаму "ЖС", вядомаму беларускаму крытыку і літаратуразнаўцу, а некалі і дыктару Уладзіміру Юрэвічу шматлікія слухачы (найперш, вядома, вучні, хоць не засталася ўбаку і дарослая аўдыторыя) атрымалі магчымасць раз у месяц сустракацца з перадачай, што дае грунтоўныя і прынцыповыя адказы па самых розных пытаннях, якія тычацца развіцця беларускай мовы, яе стасункам з іншымі мовамі, культуры вымаўлення. Тым самым кожным разам адкрываўся аб'ёмны і шматгранны свет, звязаны з яго вялікасцю СЛОВАМ.

Праходзілі гады, падрасталі першыя слухачы "ЖС", станавіліся дарослымі, у іх з'яўляліся ўласныя дзеці, якія з цягам часу таксама прыахвочваліся да гэтай перадачы, такой патрэбнай і карыснай. Ва Уладзіміра Міхайлавіча назапасілася шмат матэрыялаў, якія, як ён разумеў, не павінны ляжаць мёртвым грузам. Так і нарадзілася задума кнігі. Кнігі пра СЛОВА. З'явілася і яе назва — "Слова жывое, роднае, гаваркое...". Навукова-папулярнай кнігі, што неўзабаве пабачыла свет у выдавецтве "Юнацтва".

Патрэбна адзначыць, што "Юнацтва" ўвогуле надае вялікую ўвагу выпуску літаратуры, якая пашырае кругагляд юных чытачоў, выхоўвае іх людзьмі адукаванымі, дае ім веды па самых розных галінах. Не выключэнне і выданні, што маюць мовазнаўчы характар. Прынамсі, амаль адначасова з кнігай У. Юрэвіча з'явілася яшчэ адна прыкладна такога ж профілю — "Мой белы дзень" Н. Гілевіча, падзагаловак якой ("кніга пра фальклор і мову нашай Бацькаўшчыны") яскрава сведчыць пра змест зборніка. На жаль, абедзве яны не заўважаны нашай крытыкай. Тым больш прыемна, што "Пра слова жывое, роднае, гаваркое..." У. Юрэвіча ёсць мажлівасць згадаць цяпер, больш чым праз два гады пасля выхаду яе. Як вядома, Уладзіміру Міхайлавічу за гэтую кнігу прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь.

Першае, што хацелася б адзначыць: гэтае выданне павінна стаць свайго роду настольным. Без яго не абысціся ў штодзённай працы ні настаўніку-славесніку, ні выхавальнікам дзіцячых садоў, ні бацькам. Пры ўмове, безумоўна, калі яны хочуць, каб іх дзіця не проста больш-менш прыстойна навучылася размаўляць па-беларуску, а і авалодала усім багаццем роднай мовы. А па-другое... Гэта вынікае акурат з той важнасці, што мае кніга. Відаць, навукова-метадычнаму Цэнтру вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь неабходна парупіцца, каб кніга ў бліжэйшы час пабачыла свет у серыі "Школьная бібліятэка" як мага большым тыражом...

Уладзіміру Юрэвічу ўдалося не проста сістэматызаваць багаты матэрыял, а і ўмела, даходліва падаць яго. Прадуманай, я б сказаў, — "стройнай" атрымалася кніга і па сваёй кампазіцыйнай будове. Адкрываецца яна "Павітаннем", свайго роду зваротам да юнага чытача, запрашэннем зрабіць разам з аўтарам падарожжа ў вялікі свет слова, свет мовы.

Дарэчы, тут жа тлумачыцца і значэнне гэтага панядця: "Вось мы і павіталіся з вамі. А ці не здалося вам нязвыклым слова "Павітанне", як назваў я гэты ўступ да кнігі? Не шукайце яго ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы". Мне яно ўрэзалася ў памяць са школьных гадоў. Калі вучань заходзіў у клас пазнячыся і не даваў свой "Добры дзень", тады настаўнік гаварыў яму: "А дзе тваё павітанне?"

І тут жа тлумачыцца — зноў жа проста, ненавязліва, а разам з тым і вычарпальна, чаму ў кнігі з'явілася менавіта такая назва, чаму гэтае слова і жывое, і роднае, і гаваркае.

А калі прачыталася "павітанне", калі аўтар і чытачы дасягнулі пэўнага паразумення, сталі ў нечым і блізкімі адзін аднаму, і патрэбнымі, сама час перайсці да галоўнай гаворкі. Яна аб'яднана ў дзве вялікія, аб'ёмныя часткі, свайго роду — кнігі ў кнізе. Першая — "Пазнавальная". Дастаткова згадаць асобныя раздзелы, каб пераканацца, наколькі шырокі абсяг праблем і пытанняў цікавіць У. Юрэвіча, як жадаецца яму, каб уражлівыя дзіцячыя душы як мага больш спасціглі для сябе — "Адкуль ты, слова", "Нараджэнне мовы", "Ад славянскіх вытокаў", "З легендаў і казак".

Назву апошняму раздзелу далі радкі вядомага верша М. Танка "Родная мова": "З легендаў і казак былых пакаленняў, // З калосся цяжкога жытоў і пшаніц, // З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў, // З грымучага ззяння бурлівых крыніц, // З птушынага шчэбету, шуму дубровы, // І з гора, і з радасці, і з усяго // Таго, што лягло назаўсёды ў аснову // Святыні народа, бяссмерця яго, — // Ты выткана, дзіўная родная мова".

Наколькі ж яна непаўторная, мілагучная, напеўная і спеўная, як шмат можна сказаць і перадаць, здавалася б, зусім простымі, звычайнымі словамі, можна прачытаць у частцы "Даведная". Гэта — невялічкая моўная энцыклапедыя, што складаецца з трох самастойных раздзелаў: "Як вас завуць", "Ад мянушкі да прозвішча", "Мова планеты зямля". Першыя два ўдакладнення не патрабуюць. І так зразумела, пра што гаворка: У. Юрэвіч дае тлумачэнне дзесяткам імёнаў, прозвішчаў, паказваючы іх значэнне, паходжанне. Што да раздзела "Мова планеты



зямля", дык у ім таксама мноства прыкладаў, але яны тычацца паходжання назваў частак свету, нашай дзяржавы, многіх населеных пунктаў, рэк, азёр, балацявін... Што ні прыклад, то магчымасць адчуць, што і тут нічога выпадковага няма, што тая ж назва невялікай рачулкі акумулявала часцінку з таго, што завецца народнай памяццю, бо, называючы яе так, а не інакш, нашы продкі пры гэтым ішлі ад канкрэтных рэалій.

Кніга У. Юрэвіча напісана не проста таленавіта. Яна напісана з турботнай сумленнасцю аднаго са старэйшых нашых літаратараў, каму жадаецца аднаго — каб жыла і надалей квітнела родная мова, каб наступнікі нашы ставіліся да яе яшчэ з большай любоўю, бо ім — а ў гэта, нягледзячы ні на што, усё ж хочацца верыць — не давядзецца адстойваць яе права на жыццё, яна ўжо будзе адчуваць сябе сапраўдным гаспадаром у суверэннай дзяржаве.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# САЛДАЦКАЯ ПРАВАТА

## З ГІСТОРЫІ ДВУХ ВЕРШАЎ АЛЯКСЕЯ ПЫСІНА

Аднаго разу летнім днём у канцы сямідзесятых гадоў я і Аляксей Васільевіч аўтобусам "Магілёў—Быхаў" паехалі па грыбы ў прыдняпроўскі бор. З небагатым зборам вярталіся да шашы. Пайшоў густы дождж. Непадалёк ад гомельскай шашы, ля вёскі Слабодка Магілёўскага раёна, на ўскрайку лесу селі адпачыць. Патрэбна было вогнішча, каб абсушыцца.

Аляксей Васільевіч спытаў у мяне:

— А ты, Віктар, умееш распаліць вогнішча ў дождж?

— Зараз убачыш, — адказаў я.

Знайшліся густыя яліны з сухімі ніжнімі галінкамі, наламаў іх. А мокрага ламачча было ўдосталь. Праз колькі хвілін мы сядзелі ля вогнішча, вопратка наша пакрысе пачала падсыхаць. Аляксей Васільевіч застаўся задаволены тым, як я запаліў і даглядаў вогнішча. Нават пацікавіўся, дзе я навучыўся. Затым нешта задумаўся, зажурыўся і вымавіў з сумам:

— Колькі я за вайну вогнішчаў запаліў, не злічыць!

На пожахах мы спяклі сала і елі яго, пасялянску падстаўляючы лусту хлеба, бо, ходзячы па лесе, прагаладаліся.

І зусім нечакана для мяне Аляксей Васільевіч задаў пытанне:

— А ты, Віктар, гідлівы ці не?

Я сумеўся. Сказаць, што не падман. Каб вельмі — таксама няпраўда, бо ў вайну даводзілася і бульбяныя лупіны есці, і вотрубы, і траву казелец.

Аляксей Васільевіч не стаў чакаць адказу і загаварыў сам:

— А я — не! З вайны засталося.

І расказаў эпізод пра выхад з акружэння. Было гэта на Ленінградскім фронце. Ішлі абложныя асеннія дажджы. Прабіраліся па лясных балотных дарогах. Ваенную тэхніку не кідалі. Гарматы часта загразалі ў каляінах. Тады салдаты скідвалі з плеч шынялі і клалі іх пад колы гармат. І з лесу на плячах насілі дрэвы, каб пракласці па балоце дарогу-ляжнёўку.

— Калі выйшлі з акружэння, то ўсе былі абяссіленыя. Распалілі вогнішчы. У лесе былі грыбы. Не ведаю іх назвы. Вялізныя, тоўстыя. Такіх я больш нідзе не бачыў. Грыбы мёрзлыя. Іх елі сырыя. Толькі ледзь-ледзь падагравалі на агні, бо не адкусіць мёрзлы. У грыбах ажывалі чэрві. Буйныя. На іх не звярталі ўвагі: салдаты ўжо два тыдні галадалі. Спаць пакладліся на сырую зямлю, дзе хто стаяў. А пад раніцу ўсіх засыпала снегам. Хто застаўся ў жывых, адзін аднаго адкопвалі. Вельмі шмат нашых салдат засталося там спаць вечным сном. А ў жывых — крывавы панос. І зноў: смерць, смерць...

Я не стрымаўся і спытаў:

— І ты еў гэтыя грыбы?

— І я еў.

Тут я ўспомніў прымаўку свайго вясковага суседа Міхася Ісачанкі: "Як недаясі, дык залатога каня за скарынку хлеба аддасі".

Гадоў праз пятнаццаць пасля выхаду з акружэння былы радавы салдат-гвардзеец А. Пысін, у 1957 годзе ўжо вядомы беларускі паэт, напісаў верш. Тут жа, ля вогнішча, Аляксей Васільевіч па памяці прачытаў мне яго.

### ГВАРДЗЕЙСКАЙ ДАРОГАЙ

**Дарога згубілася ў топкім бяздонні,**
**У асеннім карыце гразі.**
**Гарматы загразлі,**
**І топяцца коні,**
**Хоць сам у хамут — і вязі.**

**Загад батальёнам: "Сюды на плячах**
**Прынесці з дзялянак дарогу!"**
**І неслі мы сосен ствалы**
**Па карчах,**
**Як зброю для перамогі.**

**Запахлі кіламетры свежай смалой,**
**Бруснічнікам, мохам і потам.**
**Па гулкай ляжнёўцы пакрочылі ў бой**
**Гвардзейскія дружныя роты.**

**І з ротай гвардзейскай я ў сталасць ішоў,**
**Крутыя пазнаў далячыні.**
**Таму не шукаю спакойных шляхоў —**
**Масціць іх мяне навучылі.**

Як бачым, тут ёсць усё, як і было тады на Ленінградскім фронце. Няма толькі начлега, той жудаснай ночы з чарвівымі грыбамі і смерцю. Бадай што няма яшчэ і антываеннай скіраванасці ў радках верша. "Брацкія магілы. Абеліскі. Абпаленыя плацдармы. Цені неданесеных штыкоў. Шчымлівы боль, журба па загінуўшых сябрах". (А. Пысін. "Перажытае". Аўтабіяграфія). Усё гэта з'явілася крыху пазней, пасля глыбокага жыццёвага роздуму і філасофскага асэнсавання сутнасці вайны.

Да той ночы, калі выйшлі з акружэння, паэт вяртаўся не адзін раз. А непасрэдна ёй прысвечаны яшчэ адзін верш, які датаваны 1967 годам.

### БАЛАДА ПРА НАЧЛЕГ

**Нядоўгі прывал. Нядоўгі начлег.**
**Пад намі снег, над намі снег.**
**Вароты рыпяць, ці нашы сляды?**
**Дарога адна, дарога туды,**
**Дзе будзем ануча ў цяпле сушыць,**
**Да раніцы спаць, да старасці жыць.**
**Налева зіма, направа зіма,**
**Ні печы няма, ні дома няма.**
**Граната ў руках. Патрон у ствале.**
**Чаго нам, сябры, яшчэ не стае!**
**Стралковая рота сопку ўзяла.**
**...Пад намі зямля, над намі зямля.**

У гэтым творы вайна ўжо ў іншым вымярэнні: знутры, з іншым колерам, з антыгуманай сутнасцю, з усёй сваёй жудасцю. Ці абавязкова толькі той начлег? Начлегі былі і потым — дзесяты, соты...

Калі я спытаў у Аляксея Васільевіча, што азначае радок, які яго сэнс: "...пад намі — зямля, над намі зямля", ён адказаў адным словам і катэгарычна: "Магіла!"

Верш "Балада пра начлег" напісаны пазтам роўна праз дзесяць гадоў пасля "Гвардзейскай дарогі". Надрукаваць яго было няпроста. Рэдактары лічылі верш песімістычным, без патрыятызму. У першых публікацыях замест радка "...Пад намі зямля, над намі зямля" быў той жа, што ў пачатку балады, — "Пад намі снег, над намі снег". Мабыць, гэта было ўступкай паэта рэдактарам, каб уратаваць верш? Пазней паэт вярнуў слова "зямля".

Ёсць у баладзе словы "Граната ў руках". Аляксей Васільевіч не адзін раз гаварыў, што салдат мог з ранца выспаць частку патронаў, што застацца без хлеба, але гранату ніколі не выкідваў. Ніколі! Ніводзін салдат. Гранаты памагалі адбіцца ад насядаўшага ворага. Гранаты гаварылі рашаючае слова, калі салдаты ішлі на прарыў з акружэння.

Пасля прагляду фільма "Беларускі вакзал" Аляксей Васільевіч не адзін раз з гневам гаварыў пра песенны радок: "Мы за ценой не постоим":

— І не стаялі!

Гвардзеі радавы А. Пысін быў сведкам не аднаго выпадку, калі сопку ці горад бралі лабавой атакай толькі затым, каб уключыцца ў зводку Саўінфармбюро. З салдацкімі жыццямі, на вялікі жаль, часта не лічыліся...

Паэт меў права напісаць такі верш. Паэт меў права ў аўтабіяграфіі напісаць: "Салдацкая правата — правата сучаснасці", "Мінулае належыць нам так, як і будучыня".

Запавет паэта нашчадкам такі: не забывайце мінулага ў імя будучыні!

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ, краязнаўца**

*г. Магілёў*

Сярод кніг

# ДАЛУЧЭННЕ ДА ДУХОЎНАСЦІ

У Рэспубліканскім цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей выйшаў спецыяльны навукова-бібліяграфічны паказальнік (складальнікі Л. Мазурына і Т. Цяпкова) "Сцяжынка ў даўніну".

Гэты арыгінальны і патрэбны даведнік пачынаецца са спісу асноўнай літаратуры, што ўключае ў сябе навуковыя працы па беларускім фальклоры. Прыводзяцца таксама асобныя выданні з серыі "Беларуская народная творчасць", згадваюцца навуковыя і навукова-папулярныя артыкулы, метадычныя распрацоўкі, сцэнары. Шырока прадстаўлена літаратура, якая прысвечна святам, прысвяткам і абрадам пэўнай пары года. Яна аб'яднана па раздзелах "Зіма", "Вясна", "Лета", "Восень". Рэкамендацыйным публікацыям папярэднічае артыкул агляднага плана.

Дапаможнік спатрэбіцца і выхавацелям дзіцячых садкоў, пра што, дарэчы, не забываюць нагадаць складальнікі: "... разам з дзецьмі можна пайсці да старажылаў сваёй вёскі, распытаць іх, як праводзіліся тое ці іншае свята ў даўнейшыя часы, якія спяваліся песні, якія абрадавыя дзеянні выконваліся, як ладзіліся гульні, вадзіліся карагоды. Было б вельмі добра, каб размовы запісваліся на магнітную стужку, што ў далейшым дасць магчымасць развучыць абрадавыя песні "з голасу", засвойваючы не толькі дакладную мелодыю, але і манеру выканання".

# ПЯТЫ ТОМ

біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" нядаўна пабачыў свет у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Гэтым разам ён ахопліваё жыццяпіс пісьменнікаў у межах прозвішчаў "Пестрак — Сяўрук". Абодва фарміраваліся за ўмовах заходне-беларускай рэчаіснасці. Калі імя П. Пестрака, як кажуць, ці не ва ўсіх на слыху, дык пра П. Сеўрука, на жаль, ведаюць далёка нямногія. Пражыў ён усяго 24 гады, памёр ад сухотаў, а імя яго вернута з небыцця дзякуючы Я. Брылю, М. Дзелянкоўскаму, У. Калесніку...

Як і папярэднія тамы, гэты складзены такім чынам, што поруч са знакамітымі аўтарамі годна прадстаўлены і тыя, хто ці быў незаслужана забыты, ці пра яго захавалася вельмі мала звестак.

Том выйшаў пад рэдакцыяй прафесара А. Мальдзіса. Змешчаны здымкі У. Крука, а таксама з архіва БелЭН, з Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.

ЛіМ
ЧАСАПІС

## У ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

вядомага беларускага паэта А. Пысіна, 22 сакавіка, адбылася вечарына на філфаку Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. Куляшова. Аб жыцці і творчасці пісьменніка-земляка ў сувязі з 75-годдзем з дня яго нараджэння гаварылі дэкан філфака Я. Клімуць, паэт В. Карпечанка, кіраўнік секцыі перакладу і сувязей літаратуры СП Беларусі І. Чарота, сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі У. Дуктаў, блізкі сябра Аляксея Васільевіча В. Арцем'еў. Вершы А. Пысіна чыталі студэнт А. Дзятлаў, паэт А. Мельнікаў. З уласнымі творамі выступілі паэт В. Кунцэвіч, члены філфакаўскага літаб'яднання "Зніч" Наталля і Таццяна Грыгарашчанкі. Прысутныя цёпла віталі ўдаву А. Пысіна Еўдакію Сямёнаўну.
Удзельнікі вечарыны наведалі інстытуцкі музей "Літаратурная Магілёўшчына" і папоўнілі яго экспазіцыю партрэтам А. Пысіна, які намаляваў магілёўскі мастак В. Камароў.

І. САСНОЎКІН

## РЭХА... "РЭХА СТАГОДДЗЯЎ"

"Рэха стагоддзяў" — так называецца бібліяграфічны даведнік, што выпускае Агенцтва "Геронт-А" Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Дзякуючы выдавецкаму цэнтру "Бацькаўшчына" пабачыў свет яго другі выпуск. "Мінулае Беларусі ў матэрыялах айчыннага друку" — гэты падзагаловак дакладна вызначае змест матэрыялаў, што трапілі ў поле зроку складальніка П. Кручак. Праўда, у параўнанні з першым выпускам, пра які мы паведамлялі, улічаны заўвагі і прапановы чытачоў і паведамленні пра асобныя выданні вынесены ў спецыяльны раздзел, а ў ім ажно 34 пазіцыі. І гэта нямала, калі ўлічыць, што выданне задумана як штоквартальнік. Прытым у спісе пазначаны кнігі не толькі дзяржаўных выдавецтваў. І не адно мінскіх. Праўда, тыя, што выйшлі на месцах, часам маюць вельмі невялікі наклад. Як, напрыклад, "Археалагічныя помнікі Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці" У. Калыціна, выпушчаныя ў Магілёве — усяго 500 асобнікаў.
Ёсць у даведніку і добравядомыя па папярэдняму выпуску раздзелы "Гісторыя Беларусі", "Гістарычныя персаналіі", "Дапаможныя гістарычныя дысцыпліны", а таксама "Што чытаем?".
З. Яцкевіч падрабязна расказвае пра матэрыялы гісторыка-краязнаўчага, адраджэнскага характару ў часопісе "Зрок". На жаль, неабходна канстатаваць — былога. Гэтае грамадска-палітычнае і літаратурна-мастацкае выданне, што з'яўлялася органам Беларускага Таварыства інвалідаў па зроку і выходзіла са студзеня 1991 года, яшчэ леташняй восенню перастала існаваць. І, па праўдзе кажучы, нешта не назіралася, каб нехта асабліва абурыўся.
А што да самога даведніка, то ён вельмі патрэбны самаму шырокаму чытачу, бо рэха яго адгукваецца ў сэрцах людзей, неабыякавых да беларускасці, жадаючых адшукаць патрэбныя выданні, артыкулы, нарысы і пазнаёміцца з імі.

## "ЛІХТАРЫК" У ДЗЯРЖЫНСКУ

У той дзень ля Дома культуры Дзяржынска сабраліся дзеці з усіх дзіцячых садкоў горада. З хлебам-соллю яны сустракалі гасцей са сталіцы — выхаванцаў дзіцячага садка "Ліхтарык". Разам з імі да маленькіх гледачоў прыехала дзіцячы кампазітар, музычны кіраўнік С. Галкіна. У вялікай зале Дома культуры госці — удзельнікі ансамбля "Ліхтарык" — выканалі песні Святланы Дзянісаўны на вершы Я. Купалы, П.Броўкі, А. Вольскага, У. Карызны, Н. Галіноўскай і М. Чарняўскага.
Канцэрт пасля перапынку прадоўжыўся ў танцавальнай зале, дзе дзеці не толькі спявалі, але і ўсе разам гулялі ў розныя гульні, танцавалі.
Пасля канцэрта адбылася сустрэча-семінар загадчыкаў, музычных кіраўнікоў дашкольных устаноў Дзяржынска з супрацоўнікамі дзіцячага садка "Ліхтарык", прадстаўнікамі Фрунзенскага [illegible]ённага аддзела адукацыі Мінска.
Цяпер "Ліхтарык" рыхтуецца да новага [illegible]нцэртнага падарожжа: [illegible]ькіх артыстаў чакаюць [illegible]равеснікі з Вілейшчыны.

М. Ч.

Проза

*Яна нарадзілася ў самым дзівосным кутку беларускага Палесся ў 1962 г. Адарваныя дзесяткамі вёрстаў ад райцэнтра, Уласы раскінуліся на прыпяцкім прыбярэжжы. Сюды не дабіралася нават даваенная брукаванка, абрываючыся на аравіцкай строме. Балотамі і пералескамі да яе вёсачкі бралася ўтомная гаць, паабапал якой віднеліся купкамі хаты. Маленства яе было падобным на дзівосную казку, знітаванае з прыродай: бусліныя крылы над галавой і курлыканне жураВОЎ... Але ўжо ў яе маленстве ўсяго за сем кіламетраў, на супрацьлеглым беразе Прыпяці, тварылася непрадбачнае зло: будаваліся першыя блокі Чарнобыльскай атамнай станцыі. Вярэдліва і яе дзіцячае сэрца прывыкала да ўсіх абяцаных шчадрот мірнага атама. А трубы Чарнобыльскай станцыі сталі рэальнасцю ў пейзажы яе маленства.*

*Пасля Радзінскай васьмігодкі Ніна Рыбік скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум і працавала ў родным Хойніцкім раёне бібліятэкаркай у вёсцы Клівы. Ужо тады допісы Ніны пачалі з'яўляцца на старонках раённай газеты, дзе яе і заўважылі, і запрасілі на сталую працу. З 1981 года Ніна Рыбік у журналістыцы. Працуе ў сельгасаддзеле раёнкі, завочна заканчвае факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Сягоння — рэдактар "Астравецкай праўды".*

*Як і ўсіх землякоў, Чарнобыль ашаломіў яе да знямення. Яна — сведка горкага высялення сваёй вёскі, сыходу яе ў нябыт. Гэта і штурхнула ўзяцца за пяро, выгаварыцца ў мастацкім жанры. "Эвакуацыя" — першы празаічны твор маладога аўтара. Спадзяёмся, што народзяцца і новыя творы, бо Ніне ёсць што сказаць пра нашу агульначалавечую трагедыю.*

*Мікола МЯТЛІЦКІ*

Ніна РЫБІК

# ЭВАКУАЦЫЯ

*Вёсцы Уласы Хойніцкага раёна, зараз нябожчыцы, і яе жыхарам, раскіданым па свеце чорным ветрам Чарнобыля, п р ы с в я ч а е ц ц а.*

Світанак выспеў у росную звонкую раніцу. Сонца ўжо далёка адарвалася ад вершалін дрэў і забаўлялася, запальваючы рознакаляровыя ліхтарыкі ў трапяткіх кропельках, што блішчалі на маладым мурагу, лісціках, якія нядаўна толькі выпырснулі з пупышак, белых язычках вішнёвай квецені, што рвалася на волю з цесна спавітых бутонаў. Дзень абяцаў быць пагодлівым, як і ўчарашні.

Алена заканчвала ўпраўляцца па гаспадарцы і снавала, бы той чаўнок, між хатай, склепам і хлявом. Выскачыла да калодзежа, набрала поўныя вёдры, апёкшы босыя ногі сцюдзёнымі кроплямі, што праліліся цераз край, але за дужкі ўзяцца не паспела — непрывычны гул прымусіў глянуць уверх. Высока ў небе проста на сонца ляцеў верталёт. Міжволі ўспомніла, што чула гэты гул і як малако цадзіла, і як чыгуны бульбай накладала. "Разлёталіся нешта сёння", — падумала з незразумелай трывогай.

— Здароў была, — пужнула гэтую трывогу суседка Мар'я. — На што гэта так угледзелася?

— Гляджу вось, што верталёты цэлы ранак ляцяць. І ўсё кудысь у адзін бок. Мо вучэнні якія пачаліся.

— Мо й вучэнні. А то яшчэ на ферме бабы казалі, што прыехаў Лёнік Кацярыны Антоніхі з Янава, дык гаварыў, што ўзарвалася нешта на станцыі атамнай.

— Ат, ці мала дзе чаго ў свеце рвецца, — махнула рукой Алена. — Ты вось што, Мар'я, зачыні сёння ўдзень маю карову, як прыйдуць з пашы. Я на поле пайду. Там кавалак цаліка з'аралі, то перасекчы трэба.

Янавам ва Уласах, ды і ва ўсіх навакольных вёсках, называлі па старой звычцы горад Прыпяць, які ледзь не ўвачавідкі вырас на месцы былога сяла з такой назвай, непадалёк ад Чарнобыля. Туды, у Янаў, уласоўцы часта ездзілі па каўбасу і свежыя памідоры, асабліва, калі бяседа якая збіралася. Ды і не дзіва — хоць і Украіна ўжо, але туды ехаць — кіламетраў сем, толькі праз раку на пароме пераправіцца — і там, лічы. А да райцэнтра гадзіны паўтары на аўтобусе трэсціся трэба.

У Прыпяць падаліся і многія хлопцы з іх вёскі, а за імі і дзяўчаты — хто працаваць, хто вучыцца, каторых замуж пабралі. Вось і Лёнік, большы Антонаў хлопец, таксама, як прыйшоў з Афганістана, у Прыпяць паехаў. Кажа, добра там. Працуе на атамнай станцыі і зарабляе, мусіць, нядрэнна. Дадому часта прыязджае. Мабыць, зноў на выхадныя прыехаў. І што там у іх узарвалася? Хоць бы людзей не пабіла, а то ж там усе такія маладзенькія працуюць. Хтосьці не дагледзеў. Цяпер вінаватых шукаць будуць.

Так за думкамі непрыкметна Алена дайшла да поля. Паставіла ў цяньку бітончык з квасам, скінула кофту — сонца ўжо добра-такі прыпякала — і ў адной сарочцы і спадніцы стала секчы. Чорныя важкія скібы падаваліся марудна, але Алену гэта не палохала — не столькі яе рукі за свой век дзела перарабілі. Наадварот, настрой быў добры: на свежым месцы бульба павінна ўрадзіць, ды і сорт яна ў людзей выменяла новы — вельмі ўжо ж хвалілі. Як год добры прыдасца, то хопіць і сабе, і дзеці ў горад набяруць на зіму, каб не бегаць з торбай штодня ў магазін.

Працавалася ў ахвоту. Толькі душнавата было. І квас стаў цёплы, нясмачны, не наталяў смагу. Але да бітончыка ўсё адно падыходзіла раз-пораз — губы перасыхалі, і ў роце чамусьці зрабілася горка, бы палыну наелася. Толькі вецер, моцныя, але цёплыя парывы якога гналі хвалі па жыце, пасеяным за мяжой, хоць і падымаў пыл, кідаў у вочы, нос і рот, але прыносіў жаданую прахалоду, ратаваў ад спёкі.

Надвячоркам стала крыху лягчэй дыхаць, але гарката ў роце ўсё адно не праходзіла. Вяртаючыся з работы, зайшоў на поле муж. Аляксей працаваў токарам у калгаснай майстэрні і гадзін у шэсць, калі нічога не здаралася, ужо вызваляўся. На рабоце стамляўся, вядома — не хлопчык жа, праз два гады на пенсію. Ды і жыццё такое пражыў — з маленства прагараваў. І цяпер вось — прыйшоў, там столькі з яго той помачы, але ж добра: і два кашалі пырніку вынесе, усё ж менш самой цягаць, ды і весялей удваіх, а то за дзень словам няма з кім перакінуцца.

Дома за няхітрай вячэрай зноў узнікла тая ж размова пра Кацярынінага Лёніка і навіну, што прывёз ён з Янава. Алена паўтарыла, як і раніцай: "Ат, ці мала што дзе рвецца".

— Багата ты разумееш! — грубавата перабіў Аляксей. — Хлопцы на стане казалі, што якась радыяцыя ветрам разносіцца адтуль, з тае станцыі. Куды паладзе, тое і атраўлена будзе. А пазнаць яе няможна — не відаць і не чуваць.

— Ну дык дзе ў свеце той Янаў, а дзе мы, — не хацела верыць трывожнай вестцы Алена. — Пакуль да нас тая радыяцыя дойдзе, дык з яе і не застанецца нічога.

Раніцай, калі выганялі кароў на пашу, у баб толькі і гаворкі было пра якісьці блок, што ўзарваўся на атамнай станцыі, пра невядомую радыяцыю, якая пераносіцца з ветрам і ўсё атручвае, пра тое, ці зможа яна дайсці да іх сяла — вецер то ўжо каторы дзень дзьмуў з таго боку. Гаварылі рознае, але толкам ніхто нічога не ведаў. Расказаўшы, дзе хто што чуў, паспрачаўшыся, наколькі небяспечная гэтая радыяцыя, бабы сышліся на тым, што ў дзяржаве ёсць разумныя галовы, каб пра гэта думаць і, калі што здарыцца небяспечнае, то людзей папярэдзяць, загінуць не дадуць. З тым і разышліся маладзіцы па хатах, дзе кожную чакала адвечная ранішняя мітусня.

Дзень гэты, як і папярэдні, зноў выдаўся сонечным і ветраным. Алена, як і ўчора, секла непадатлівыя скібы, насіла кашалём на мяжу вытрушаны пырнік. Спёка даймала ўжо і праз лёгкую сарочку. Ад нясцерпнай гаркаты ў роце не ратаваў нават квас. Перабраўшы за работай усе думкі пра дзяцей, унукаў; якія абяцалі на майскія святы завітаць у госці, пра хатнія клопаты, Алена зноў і зноў вярталася да апошняй навіны — аварыі на атамнай станцыі. Супакойвала сама сябе: "Тыя бабы век з мухі слана зробяць. У страху вочы вялікія. Ну хоць і даветрыць да нас тую радыяцыю, дык няўжо ж ад яе няма ніякага ратунку? Мабыць, людзі нешта ж прыдумалі. Трэба будзе — скажуць нам, што рабіць".

Знаёмы, з прысвістам, гул прымусіў разагнуцца, апусціць капаніцу. На гэты раз верталёт быў адзін.Ляцеў ён нізка і раптам зусім нечакана апусціўся непадалёку, на полі, за рэдкай чародкай маладзенькіх бяроз. Адтуль выскачылі нейкія людзі ў белым, прыселі на кукішкі, нешта ці рабілі, ці разглядалі. "Мабыць, урачы прыляцелі. Каб падышоў ды папытаў пра тую радыяцыю?". Алена паклала капаніцу, памкнулася было да верталёта, але затым у нерашучасці спынілася. "Падумаюць, дурная баба, верталёта не бачыла. Ды ў іх, мусіць, свае клопаты, назаляць толькі людзям роспытамі..." Убачыла, як з вёскі з усіх ног імчыць чарада хлапчукоў. Узрадавалася — гэтыя ўжо што-небудзь ды выведаюць. Але хлопцы не дабеглі — людзі ў белым хуценька падняліся і зніклі ў зялёным чэраве машыны, верталёт з гулам і свістам адарваўся ад зямлі і набраў вышыню...

Вечарам, вяртаючыся з поля, Алена ўсё ж вырашыла зайсці да фельчаркі, маладой жанчыны з мясцовых — адзінаму і таму самаму аўтарытэтнаму медыку ў іх сяле. На ФАПе шукаць яе было дарэмна: сонца ўжо завісла над лесам, у канцы грэблі рыкалі каровы, што вярталіся з пашы. Зайшла да яе дахаты.

У двары корпаліся ў пяску перапэцканыя хлопчык і дзяўчынка, дзеці фельчаркі. Алена дастала дзве мятныя цукеркі — укінула раніцай у кішэню некалькі, думала хоць так гаркату прагнаць. Малыя падзякавалі і падказалі, што мамка панесла парасятам есці.

Але Ларыса ўжо выходзіла з хлява, выціраючы аб фартух рукі.

— Што вас, цётка, прывяло так позна? Мо здарылася што?

— То ў цябе прыйшла папытаць, здарылася ці не. Вы ж усё-такі граматныя, штосьці ж павінны ведаць. Што гэта за такая радыяцыя, ці баяцца нам яе? Ці рабіць што трэба? Бабы ўсяляк кажуць, а ніхто нічога не ведае. І верталёт сёння, бачыла, за сялом садзіўся. Мо і праўда яно небяспечна?

— Нічога не бойцеся, — усміхнулася фельчарка. — Былі ў мяне сёння ўрачы з раёна, сказалі, што няма нічога страшнага. Жыць можна. Трэба толькі кіпяціць малако і ваду з калодзежа.

Алена павесялела. І вечарам, калі Аляксей зноў пачаў расказваць, дзе што чуў пра радыяцыю, яна супакоіла:

— Я да Ларысы Гузякінай заходзіла, тая сказала, што нічога страшнага, жыць можна. Ёй урачы з бальніцы раённай так сказалі. Яны ўжо ж, мабыць, знаюць.

Яна і заснула ў той дзень без парашка, якімі ў апошні час толькі і ратавалася ад нясцерпнага болю ў галаве і думак, што варочаліся, бы вострыя камяні, балюча стукаючы ў віскі, цемя, патыліцу.

Назаўтра, пайшоўшы на работу, Аляксей вярнуўся праз якія паўгадзіны разгублены і ўстрывожаны:

— Усіх з майстэрні дамоў адправілі. І трактары хлопцы паставілі, і машыны. Кукурузу сеяць не скончылі, трактар з сеялкай вярнулі. Кузьміч казаў — з Радзіна, з праўлення, пазванілі, а тым — з Хойнік. Сказалі на работу не хадзіць. І кароў на пашу з заўтрашняга дня не выганяць. Усё з-за гэтай радыяцыі.

Затрапяталася, забілася сэрца і зноў заварочаліся, балюча стукаючы ў віскі, думкі-камяні. У хаце не сядзелася, хацелася даведацца хоць што-небудзь пэўна. Выйшла на вуліцу, заўважыла на лавачцы непадалёк некалькі баб, падышла.

— Ды якая яна, тая рацыя? — дапытвалася суседка, баба Мар'я. Сівая, як туман, яна нават у такую спёку не скідала старую ватоўку і стаптаныя буркі, і ўсё адно скардзілася, што мерзне. "Бач ты, і яна дзесь пачула пра радыяцыю. Дапяць хоча старая да таго, чаго ўвесь век не ведала й не гадала, што ёсць яно на свеце. А цяпер вось паспрабуй растлумачыць ёй, што то за "рацыя", калі і сам не знаеш", — спачувальна падумала Алена.

Нявестка бабы Мар'і, пышнацелая чарнявая кабеціна, зняважліва хмыкнула:

— Не знаеце, дык маўчыце. Ніякая вам не рацыя, а ра-дыя-цыя, — вымавіла па складах. Баба Мар'я, бязгучна шамкаючы запалым ротам, старалася паўтарыць чужое, незразу-

мелае слова, — А пабачыць яе няможна. Ніякая яна. Ні горкая, ні пахучая, ні чорная, ні белая, не кусае і не баліць. А на што асядзе, то і будзе атручана.

— Дык мо яе саўсім няма, раз яе ні пабачыць, ні пачуць няможна? - не магла зразумець баба Мар'я.

— Мабыць жа, е, што кароў на пашу не пусцілі. Такога ж яшчэ век не было.

— Як забаранілі, так і дазволяць, — пераканана запэўніла другая суседка. — А чым жа іх карміць? У каго засталася з зімы вязка сена, а ў каго і не. А калгасныя? Пастаяць дзень-два, ды і зноў пагоняць. Баламуцяць толькі і людзей, і жывёлу. Век мы жылі, пра гэта не ведалі, дык трэба было прыдумаць якогась чорта.

— Дык хоць бы што сказалі: што есці ці піць. А то кажуць — усё атраўлена, а святым жа духам жыць не будзеш. І дзяцей чымсьці карміць трэба.

— Хай не брэшуць! — тонам, што не цярпеў пярэчанняў, заявіла чырванашчокая, зухаватая Дуня. — Я вось учора малака напілася, колькі мне ўлезла, а сёння баршчу з маладога шчаўя наварыла і так у смак пад'ела. І нічога. І ўчора нічога не балела, і сёння не баліць. Няма тым вучоным чаго рабіць, дык вось і выдумляюць абы што.

Калі ўспомнілі пра дзяцей, Алена жахнулася. Гэта ж трэба, зусім забылася, што на май дачка з унукамі збіралася прыехаць. І што рабіць? Хацелася б і пабачыць, калі яшчэ выберашся ў той Мазыр, а мо яно і праўда што небяспечнае... Доўга вагалася, што рабіць, пакуль Аляксей не накрычаў: ідзі, маўляў, адбі тэлеграму, каб не ехалі.

Паслухалася яго, схадзіла на пошту. Але больш рабіць нічога не хацелася. Усё валілася з рук. Падаіўшы карову, зачыніла яе ў хляве, працадзіла малако — усё нібы ў сне. Скінула з вышак апошняе сена, прыкінула, наколькі яго можа хапіць, калі карову ў хлеў паставіць. На тыдзень, не болей. А што далей? Узлавалася: ім добра камандаваць, а тут ламай галаву, чым скаціну пракарміць, калі столькі пашы нарасло. Са злосцю кінула вілы ў капяк і пайшла ў хату.

Аляксей уключыў тэлевізар, якраз ішла праграма "Час". Прысела і Алена ў парозе на зэдліку, пачала чакаць, ці не скажуць чаго пра Чарнобыль. Нарэшце, амаль у канцы праграмы прыгожая жанчына, не адрываючы вачэй ад аркуша паперы, прачытала паведамленне пра аварыю, з якога Алена зразумела толькі адно: абстаноўка нармалізуецца, непакоіцца няма чаго.

— Ну во, а тут гавораць зусім другое... Калі ўсё добра, то чаго ж тых кароў на пашу не пускаць і нашто людзей з работы прагналі?

— Ведама, баба, — нават плюнуў Аляксей са злосці. — Нічога не разбіраецца. Паліціка гэта ўсё. Нашто, маўляў, людзей бунтаваць, хай сядзяць сабе ціха.

— Вельмі ты ўжо ўсё ведаеш, як толькі ў Савеце Міністраў дагэтуль не сядзіш, такі разумны, — буркнула Алена, абы толькі не змоўчаць, у душы здагадваючыся, што ён мае рацыю, і баючыся той здагадкі.

У роспачы і трывозе прайшло яшчэ колькі дзён. У адну з раніц каменем на душу ўпала вестка: эвакуіруюць з вёскі дзяцей. Прыйшоў з Радзіна школьны аўтобус, ездзяць па хатах настаўнікі, хтосьці з калгаса і раёна і забіраюць школьнікаў. Кажуць, у лагер. Ды які ж лагер, калі ім вучыцца яшчэ цэлы месяц трэба? Гэтая вестка і яе, старую, у якой дзеці даўно павырасталі, пякла калёным жалезам. А як жа было тым маці, што, каўтаючы слёзы, збіралі дзяцей у невядомую дарогу?

Кацярына Антоніха, тая самая, чый Лёнік прынёс у вёску навіну пра выбух у Чарнобылі, сказала, як адрэзала: не аддам сваіх хлопцаў! У яе яшчэ хадзілі ў школу двое — Жэня і Саша, і калі пад'ехаў аўтобус, яна наказала ім не выходзіць з хаты, а сама сустрэла гасцей ля брамкі, гнеўна бліскаючы чорнымі, як сажа ў коміне, вачыма.

Яе спрабавалі ўгаворваць: маўляў, небяспечна тут дзецям, іх завязуць у Хойнікі, яны там пабудуць, колькі трэба, і вернуцца, гэта робіцца дзеля вашага ж дабра, але Кацярына не слухала.

— Я лепш за вас ведаю, што для мяне добра. Ім небяспечна, а мне бяспечна? У Хойніках, бачце, ім добра будзе. А там не такая трасца? Калі сюды дайшло, то да Хойнік не дайшло? Не, хай ужо сядзяць са мною. Што людзям, тое і нам. І не стойце над душою, сказала — не аддам, і не аддам.

Усе ў вёсцы ведалі, што спрачацца з Кацярынай — занятак дарэмны. Антон, яе спакойны працавіты муж, які за гады сумеснага жыцця як ніхто зведаў непакорлівы характар жонкі, стаяў убаку, і калі настаўнікі, як да апошняга паратунку, звярнуліся да яго, толькі ніякавата развёў рукамі. Іх паўшчувалі напаследак, паабяцалі вярнуцца з міліцыяй і паехалі.

Суседкам, якія хто з лавачкі, хто з-за плота назіралі за ўсім, Кацярына зноў і зноў паўтарала:

— А куды я іх аддам? Каб потым сэрца разарвалася? Напужалі — з міліцыяй прыедуць. Я і міліцыі тое самае скажу. Сваімі дзецьмі хай распараджаюцца!

Хто асуджаў Кацярыну, хто лічыў, што зрабіла яна правільна, але мала хто верыў, што па хлопцаў зноў прыедуць. Аднак жа прыехалі. З калгаснай легкавушкі і сапраўды вылез участковы, за ім — дырэктар школы і нейкі малады незнаёмы чалавек пры гальштуку.

Кацярына зноў залямантавала: "Не аддам!", стала ля брамкі і, учапіўшыся збялелымі пальцамі ў шулы, не пускала нікога ў двор. Прашытыя рэдкімі срэбнымі ніткамі чорныя пасмы валасоў выбіліся з-пад хусткі, вочы гарэлі, як у шалёнай ваўчыцы, якая гатова парваць усіх на кавалкі ці загінуць сама, ратуючы сваіх дзяцей.

"Госпадзі, ну чыстая вядзьмарка!" — гэтая думка прымусіла Алену неўпрыкмет перахрысціцца.

— Жанчына, супакойцеся... Калі ласка, выслухайце нас, — мармытаў спалатнелы міліцыянер. Але Кацярыну супакоіць было ўжо немагчыма. Яна без разбору сыпала праклёны, пагрозы, не выбіраючы выразаў, выправоджвала няпрошаных гасцей. І раптам закалацілася ўся і абмякла... Антон, які ўвесь гэты час стаяў побач, падхапіў яе, падскочыў нехта з жанчын. У Кацярыны зноў падхапілася нервовая ліхаманка — усе ў вёсцы ведалі, што гэта з ёй бывае ў хвіліны вялікага ўзбуджэння. Цяпер яе патрэбна было напаіць лякарствамі і даць адляжацца...

Праз некалькі хвілін з хаты выйшлі прысаромленыя хлопцы і, не падымаючы вачэй, юркнулі ў машыну. Яна хуценька рванула ад хаты, бы суправаджаючыя баяліся, што Кацярына апамятаецца, зноў стане ў дзвярах і не дасць ім выканаць адказнага партыйнага даручэння.

2

...Дамоў Іван з Ганнай вярнуліся ўжо добрым прыцемкам. У вячэрняй шэрані, што з кожнай хвілінай станавілася ўсё гусцейшай, роднае селішча падалося гаспадыні нейкім чужым, непрыветлівым, нават варожым. Хата насупілася цёмнымі вокнамі, расхрыстаныя хлявы і вароты, здаецца, упікалі: вось вы якія дбайныя гаспадары. Тугі падбаўляў сабака, што скугацеў на ланцугу. Мусіць, нешта падобнае адчуў і Іван, бо, цыкнуўшы на Палкана, пайшоў зачыняць вароты. Яе ж на ганку спыніла незразумелае пачуццё: было страшна адмыкаць сваю хату, страшна пераступаць парог, бы з раніцы, як яны спехам выйшлі з яе, тут нешта сталася... Патаптаўшыся крыху ля парога, Ганна падумала, што, мусіць, рассмешыць ці нават раззлуе мужыка, калі скажа яму пра свой незразумелы страх, і нерашуча павярнула ключ у замку.

Яркае святло лямпачкі, што заліло пакой, не прыбавіла смеласці: яно было занадта, проста балюча яркім, а непрыбраная з раніцы хата нібы выстаўляла пакрыўджана напаказ і незасланы ложак, і пакінутыя ля прыпечка дровы, і пралітую каля вядра лужынку... Ганна схапілася было за венік, каб хоць смецце ў куток прыгрэбці, але ў хату ўвайшоў Іван і незадаволена прабурчэў:

— Ну во, знайшла занятак. Паесці чаго дай.

Ганна хацела спачатку агрызнуцца, ды перадумала: хапіла і яму сягоння, што ўжо тут лаянку ўсчынаць. Моўчкі пайшла ў камору, дастала з кубла кавалак сала, паклала ў прыпол паўдзесятка яек. Схадзіла ў склеп па малако, накроіла хлеба.

— Ну, ідзі ўжо, вячэрай, — паклікала нарэшце мужа.

Той не адазваўся. Яна азірнулася — Іван, не распрануўшыся, спаў на неразабранай пасцелі. Яна не стала будзіць, толькі прыкрыла саматканай посцілкай і сама стомлена апусцілася на ўслончык.

Дзень сцягнуўся, як год. Здаецца, даўным-даўно, а не сёння раніцай у хату зайшоў брыгадзір і загадаў весці кароў і свіней да фермы — будуць грузіць на машыны і павязуць у раён здаваць. Яго словы бы стрэмку ў сэрца загналі. Спахмурнелы Іван моўчкі прынёс вяроўку, адчыніў дзверы. Карова, якая ўжо некалькі дзён нудзілася ў зачыненым хляве, адразу ж выйшла на двор. І нават не супраціўлялася, калі на рогі ёй накінулі вяроўку. Толькі калі выводзілі з двара, азірнуўшыся, рыкнула коратка, жалобна. Ганна, што ішла ззаду з дубцом, не вытрымала, заплакала...

Ля калгаснай фермы ўжо было поўна і людзей, і жывёлы. Каровы, навязаныя ля агароджы, трывожна рыкалі. Падышлі машыны. Людзі сталі грузіць жывёлу. Справа была ўвогуле прывычная — кожны месяц, а то і часцей кароў з фермы адпраўлялі на мясакамбінат ці на другую ферму. Але тут яны як пашалелі — раўлі, рваліся з прывязі, на машыну іх даводзілася цягнуць ледзь не сілай. Сяк-так загрузілі адну машыну, другую. Непрыкметна пацішэла, і ў гэтай цішыні не вельмі гучна, але так, што ўсе пачулі, празвінеў, як напятая струна і абарваўся, задушаны слязьмі, нечы воклiч:

— Бабы, пабачце, каровы плачуць...

І сапраўды: каровы, што яшчэ стаялі на прывязі і чакалі сваёй чаргі, суцішыліся, і з вачэй іх ручаём цяклі слёзы, пакідаючы на мордах мокрыя сцежкі...

Тут ужо загаласілі, запрычыталі наперабой жанчыны, а мужыкі моўчкі, не падымаючы вачэй, задымілі папяросамі.

Сяк-так усё ж пагрузілі на машыны калгасных кароў, затым людскіх, затым свіней. Раптам нехта сказаў, што калі хто хоча, каб пасля вяртання назад яму аддалі яго карову, трэба запісацца на асобны спісак. Бабы дружна рванулі да брыгадзіра. Памкнулася было і Ганна, ды Іван спыніў:

— Стой вунь, як стаіш. Вернуць нас, то вернуць і кароў. Калі, вядома, тое будзе.

Ужо надвячоркам цяжка гружаныя машыны сталі ад'язджаць. Было нешта жудаснае ў гэтым рознакаляровым вусені, што, натужна равучы маторамі і слепячы фарамі, поўз па дарозе, вывозячы з сяла жыццё... Вяскоўцы моўчкі праводзілі позіркамі калону, і калі з вачэй схавалася апошняя машына, нехта цяжка ўздыхнуў:

— Без вайны вайна. І што з намі цяпер будзе?

— А вы ідзіце дахаты, адпачывайце. Заўтра, мусіць, калі нічога не зменіцца, павязуць і нас, — адказаў усім брыгадзір. І людзі толькі цяпер успомнілі, якім доўгім быў гэты дзень, і адчулі, як стаміліся.

3

...У шыбіну моцна пастукалі. Раз, потым другі. Спалоханая, Мар'я ўсхапілася, але ўсё не магла ўцяміць — ці то доўжыцца кароткі трывожны сон, у якім, як і ўдзень, адчайна раўлі каровы і ляпалі барты машын, ці то на самай справе нехта дабіваецца ў хату. Але стук, яшчэ больш настойлівы, чым папярэдні, паўтарыўся, а ўслед за ім устрывожаны і стомлены голас Алены, стрыечнай сястры, паклікаў:

— Мар'я, адчыні!

Накінуўшы паверх сарочкі спадніцу і на хаду прыгрэбшы грабеньчыкам рассыпаныя за час кароткага сну валасы, Мар'я кінулася ў сенцы, адсунула жалезную засаўку.

На парозе стаяла Алена, а за ёй маячылі дзве цёмныя мужчынскія постаці. Мар'я запаліла святло, мужчыны пераступілі парог. Адзін з іх, Кузьміч, працаваў разам з мужам, але быў партыйным і таму заўсёды хадзіў у актывістах. Другога ж яна не ведала, але шэры касцюм, гальштук, які туга сціскаў каўнер светлай кашулі, чорная скураная папка выдавалі, што гэта быў чалавек з раёна. Толькі вочы яго не свяціліся той лёгкасцю і ўпэўненасцю, як гэта бывае звычайна ў раённых упаўнаважаных. Наадварот, стаяла ў іх нейкая бездапаможнасць і вінаватасць, і твар быў шэры і стомлены, і вузканосыя чаравікі пакрыліся густым слоем пылу.

І тут Мар'я ўспомніла, што яна ўжо бачыла яго і нават гаварыла. Дзён колькі назад, калі з вёскі забіралі дзяцей-школьнікаў і Кацярына Антоніха адмовілася аддаваць сваіх хлопцаў, на старшынёўскім газіку прыязджаў і ён, гэты хударлявы малады мужчына. Прыезджыя доўга ўгаворвалі Кацярыну, але толькі пасля таго, як яна забілася ў істэрыцы і ўжо не магла сказаць ні слова, і вясковыя бабы павялі яе ў хату, каб напаіць якімі зёлкамі, хлопцы выйшлі з хаты. Тады і Мар'я не вытрымала, ды і хто б здолеў спакойна слухаць той Кацярынін крык. Падышла да вось гэтага маладога ўпаўнаважанага і злосна кінула:

— Дзе ж былі вашы вучоныя ды разумныя галовы, калі прымалі рашэнне ў такой гушчыні тую атамную будаваць? Ці хоць бы цяпер растлумачылі людзям, што ім рабіць...

Ён тады паглядзеў на яе вось гэтак жа вінавата і бездапаможна:

— Не хвалюйцеся, маці. Усё будзе добра, — хаця, здавалася, ён і сам мала верыў у тое, што гаварыў...

Потым яна дакарала сябе: нашто было чапляцца да чалавека, яму і так, мусіць, цяпер нясоладка. Ці ж ён вінаваты, ці пытаў у яго хто калі, што і дзе будаваць? А што цяпер рабіць, ён і сам, пэўна, не ведае, маладзенькі ж зусім, не старэй за іх Колю, а таму і трыццаці яшчэ няма.

...Увайшлі ў хату. Пятро, гаспадар, таксама прачнуўся і, спусціўшы з ложка ногі, запытальна паглядаў на начных гасцей. Яны маўчалі, мусіць, чакаючы, хто першы пачне гаварыць. Раённы ўпаўнаважаны з надзеяй глянуў на Кузьміча, але той апусціў вочы. Тады рашуча ўцягнуў у сябе паветра і сказаў:

— Значыць, так... Толькі без крыку. Вы ўжо ведаеце, што адбылася аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі і ваша вёска апынулася ў небяспечнай зоне. Патрэбна эвакуіравацца. Не хвалюйцеся, гэта часова. Праз тры дні вернецеся. З сабою нічога не браць, толькі змену бялізны і харчавання на суткі. На зборы — адна гадзіна. Аўтобусы ўжо чакаюць каля канторы, — і азірнуўся, куды б прысесці, перапісаць у сшытак і гэтых людзей. І застыў, зачапіўшыся поглядам за чырвоныя, балюча-прыгожыя фарбаваныя яйкі, якія ляжалі пасярод непрыбранага з вечара стала. За яго поглядам пацягнуліся і астатнія, і ажно ўздрыганулі, апёкшыся аб успамін: сёння ж Вялікдзень!

Мар'я не вытрымала, загаласіла. Прыбіраючы са стала стылую, пасінелую бульбу, гладыш з малаком — учарашнія сняданак, абед і вячэру — яна прычытала, як па нябожчыку:

— І за якія ж грахі Гасподзь нам кару такую паслаў, чым жа мы перад ім правініліся? Гэта ж колькі на свеце жыла, і разутая-раздзетая хадзіла, і галодная, а Вялікдзень так не страчала. А як жа кінуць сваю хату, ды мы ж яе сваім мазалём рабілі, і куды вы нас толькі павезяце...

— Ну вось, я ж казаў — без крыку, — разгублена прамовіў упаўнаважаны, нервова пстрыкаючы сваёй прыгожай аўтаручкай. Мусіць, гэткія прычытанні даводзілася яму слухаць у кожнай хаце, і ён ужо не ведаў, што рабіць, якімі словамі супакойваць людзей і як апраўдвацца, даказваць сваю асабістую невінаватасць.

— Ну хопіць ужо, хопіць! — прыйшоў нарэшце яму на дапамогу Кузьміч. — Крычы не крычы, а ехаць усё адно давядзецца. Так што не галасі, а збірайся хутчэй, каб людзі вас не чакалі. І не цягніце ў аўтобус увесь свой скарб, сказана ж — на тры дні эвакуіруюць.

І дадаў, звяртаючыся да ўпаўнаважанага, які хуценька запісваў у сшытках іх прозвішча.

— Гэтыя ў Хойніках застануцца, у іх там дачка жыве. Ім кватэру шукаць не трэба. Ну, пойдзем, яшчэ паўвёскі абысці.

— Ох, не трыма днямі тут пахне, — ледзь чутна прамовіла наўздагон ім Мар'я. Але мужчыны ці то не пачулі яе, ці не захацелі спрачацца, ці то проста не ведалі, што адказаць...

Развітальна бразнула клямка, выпускаючы нязваных гасцей у начную цемру — будзіць новых людзей, слухаць новыя галашэнні.

Мар'я разгублена спынілася сярод пакоя. Думкі раіліся ў галаве, чапляліся адна за адну і тут жа саступалі месца новым.

"Збірацца... на тры дні... Дакументы не забыцца... Яек во не пасвяціла, пірагоў не напякла — нядобра... Грошай мала зусім... А што з харчоў браць?.. Хоць бы Ніна дома была, а як паехалі да свякрухі?.. Добра, што бялізну ў сераду памыла... А як жа куры, каты, сабакі, хто іх карміць будзе? І што з сабою браць у тую эвакуацыю?"

Апошняя думка нарэшце зачапіла свядомасць, прагнала ўсе астатнія. Трэба было збірацца. Казалі ж — не марудзіць. Мар'я разаслала на падлозе чысты абрус, спынілася ў нерашучасці: з чаго пачаць? Раптам позірк спыніўся на іконе — на залацістым прасветленым ліку Міколы-цудатворцы.

Гэтую чорную драўляную ікону з залатым Міколам, які ўзняў руку для благаслаўлення, Мар'я помніла з таго часу, як помніла сябе. Ніхто не ведаў, колькі ёй гадоў, калі і кім яна напісана, як трапіла ў сям'ю — здавалася, яна заўсёды вісела ў куце, абгорнутая самым прыгожым вышываным ручніком. Бабуля расказвала Мар'і, што гэтай іконай некалі бласлаўлялі на замуства яе бабулю. З таго часу, а можа, і раней, яна ў іх сям'і перадавалася ад аднаго пакалення другому. У час вайны, калі вёску ўшчэнт спалілі немцы, а яны разам з тымі нямногімі вяскоўцамі, што паспелі ўцячы ў лес, усё лета і восень, аж да вызвалення, хаваліся ў лозах, маці ўсё бедавала, што не зняла ікону. Збожжа, што было закапана ў яме і якое потым паліцаі знайшлі і выграблі да зярняці; карову, застрэленую немцамі, шкадавала не так, як ікону. Час ад часу ўсё паўтарала ў роспачы:

— Ох, не ўратуемся мы, не дачакаемся нашых. Не ўратавала я Міколу-цудатворцу, і ён нас не ўратуе.

Але калі ў канцы лістапада вярнуліся на роднае папялішча, на якім ужо нават і комінаў не засталося, і сталі капаць зямлянку, каб хоць як-небудзь перазімаваць, дык пад слоем попелу, гразі, нейкага ламачча, бадылля знайшлі свайго Міколу. Калі маці беражліва абцерла ікону падалом сарочкі, залацісты лік цудатворцы заззяў гэтак жа прасветлена, як заўжды, і гэтак жа бласлаўляла іх узнятая рука. Як не згарэла ікона разам з хатай, чаму не аблупілася з яе ні кавалачка фарбы за тыя паўгода, што секлі яе дажджы і студзілі халады — так і засталося таямніцай.

Успомніўшы ўсё гэта, Мар'я зноў, як тады, ля фермы, скрушліва прамовіла:

— Без вайны вайна. І не страляюць, і не паляць, а з хаты сваёй выганяюць. І куды, за што, навошта?

Пятро нічога не адказаў — перабіраў у шафе паперы, адкладваючы патрэбныя.

Мар'я зноў цяжка ўздыхнула:

— Ох ты, долечка наша непрыкаяная. Ды што Бог дасць, тое і будзе.

Перахрысціўшыся, яна зняла ікону і паклала яе на сярэдзіну разасланага абруса...

4

Было далёка за поўнач, а вёска сцішана гула, як патрывожаны вулей. У дамах гарэла святло, у вокнах раз-пораз мільгацелі постаці, то з адной хаты, то з другой выходзілі ладна нагружаныя клункамі людзі і кіраваліся ў бок калгаснай канторы. Там ужо і сапраўды стаялі аўтобусы і падыходзячых сустракалі ўсё той жа раённы ўпаўнаважаны і Кузьміч, адразу адзначаючы прыбыўшых.

Адной з першых ледзь падышла маленькая, худзенькая баба Прося, якой амаль не было відаць з-за агромністага хатуля. Важка скінуўшы яго, яна тут жа пачала запіхваць непаслухмяны рог падушкі, які ўсё вылазіў наверх.

— Бабуля, ну нашто вам падушка? Няўжо вы думаеце, што там не будзе на чым спаць? — стомленым голасам, без асаблівай надзеі на поспех стаў ушчуваць старую ўпаўнаважаны.

— Ай, сынок, хто яго ведае, што там будзе, а чаго не. А на сваёй падушачцы і сон саладзейшы. Ты не турбуйся, я шмат месца не займу.

*(Працяг на стар. 15)*

# IX ПАЯДНАЛА ФЛЕЙТА

**Ці існуе на Беларусі моцная і сур'ёзная флейтавая школа? Адназначна сцвярджальны адказ на гэтае пытанне даў нядаўні канцэрт студэнтаў і навучэнцаў класа дацэнта Беларускай акадэміі музыкі Ніны Аўраменкі. Канцэрт быў прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння заснавальніка выканальніцкай флейтавай традыцыі ў рэспубліцы Уладзіміра Харытонава.**

**Прадстаўнік пецярбургскай традыцыі выканання на флейце, Уладзімір Васільевіч імкнуўся не толькі перадаць свае навыкі ды веды навучэнцам, але перш за ўсё — стварыць цэлую прафесійную школу, уласную школу. Таму пасля вайны ён прыехаў жыць і працаваць менавіта на Беларусь, дзе тады флейтавая школа адсутнічала ўвогуле. Вядома, што большую частку жыцця музыкант сумяшчаў педагагічную працу ў кансерваторыі з выканальніцкай у філармоніі, у аркестры. У наш час справу настаўніка падхапіла адна з першых яго вучаніц Ніна Аўраменка, якая назаўсёды захавала глыбока ў сэрцы любоў і пачуццё шчырай удзячнасці да свайго "духоўнага бацькі". Менавіта яна прадставіла слухачам спецыяльна падрыхтаваную студэнтамі БАМ і навучэнцамі ліцэя пры Акадэміі музыкі праграму.**

**Вечар адкрыўся гучаннем узнёслай музыкі эпохі барока ў выкананні ўсіх удзельнікаў канцэрта. (Прыемна адзначыць, што ў зале было шмат дзяцей, якія прыйшлі на канцэрт з бацькамі. Прысутнічаў тут і сын юбіляра — Уладзімір Уладзіміравіч Харытонаў). Амаль усе выканаўцы — лаўрэаты міжнародных ці рэспубліканскіх конкурсаў, і ўжо гэты факт дае ўяўленне аб прафесійным узроўні юных музыкантаў, вышыню якога яны і прадэманстравалі.**

**Праграма канцэрта складалася з твораў розных аўтараў як для сольнага, так і для ансамблевага выканання — у суправаджэнні фартэпіяна. (Пералажэнне зрабілі самі ўдзельнікі — асістэнт-стажор Ларыса Балыка і канцэртмайстар Вадзім Сідараў). Прагучалі часткі з Санаты Г. Гендэля ў выкананні дуэта Арсэна Замтарадзэ і Вікторыі Дрыгінай, "Кантабіле" і "Прэста" Ж. Энеску вельмі натхнёна сыграла Даша Бельцюкова, часткі з Санаты Г. Тэлемана выканаў фагатыст Аляксей Аўраменка, першая частка канцэрта В. Блодэка была прадстаўлена ў віртуозна-бліскучай ігры зусім юнага лаўрэата рэспубліканскага конкурсу Сяргея Рабульца, з Фантазіяй на тэмы з оперы "Кармэн" Бізэ-Борна выступіў Сяргей Картэс, які выклікаў цэлую "браваду" слухачоў... Праграма працягвалася. А на заканчэнне вельмі арганічна прагучала "Пасакалія" А. Вівальдзі.**

**Пакінуўшы канцэртную залу, слухачы мелі магчымасць прагледзець спецыяльна аформлены стэнд з фотаздымкамі У. В. Харытонава і ягоных вучняў двух пакаленняў — своеасаблівы "радавод". Было і свята, была і нагода ўпэўніцца ў моцнай выканальніцкай флейтавай традыцыі ў рэспубліцы, з надзеяй зірнуць у будучыню.**

**Алена СКРЫГАНАВА,
студэнка Беларускай акадэміі музыкі**

# У ДРУГІМ НУМАРЫ

**часопіса "Тэатральная Беларусь" змешчаны камедыя-фарс Д.Слаўковіча "Барацьба за градус", драма Т.Лебяды "Загубленае жыццё", справаздача з нечарговага з'езда СТД, расказ Т.Гаробчанкі пра пастаноўку п'есы А.Петрашкевіча "Дагарэла свечачка..." у тэатры-лабараторыі Беларускага універсітэта культуры ("Запрашае студэнцкі тэатр").**

**А.Сабалеўскі ў артыкуле "Ажыццёўленае і нявдзейсненае" прасочвае жыццёвы і творчы шлях У.Крыловіча. "Гэты непаўторны Чарнабаеў" — імпрэсія С.Берасцень з нагоды бенефіса знакамітага артыста.**

**"Барвы Багрымавай восені" — А. Марціновіч запрашае на вечарыну, прысвечаную памяці П.Багрыма. В.Нячай ("Госці з Бона") апавядае пра мерапрыемствы, што прайшлі ў рамках Дзён культуры горада Бона. В.Грыбайла ("Запаветы памяці") згадвае, як адбылося ўшанаванне памяці загінуўшых яўрэяў на Іўеўшчыне.**

**Друкуюцца артыкул Я.Адамовіча "Паехала каляда, калядуючы...", працяг артыкула М.Козенкі "Беларускі народны танцавальны этыкет", гумарэска У.Якубовіча "Дысертацыя". Прапануюцца сяброўскія шаржы М.Гіргеля, крыжаслоў.**

**Н. К.**

# "ЭСТРАДА — МАЯ ЎЛАСНАЯ П'ЕСА"

Калі меркаваць пра творчасць выканаўцы толькі па тых песнях, якія гучаць у эфіры, то можа скласціся неадэкватнае ўяўленне пра ягоную індывідуальнасць. Гэта слушна і ў адносінах да эстраднага спевака Алега Цівунова. У фондах радыё ёсць нямала яго запісаў, але яны не характарызуюць спевака як творчую асобу. Таму сапраўдным адкрыццём Цівунова-спевака для многіх была яго першая вялікая сольная праграма, якая прайшла на сцэне Дзяржаўнага тэатра музкамедыі. Алег Цівуноў працаваў тут пасля заканчэння ГІТІСа.

Яго тэатральная кар'ера складвалася ўдала, за кароткі час Цівуноў стаў вядучым салістам, гледачы дасюль помняць яго "зоркавыя" ролі. Але нягледзячы на поспех і прызнанне публікі, артыст не знаходзіў поўнага творчага самавыяўлення ў жанры аперэты. Яго з юнацтва вабіла эстрада, у марах ён бачыў сябе ўдзельнікам яркіх мюзікхольных праграм. Каб даць выхад сваёй творчай энергіі, А. Цівуноў разам з іншымі артыстамі тэатра музкамедыі прыдумваў розныя капуснікі. А ў канцы 80-х гадоў, не пакідаючы тэатра, ён стварыў пры СТД гасразліковую структуру па арганізацыі шоу-праграмы, дзе сумяшчае функцыі прадзюсера і выканаўцы.

Працуючы паралельна ў тэатры і на эстрадзе, артыст вырашыў урэшце пакінуць тэатр, і з таго часу (1991 г.) шоу-праграма А. Цівунова якасна змянілася ў лепшы бок. У яго цяпер ёсць пастаянны творчы калектыў, у які ўваходзяць музыканты-інструменталісты, аранжыроўшчыкі і гукатэхнікі, вакальная група, ансамбль балета. Увесь гэты час А. Цівуноў са сваёй шоу-праграмай гастраляваў па абласцях Беларусі, але найбольш — у Расіі і іншых рэспубліках былога Саюза. На адзін з такіх канцэртаў трапіў дырэктар Магілёўскай абласной філармоніі У. Браілоўскі. Ён і запрасіў А. Цівунова з усёй групай на працу. Такім чынам, у межах бюджэтнай арганізацыі з'явілася камерцыйная шоу-праграма, што аказалася выгадна абодвум бакам.

І вось — першая сольная праграма Алега Цівунова ў Мінску. Канцэрт стаўся своеасаблівым падвядзеннем вынікаў чатырохгадовай працы на эстрадзе. Хто ведаў яго толькі як тэатральнага артыста, не мог не падзівіцца яго арганічнаму існаванню ў песенным жанры. А тым, хто ўжо ведаў Цівунова як эстраднага спевака, гэты канцэрт даў магчымасць упэўніцца ў яго творчым росце. А "зрабіў" сябе ён сам. Дзякуючы ўласнаму энтузіязму, стварыў для сябе такія ўмовы, у якіх найбольш змог рэалізавацца як артыст. У Цівунова ёсць трапнае выслоўе: тэатр — гэта загадзя напісаная п'еса, а эстрада — гэта мая ўласная п'еса.

Вакальная культура — гэта самы моцны бок ягонай творчасці. З'яўленне такога барытона на беларускай эстрадзе можа толькі яе ўзбагаціць. Прыцягваюць індывідуальныя тэмбравыя якасці ягонага голасу, а таксама — манера фразіроўкі. Спявак тонка адчувае стылістыку кожнай песні і стараецца перадаць яе, кампануючы свой канцэрт як эстрадны спектакль, дзе кожная песня мае сваё знешняе афармленне, свой сцэнічны вобраз. Гэта адбываецца і дзякуючы вынаходлівай харэаграфіі ды сцэнічным знаходкам самога Цівунова. Рэжысуру сваіх шоу Цівуноў ажыццяўляе сам, а з балетнай групай працуюць прафесійныя эстрадныя балетмайстры Людміла і Аляксандр Яфрэмавы.

У ягоным рэпертуары ў асноўным песні беларускіх аўтараў, напісаныя спецыяльна для Алега Цівунова. Ён ніколі не выконвае песень, якія ўваходзяць у рэпертуар іншых спевакоў. Артыст вельмі ўдзячны кампазітару Леаніду Захлеўнаму, які першым звярнуў на яго ўвагу як на эстраднага выканаўцу і прапанаваў для выканання свае песні. А цяпер у рэпертуары Цівунова песні Ігара Лучанка, Уладзіміра Будніка, Уладзіміра



Сарокіна, Сяргея Бельцюкова, Эдуарда Зарыцкага ды іншых, таксама і музычнага кіраўніка шоу-праграмы, выдатнага аранжыроўшчыка Анатоля Архіпава. Цівуноў уключае ў праграмы і песні з уласнай музыкай ды на свае тэксты.

Спявак назваў сваю шоу-праграму "Сузор'е скарпіёна". Дык няхай сузор'е Алега Цівунова ўздымаецца ўсё вышэй на небасхіле беларускай эстрады.

**Зоя ЛЫСЕНКА**
Фота Я. ПЯСЕЦКАГА

# "ПРОСТА ЗНАХОДКА" ЦІ — СЕНСАЦЫЯ?

На пытанне пра сапраўдную каштоўнасць гэтай маленькай, з жаночую далоньку, сціплай і неадноўчы, відаць, "выпрабаванай на трываласць", кніжачкі, спадзяюся, адкажуць спецыялісты. Я ж, убачыўшы яе ў руках аднаго майго сваяка, успрыняла гэта як нягучную сенсацыю. Кніжачка трапіла да яго праз родзічаў мінчанкі Леакадзіі Яўгенаўны Грышковай, светлай памяці жанчыны, якой і належаў гэты унікальны малітоўнік.

На фотарэпрадукцыі — тытульны аркуш з той самай сенсацыйнай інфармацыяй, а менавіта: "Вучыся і маліся. Малітаўнічак вучня-каталіка Віленскай Беларускай Гімназіі і Віленскай Вучыцельскай Семінарыі. Улажыў кс. Адам Станкевіч, Перфект беларускіх школаў у Вільні. Вільня — 1944. Кніжыца выдана ў 25 ўгодкі існавання Віленскай Беларускай Гімназіі (1919—44)". Выдадзена, як бачна, лацінкаю...

Пэўна, гэта быў неблагі ўзор паліграфічнага штукарства : белая папера, старонкі са скругленымі куткамі (каб не так загіналіся ад частага гартання), выразныя шрыфты, адмысловая графічная аздоба. Змест мае некалькі раздзелаў: "Патрэбнейшыя малітвы", "Малітвы на св. імшы", "Набожныя песні", ("На працэсію", "На Божае Нараджэнне", "На Вялікі Пост" і г. д.) і "Рознае". А папярэднічае ўсяму прадмова укладальніка — вядомага беларускага духоўнага дзеяча ксяндза Адама Станкевіча.

Вось гэтая прадмова: "Сёлета 1944 г. — 25 гадоў існавання Віленскай Беларускай Гімназіі. 25 гадоў беларуская моладзь у Вільні не толькі вучылася па-беларуску, але такжа па-беларуску і малілася. Дырэкцыя Віленскай Беларускай Гімназіі, усебакова арганізуючы святкаванне гэтага значнага беларускага культурнага юбілею, даручыла такжа адзначыць яго і на грунце рэлігійным. Вось-жа сціплая гэтая кніжыца мае на мэце адзначыць 25-я ўгодкі Гімназіі, а такжа дапамагчы беларускай школьнай моладзі маліцца ў роднай мове. Кс. Ад. Ст." Датавана 1 лютага 1944 года.

Колькі такіх малітоўнічкаў было выдадзена тады ў Вільні, колькі з іх ацалела, ці ёсць гэты ўзор сярод рарытэтаў у нашых дзяржаўных кнігасховішчах, архівах? Ці жывы хто з колішніх віленчукоў — выхаванцаў Беларускай гімназіі, для якіх перш за ўсіх прызначалася гэтая кніжачка? Магчыма, лімаўская пошта прынясе нам адказ адразу на добры тузін пытанняў, якія выклікае незвычайная знаходка. Магчыма, неўзабаве тэксты малітоўніка, укладзенага Адамам Станкевічам, прыйдуць да чытача са старонак часопісаў — пра тое, што публікаваць іх трэба, спрачацца, думаю, не варта.


VUČYSIA I MALISIA
MALITAŬNIČAK
VUČNIA — KATALIKA
Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii
i Vilenskaj Vučycielskaj Seminaryi
ułažyŭ
Ks. ADAM STANKIEVIČ
Prefekt biełaruskich školaŭ u Vilni
VILNIA — 1944
Knižyca vydana ŭ 25 ŭhodki isnavańnia
Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii (1919-44)

А тым часам адмысловая каштоўнасць "Набожных песень" з малітоўніка прывабіла кампазітара Аляксандра Літвіноўскага, які зрабіў копіі гэтых тэкстаў і ўжо з захапленнем працуе над цыклам духоўных харавых твораў. Дагэтуль нязнаная ў нас кніжачка "Вучыся і маліся" пачынае новае жыццё...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# ВЯРТАННЕ ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

9 красавіка ў Тэатры юнага гледача адбылася незвычайная вечарына — на яе былі запрошаны ўсе, хто некалі працаваў у сценах тэатра, і, зразумела, прысутнічалі тыя, хто працуе там цяпер. Нагода для такой сустрэчы была дастаткова важнай: да апошняга часу ніхто не ведаў дакладнай даты ўтварэння ТЮГа. Але цяперашні дырэктар тэатра Ігар Андрэеў у выніку працяглай працы ў архівах змог яе ўстанавіць. І вось упершыню была афіцыйна адзначана гадавіна ўтварэння тэатра — 39-я. Своеасаблівая "генеральная рэпетыцыя" перад блізкім саракагоддзем...

На вечарыне выступілі многія выдатныя, тытулаваныя артысты з успамінамі пра гісторыю тэатра, сваю працу ў ім — Людміла Цімафеева, Галіна Раеўская, Павел Дубашынскі, Барыс Барысёнак, Міхаіл Пятроў. Шмат цёплых слоў было сказана пра заснавальніцу тэатра, яго першага рэжысёра Любоў Мазалеўскую. Выступоўцы згадвалі яе як чалавека надзвычай яркага, таленавітага, а галоўнае — чалавечнага, які ставіўся да артыстаў, як да ўласных дзяцей. Любоў Мазалеўская лічыла — у дзіцячым тэатры павінны працаваць толькі вельмі добрыя і чулыя людзі.

Быў падрыхтаваны вясёлы "капуснік". Яго ўдзельнікі выявілі пачуццё гумару, дасціпнасць і прадэманстравалі сваё акцёрскае майстэрства.

**Л. Р.**

Тэатр

# КАРОНА ДЛЯ АКТРЫСЫ

## НАТАТКІ З БЕНЕФІСУ ТАМАРЫ МІРОНАВАЙ

Няпраўда, што тэатр цяпер нікому непатрэбны.

Яшчэ галодныя плебеі старажытнага Рыма гарлалі: "Хлеба і відовішчаў!".

А тэатр — гэта відовішча... А яшчэ ён...

Але пра гэта — пазней. Пакуль гледачы заходзяць у невялікую, прадзьмутую сотняй скразнякоў, залу муніцыпальнага тэатра драмы "Дзе-Я?", асцярожна абыходзячы ўвішную гаманлівую прыбіральшчыцу, што старанна апрацоўвае пыласосам зацягнутую чорнай тканінай сцэну: неўзабаве мусіць пачацца бенефіс артысткі тэатра Тамары Міронавай, прысвечаны 30-годдзю яе сцэнічнай дзейнасці. Але прадстаўленне чамусьці не пачынаецца, а дзівакаватая прыбіральшчыца ўсё ходзіць з пыласосам і ўсё нешта расказвае, і вось ужо поўнасцю авалодвае ўвагай залы, і гледачы-неафіты ад душы смяюцца дасціпным жартам "работніцы сцэны", якая так шкадуе артыстаў, "худзенькіх ды бедных", і наракае на неахайную "анцілігенцыю". Неўпрыкмет маналог прыбіральшчыцы набывае пафаснае гучанне, і горкія ісціны недарэчнага нашага жыцця выклікаюць ужо інакшы смех... І недасведчаны глядач пачынае падазраваць, што гэта, можа, і не прыбіральшчыца... Асабліва, калі разгледзеў на яе чорным халаце два нечаканыя нагрудныя знакі — ударніка камуністычнай працы і... заслужанага пагранічніка.

Ну а тыя, хто добра ведае і любіць бенефіцыянтку — а такіх у зале, напэўна, большасць, — ад душы цешыліся чарговым пераўвасабленнем актрысы...

Вядома, гэта была Тамара Міронава.

Якія крытэрыі вызначаюць добрага артыста?

Напэўна, адзін з такіх крытэрыяў — натуральнасць, калі, назіраючы за дзеяннем, забываешся, што бачыш ігру, што перад табою — артыст, які валодае пэўнай сукупнасцю прыёмаў для ўвасаблення пэўнага сцэнічнага вобраза.

Але, напэўна, адзін з такіх крытэрыяў — і значнасць асобы артыста, калі ён можа, не прыкладаючы асаблівых намаганняў, падпарадкоўваць сабе самага капрызлівага гледача, няўмольна авалодваць яго ўвагаю і перадаваць яму тыя ці іншыя пачуцці... Мусібыць, ёсць у гэтай апошняй якасці нешта ад магіі.

Тыя, хто наведваў спектаклі тэатра, пацвердзяць: Тамара Міронава адпавядае абодвум крытэрыям. Хоць і толькі два званні: некалі пагранічнікі, захопленыя майстэрствам заезджай госці, назвалі яе "заслужанай артысткай пагранвойск", адпаведна ж атрымала актрыса "званне" "заслужанай артысткі МАЗа". Што ж, прызнанне "шараговага" гледача заўсёды апярэджвае "афіцыйнае".

А між тым артысты тэатра падрыхтавалі для сваёй калегі "капуснік". Віншавалі бенефіцыянтку героі оперы, балета, драмы, дзіцячага тэатра, аперэты... А Тамара Міронава давала іх выступленням найменні: і "дурдом", і "цуд", і нешта накшталт вялікай сям'і, у якой "паравем, паб'емся, а к вечару нап'емся"... Быў прадстаўлены і "абагулены вобраз" галоўнага рэжысёра, і бедны "малады спецыяліст", які марыць сыграць Гамлета, а яму ўсё ролі "зайчыкаў"... І драматург у цюбецейцы, з лапцямі на шыі, які піша адначасова на дзвюх дзяржаўных мовах — беларускай і... узбекскай.

Увогуле, было весела і смешна, як і павінна быць на тэатральных капусніках.

І тут трэба некалькі слоў сказаць пра асаблівасці самога тэатра.

"Дзе-Я?", на мой погляд, тэатр "фактурны". У яго трупе, што ні артыст — то "фактура", адметнасць першасная, знешняя. На іх цікава проста глядзець. Ці то на рамантычнага Аляксандра Якаўлева, ці на дэманічнага Ігара Нікалаева, ці на гратэскавага Андрэя Арыніча, ці на ўзнёсла-наіўнага Генадзя Гатоўчыца... Ці на па-сялянску хітраватую, народную Тамару Міронаву.

Тэатр "Дзе-Я?" — гэта тэатр акцёрскай імправізацыі. Акрамя патрэбы "ўнутранай", творчай, гэтага, па-мойму, вымагае і "кан'юнктурка", жаданне прывабіць гледача, што часам пераробляецца на найпростае — насмяшыць. Але імправізацыя ёсць, яна цaрye, яна ратуе любы сцэнічны матэрыял.

Тамара Міронава валодае здольнасцю імправізацыі ў ступені надзвычайнай.

А яшчэ тэатр "Дзе-Я?" — тэатр пераўвасабленняў. Яго акцёры мусяць быць акцёрамі, так бы мовіць, сінтэтычнымі — і таму, што трупа невялікая — усяго семнаццаць чалавек, і ў сілу самой ідэі-задумы тэатра, які нарадзіўся на творчай спадчыне Францішка Аляхновіча — "бацькі навейшай беларускай драматургіі".

Усе вышэйпералічаныя якасці і праявіліся ў спектаклі "Чорт і Баба", паказаным пасля "капусніка". Пра гэты спектакль ужо шмат пісалася, таму паўтарацца не буду. Хочацца толькі адзначыць яшчэ адну якасць добрага артыста, сталага майстра, якая ўласцівая бенефіцыянтцы — не зацямняючы ігры партнёраў, з'яўляцца своеасаблівым камертонам сцэны, вызначаць узровень і настрой спектакля...

А камедыя "Чорт і Баба", дарэчы, была першым спектаклем тэатра. У ёй акцёры змаглі стварыць не проста народныя тыпажы — а агульначалавечыя архетыпы. Марыська ў выкананні Т. Паповай — увасабленне жаночага пачатку, Мікітка — А. Якаўлеў — мужнасці, Чорт — В. Агаян — падступнасць, а Баба — Т. Міронава — ілжывасць...

І — славутая "дзееўская" імправізацыя... Хаця часам перашкаджаюць успрыманню вышэйзгаданыя імправізацыі-заігрыванні сексуальна-палітычнай (!) афарбоўкі...

Але — усё, што можна было стварыць на матэрыяле невялікага жарціка, — створана...

А пасля спектакля бенефіцыянтку віншавалі госці.

*Цытата.* "...І потым... мала ў каго з актрыс зараз ёсць дужа ўжо каштоўныя пярсцёнкі... Гадавой маёй зарплаты не хопіць, каб... паднесці, скажам, актрысе брыльянтавае калье... Дый яна не возьме... У яе муж, дзеці, яна сасіскамі ў буфеце перакусвае..."

*Ул. КАРАТКЕВІЧ*

Так, брыльянтавага калье не было... Затое была карона — яе падарылі Тамары Міронавай шляхетныя хлопцы з тэатра "Вольная сцэна". Віншавалі актрысу і начальства з упраўлення тэатрамі, і Саюз тэатральных дзеячаў. А Андрэй Арыніч, малады артыст тэатра "Дзе-Я?", падарыў бенефіцыянтцы "Гісторыю пра маленькую птушачку". Жаласную такую птушачку, нават трохі страшнаватую...

Прыехалі на бенефіс і госці з Бабруйскага тэатра, дзе некалі працавала Тамара Міронава. Павіншаваў актрысу Тэатр юнага гледача. З Дзяржаўнага тэатра лялек з'явілася цэлая дэлегацыя з вялікім лялечным Маэстра на чале, каб праспяваць у гонар Тамары Міронавай...

Можна толькі падзівіцца — і парадавацца, — што ёсць у беларускага тэатра сапраўдныя прыхільнікі, ёсць удзячны глядач.

Таму што ёсць сапраўдныя майстры.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**





*На здымках: моманты бенефісу.*

*Фота Аляксея МАЦЮША.*

# Яраслаў СТЭЛЬМАХ: "О, ДЗІЎНА!.."

***Знаны драматург ЯРАСЛАЎ СТЭЛЬМАХ не так даўно наведаў Беларусь — госцем "Маладзечанскай сакавіцы". Вядома, няможна было пагрэбаваць магчымасцю з першых — дасціпных Стэльмахавых вуснаў пачуць пра стан тэатральнае справы на Украіне.***

— О, дзіўна! Усё, што робіцца на Украіне, — дзіўна. Ні ў кога ніхто не мусіць пытаць дазволу — ні на што. Прынамсі, як ставіць або як пісаць. А працэс тэатральны... зганіўся. Перадусім — з-за грашовых умоў, але... Відавочнае ўжо арыентаванне на так званага сярэдняга гледача. І, думаю я, ставячы сябе на месца дырэктара ды рэжысёра, ход развжанняў такі: гэтая п'еса для нас задужа складаная, тая — занадта разумная, давайце возьмем п'есу, на якую глядач напэўна пойдзе. Такую непатрабавальную камедыю, напрыклад... Ужо як там глядач ёю задаволіцца (як-небудзь здаволіцца), але пасмяецца і свае грошы ў тэатр прынясе. А глядач... не нясе! Не нясе, таму што ў выніку няма тэатральнай падзеі, няма добрага, дыхтоўнага спектакля. І за сваю ўсярэдненую палітыку тэатр расплачваецца. І выснова адна: мастацтвам, ягонымі правіламі няможна, недаравальна грэбаваць.

Няможна, немагчыма цяпер пралічыць або прадбачыць, што ж да тэатра дапасуецца, што ж тэатр задаволіць. Раней, рыхтуючы п'есу, я ведаў, у якім тэатры яна пойдзе (не адно ўкраінскім), мяне багата ставілі. Цяпер... нічога не разумею. Тэатр можа браць адметную драматургію, скажам, класіка, а поруч, праз радок у афішы, пазначаць нешта страшэннага, найнізкага ўзроўню...

О, дзіўна... Ці не кожны свой сказ я магу пачынаць з гэтага "о, дзіўна!". О, дзіўна, — нам так патрэбна класіка! Доўгі час мы на яе не тое каб не зважалі, а ставілі, трымалі так, паміж іншым. Не ставілі і гістарычных п'ес, хоць у нас якраз іх — багата. Дзяцей не выхоўвалі на сваёй гісторыі (на Кастамараве, Драгаманаве, Кулішы). Цяпер шмат хто з рэжысёраў цырye гэтыя дзіркі-прагалы, але... О, дзіўна! Ці то ставіць развучыліся, ці то вялікі час мінуў з моманту напісання п'ес. У асноўным яны... не гучаць! Трэба або шукаць новых спосабаў іх увасабляць, або смялей абыходзіцца з тэкстам... Магчыма, варта звяртацца да прафесійных драматургаў, якія б адважваліся апрацаваць гістарычную спадчыну — літаратурна, культурна, вельмі далікатна, але так, як уласціва нам, прыдатна для нашага часу. Залучаць і сучасных драматургаў пісаць пра гісторыю...

Асобным, адметным чынам ва ўкраінскай драматургіі паўстае Куліш. Геніяльны драматург, якому не маглі аддаць належнае ў савецкую часіну. Цяпер мы да яго дайшлі. Куліш —



якраз той шчаслівы выпадак, калі амаль кожная пастаноўка паводле яго мае вялікі розгалас, змушае нас заглыбляцца ў ягоную спадчыну, дзівіцца й здзіўляцца: каго, каго мы не ставілі! Што гэта за чалавек, які ўжо тады пісаў так, як цяпер можна толькі марыць напісаць! Упэўнены, што новыя рэжысёры будуць вяртацца й звяртацца да Куліша. Увогуле ж Украіне не дужа пашэнціла: дыхтоўных, адметных драматургаў за ўсе часы яе існавання не сказаць каб набралася багата. І таму ставіць гістарычнае толькі таму, што яно гістарычнае?.. Добрую паслугу мы зробім украінскай культуры, калі ўсё-такі будзем выбіраць. Між тым у бальшыні выпадкаў няцяжка прадбачыць, што добрай пастаноўкі не адбудзецца...

Я працую цяпер як ніколі. Я раблю ўсё. П'есы, сцэнарыі, інсцэніроўкі, пераклады. Толькі сёлета ў мяне выходзіць дзевяць назоваў — не адна п'еса ў дзевяці тэатрах, а дзевяць назоваў. Ладны кавалак працы. Чатыры гады таму мая п'еса заняла першае месца на ўсесаюзным конкурсе імя Вампілава, мяркую, што яна — лепшая з маіх п'ес. Дагэтуль яе не ўзяліся ставіць, хоць усё, напісанае раней (нават слабейшае), шчасліва зведала падмосткі. А вось другі, бадай, самы красамоўны прыклад. Я займаюся перакладамі з англійскай (маю і дыплом прафесійнага перакладчыка Кіеўскага інстытута замежных моваў). Тры гады таму прапанаваў украінскім тэатрам п'есу Олбі "Не баюся Вірджыніі Вулф", — о, дзіўна! Дагэтуль яе на паставілі! Яе! Аднаго разу падышоў да рэжысёра: ну, кажу, што вам яшчэ трэба — толькі чатыры акцёры, бліскучы тэкст, кампазіцыя, усе канфлікты і падтэксты на месцах, ніводнай дэкарацыйнай перамены... Мо пяць п'ес у свеце я параўнаю з ёю... Што яшчэ?! "Ну, дык гэта ж акцёраў трэба мець", — адказвае мне рэжысёр. "Ну, дык гэта ж рэжысёра трэба мець!" — пераймаюць ягоныя артысты... Уявім, як я падыходжу да дырыжора сімфанічнага аркестра і прашу выканаць твор, а ён мне ў адказ: "Ну, дык гэта ж ноты трэба знаць!" Што можна дадаць да гэтага? Што ніводзін тэатр на Украіне (а іх, прафесійных, больш за пяцьдзесят, а колькі з іншым статусам?) не паставіў "...Вірджыніі Вулф". Праблема праблем... Натуральна, Украіне бракуе перакладаў замежнай класікі (цяпер гэта асабліва адчуваецца). Але я ізноў стаўлю сябе на месца... адказнага тэатральнага дзеяча: ну што ж, разважае ён, перакладаў няма... і праблемаў нямашака! Тэатраў няма — і праблемы змяншаюцца, грошай на тэатр не выстачае — яшчэ менш клопату! Нічога няма — усё вырашана! Вось гэта — ёсць. Во — дзіўна...

**Маналог Яраслава СТЭЛЬМАХА**
**занатавала Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Генадзя ЖЫНКОВА*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# У ВІЦЕБСКУ АДКРЫЛІСЯ "ВЫТОКІ"



Першы ў вобласці беларускі нацыянальны культурны цэнтр "Вытокі" адкрыўся ў Віцебскім тэхнічным вучылішчы N 46 лёгкай прамысловасці. На яго адкрыцці прысутнічалі навучэнцы і выкладчыкі вучылішча, для якіх неабыякавы лёс беларускай мовы, культуры і гісторыі Беларусі.

Пры цэнтры створаны музей беларускага прыкладнога мастацтва. Яго экспанаты сабраны навучэнцамі вучылішча.



*На здымках: у час адкрыцця нацыянальна-культурнага цэнтра "Вытокі". Актыўны ўдзел у зборы экспанатаў музея прымала навучэнка Алена Гацэнка.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ*

# КАЛЯНДАР КРАСАВІКА

90 гадоў з дня нараджэння этнографа і крытыка Сцяпана БАРКОЎСКАГА (1905—1966) споўнілася 10 красавіка. Склаў кнігі В. Маракова "Лірыка", В. Каваля "Выбранае", А. Дудара "Выбраныя творы", якія пабачылі свет у 1959 годзе, а таксама зборнік М. Нікановіча "Летнім днём" (1960).

75 гадоў з дня нараджэння А. КАРПЮКА (1920—1992) споўнілася 14 красавіка. У друку дэбютаваў у 1953 годзе аповесцю "У адным інстытуце". Выйшлі кнігі "Дзве сасны" (1958), "Данута" (1960), "Пушчанская адысея" (1964), "Вершалінскі рай" (1974), "Свежая рыба" (1978), "Сучасны канфлікт" (1985) і іншыя, раман "Карані" (1988). За кнігу "Сучасны канфлікт" у 1966 быў удастоены Літаратурнай прэміі імя І. Мележа.

170 гадоў з дня нараджэння польскага антраполага, археолага, этнографа Ізідара КАПЯРНІЦКАГА (1825—1891) споўнілася 17 красавіка. Рэдагаваў часопіс "Збор звестак па айчыннай антрапалогіі", у якім змяшчаліся і беларускія матэрыялы. Перапісваўся з Ф. Багушэвічам.

160 гадоў з дня нараджэння паэта Ялегі Праніша ВУЛЯ (1835—1880-ыя гады, сапраўднае прозвішча Элегі Францішак Караф-Корбут) споўнілася 21 красавіка. У 1859 годзе ўпісаў у "Альбом" А. Вярыгі-Дарэўскага свой адзіны вядомы на беларускай мове верш "К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка". Гэты твор быў упершыню апублікаваны ў газеце "Наша Ніва" (1912, N 45).

Паэзія

## Станіслаў ВАЛОДЗЬКА



•

Бог пачуў — і чуе родны краю:
Дудка беларуская так грае!
Россыпамі сонечнага рання
Гэта гранне —
Быць людзьмі старанне!

Ды парой агорне смутак нейкі:
Грання беларускае жалейкі
Дзіўных гукаў-зыкаў зёлкі-лекі
Ці памогуць — хто душой калекі?

Каб без мовы наскай не сканалі,
Каб жыццё з радзімай ладкавалі —
Пад чужую дудку не скакалі,
Пад сваю жалейку смуткавалі.

•

На ўскрайку Еўропы
І ў цэнтры Еўропы
Іваны, Пракопы
Капалі акопы.

Падчас на Каляды,
Парой на Купалле
Пад неба паглядам
Акопы капалі.

Знаходзіў бывала,
Капаючы, хтосьці
Мінулай навалы
Салдацкія косці.

І гнулася зноў жа
Дадолу пытанне:
Акоп гэты, можа,
Магілай мне стане?

Лячыліся жартам
Ад скрухі, знямогі:
— А раптам ёсць скарб тут
У фонд перамогі!

— Капайма, пяхота, —
Акопіны будуць!
Яшчэ каля хаты
Капаць будзем бульбу!..

... У цэнтры Еўропы,
На ўскрайку Еўропы
Капалі акопы
Вайны далакопы!

### РАЗМОВА З МАЦІ

Будзь мяккай ёй, зямля,
Будзь, неба, ёй ласкавым,
З матуляй размаўляў
Я, помню, так яскрава:

— Ну як там Гарбачоў?
— З Фаросу ўжо вярнуўся!
— Малітвы Бог пачуў —
Ад нас не адвярнуўся!

— Пасланы Богам, ён
Нам вызваліў сумленне,
Што некалі ў палон
Узяў антыхрыст Ленін!

— Як цяжка перажыць
Былю, калі Саветы
Зусім хацелі зжыць
Усіх святых са свету!

— А колькі знёс абраз —
Мой бацька! —
Во здзівіўся б:
Нібы стары абраз,
Час гэтак аднавіўся!

— Адновіцца яшчэ
Нямала ўсюды храмаў. —

І слёзы тут з вачэй,
Як воск са свечкі,
ў мамы...

### ЯЗМІН

Помніцца — раўнёй быў
мне малому.
Божа мілы — колькі лет і зім...
У родны двор не ўвойдзеш
без паклону —
Так разросся ў весніцах язмін!

Хата наша з радасцю ў паглядзе
З ранішняй расою — са слязьмі.
Як па галаве мяне пагладзіў,
Мамаю пасаджаны, язмін!

Хіліць эмігранту гарадскому
Кветкі на дарогу, мне — вазьмі.
Так супала, што й па гараскопу
Дрэва маё — матчын дар — язмін!

## Анатоль МАЙСЕЕНКА



•

*А. М. БЕЛАКОЗУ*

Адкуль прыйшоў?
Куды пайду? —
Імглістa ўсё і невядома.
Адно каб знаць: ля свайго дома
Пасля дажджлівай ападу.

Другі хай стане кронай клёна.
А мне — хоць каменем шурпатым,
Абы ў падмурак роднай хаты,
Краіны светлай і зялёнай.

Я мітусіцца не люблю.
Як перасілім зло, Айчына,
Тады ўпаду на рукі сына,
Сыйду у вольную зямлю.

О, Беларусь!
З табой імглу
Перацярплю, перамагу.

### ЯКІЯ ЛЮТЫЯ МАРОЗЫ

Той весяліцца, гэты плача,
Табе нялюдскасць сэрца тне.
Каму жар-птушкаю удача...
Не для мяне, не для мяне.

Спяшыць дзяўчына
коўзкай сцежкай, —
Бяда яе хай не кране.
Такая мілая усмешка...
Не для мяне, не для мяне.

Якія лютыя марозы
У гэтай пышнай сівізне!
Давіла зло, ды толькі слёзы
Не для мяне, не для мяне.

Знайду спачын свой на кургане,
Ніхто таго не абміне.
А ранак светлы зноў настане...
Не для мяне, не для мяне.

Няхай ні ў чым не паўтаруся,
Не ўбачу роднага сяла, —
Свяціла б зорка Беларусі
І за сабой у даль вяла...

### БАЛЬНІЦА

Там зацвітае рута-мята,
Пяе, звініць птушыны бор.
Тут стогне, курчыцца палата
І душыць хлоркай калідор.

Я давяраў табе, як брату,
Бярог, як брата, з даўніх пор.
А ты загнаў мяне ў палату,
У цесны, змрочны калідор.

Ах, я і сам тут вінаваты:
Не вельмі мкнуўся на прастор,
А выйсце знаў адно з палаты —
У камунальны калідор.

І вось жывеш, бы на вакзале,
Яшчэ цябе трывожыць путь.
Няўжо, як класікі казалі,
Пара забыцца і заснуць?

Ёсць непазбежная расплата!
І не кляні жыццё ў дакор,
Што як бальнічная палата,
Як той абрыдлы калідор.

# НЕНАПІСАНЫЯ СЮЖЭТЫ

*(Пачатак на стар. 5)*

галоўлітчыкаў. Не хапіла ім, правінцыялам, цэнзарскага нюху больш спрактыкаваных калег-масквічоў.

...У каламутнасці сённяшняй явы слухаў, чытаў пра выгнанне ў Расіі з вайсковай службы заслужаных генералаў і няўкорных, паважаных афіцэраў за нязгоду далучыцца да заваранага ў Чачні, глядзеў на ўзбуйнены тэлеэкранам непранікальны твар цяперашняга расійскага генпракурора, калі той гразіў ім за гэта следствам, а то і трыбуналам, — і ўзварухнулася ненапісанае пра Гусева.

## СІНДРОМ ПЯТАГА ПУНКТА

На семінары драматургаў у Ялце, колькімі штрыхамі вышэй акрэсленым, я патаварышаваў з татарскім пісьменнікам Аязам Гілязавым. Блізкімі тэматыкай былі п'есы, якія, лічылася, мы там даводзілі да ладу. Мы з ім равеснікі — і ўзростам, і літаратарскім стажам. У маім мінулым меліся гады ў Казані, — не глядзеў, значыць, бараном, калі ў яго расказах пракідалася што, скажам, са звычнай яму тапанімікі: Булак, Крэмль, вуліца Баўмана, Займішча, Чыстапаль. Ну'і, галоўнае, ён цікавая, неардынарная, з мяккім унутраным святлом, з бліскаўкамі пры кантакце з ім зычлівага гумару асоба.

Першакурснікам універсітэта, учарашнім зялёным калгасным кладаўшчыком, ён быў паваенным годам арыштаваны. Як удзельнік студэнцкай нацыяналістычнай арганізацыі. Народжанай, вядома, у разгарачаным зламысным уяўленні сюжэтчыкаў з сумнаслынных органаў. Адмуляраў у сумнаслынным жа Карагандзінскім лагеры да рэабілітацыі ў адлігу пасля смерці Сталіна. І нават з памятнага адтуль пры размовах нашых выпорваў, як правіла, тое, з чаго можна было пасмяяцца, крайнім выпадкам, журботна пасміхнуцца.

Толькі аднойчы ў крымскі месяц нашага знаёмства я ўбачыў яго на гумар не падатным, калючым, насцярожаным.

У далёкіх ад нас Мінску і Казані яшчэ не здавалася, брыкалася зіма, але тут ужо ў самай раскошы стаяла ранняя прычарнаморская вясна. Мы сядзелі ў скверы каля тэатра, дзе некалі артысты Станіслаўскага гралі Чэхаву "Чайку", цешыліся лагодным, ласкавым сонцам. Ды Аяз раптам спахмурнеў:

— Экскурсія ідзе. Падыдзем, паслухаем.

Я замаліўся:

— Такая любата! Пабойся бога! На якую хваробу табе школьныя прописі экскурсаводкі?

— Пойдзем! — зацята паўтарыў Аяз. — Паслухаем, што яна гаворыць пра татар.

Навешанае колісь агулам на крымскіх татар абвінавачванне ў здрадніцтве, калабаранцтве аддавалася ў сэрцы іх волжскага сабрата пякучым болем...

Лічаныя секунды, міг! А як жа сляпуча мне разанула вымотным, з неаслабнай напятасцю нерваў, з неадступнай бояззю нарвацца на абразу пачуццём. Непраходным у кожнага, каму давялося хоць калі спазнаць небяспеку сваёй "не той" нацыянальнасці, дыскрымінацыю з прычыны "не таго" пятага пункта анкеты.,

***Хачу вярнуцца ў сваіх разважаннях да падзей мінулых, да кастрычніка-лістапада 1994 г., калі ў часе майго быцця на Беласточчыне завітаў у музей скульптуры Альфоса Карнегі. Там праходзіла выстава знаных польскіх мастакоў 30-х гадоў Яна Цыбіса, Зігмунда Валішэўскага і Артура Нахт-Самброўскага. Днямі зноў, перагортваючы старонкі каталогаў, што прывёз адтуль, чарговы (ці не соты альбо тысячны раз) пазайздросціў, як жа ашчадна і паважна ставяцца яны да свайго мінулага. І не адзін альбом ужо выдалі, і выставы — справа досыць частая. А нам, каб сабраць ды прывезці (гаворка пра каталог нават і не ідзе) выставу Альгерда Малішэўскага, работы якога лёсам раскіданы па розных музеях на Беларусі, а бліжэйшага і далёкага замежжа, спатрэбіцца не адзін, можа, год. Чаму выстава Рамана Семашкевіча, з такім поспехам прайшоўшая некалькі год таму ў Маскве, так і не завітала на яго радзіму? Дзе так даўно задуманы альбом з работамі беларускіх каларыстаў 30-х гадоў — Станюты, Філіповіча, іншых?Абяцаюць, што выйдзе-такі з друку ў гэтым годзе альбом Язэпа Драздовіча, які дасюль заставаўся неабазнанай у нашай культуры, загадкавай фігурай. Але няпэўнасць палітычных і, прабачце, грашовых варункаў робіць усе гэтыя пажаданні і ўжо распачатыя справы таксама няпэўнымі. Адзінае выданне, якое датыкнулася да мастацтва 30-х гадоў — шматтомная "Гісторыя выяўленчага мастацтва Беларусі", — на жаль, не стала ані грунтоўным даведнікам, ані высокім мастацкім апісаннем таго перыяду.***

# КАЛАРЫЗМ І КАЛАРЫСТЫ — ПЫТАННЕ БЕЗ АДКАЗУ

Таму і пазайздросціў я сябрам-палякам, патрымаўшы ў руках даўнюю іх манаграфію "Каларысты", дзе адведзены асобны раздзел З. Валішэўскаму і іншым удзельнікам аб'яднання "Камітэт парыжскі". І ўспомнілася, як прагнулі мы ў студэнцкія часы да спадчыны жывапісцаў, як за драбязу некалі набылі ў букіністаў надзвычай рэдкае, агромністае, каляровае выданне работ парыжаніна з беларускіх Смілавічаў, выдатнага каларыста Хаіма Суціна, як вучыліся па ім сапраўднаму жывапісу, берaглі, гублялі і знаходзілі. Гэтак жа ў студэнцтве выпадкова трапіў нам у рукі часопіс "Польшча" з артыкулам К. Паустоўскага пра З. Валішэўскага (той ведаў мастака асабіста, сустракаўся з ім у Маскве і быў вельмі захоплены яго творчасцю і чалавечай добразычлівасцю). Тады партрэт Бальзака работы Валішэўскага стаў для нас, яшчэ не сфармаваных мастакоў, штуршком да разважанняў, што ж такое колер у жывапісе. Пытанне, якое мы спрабуем вырашыць і сваімі цяперашнімі работамі, і работамі вучняў.

А праз дваццаць пяць год пасля першага знаёмства з Валішэўскім па артыкуле ў часопісе ўпершыню трапіў я ў Беласток. І на парозе "Нівы" пачуў — адкрылася выстава. Не гублячы часу, пашпацыраваў праз парк Палаца Браніцкіх ("Версаля Поўначы") да музея. І за два месяцы маіх літаральна штодзённых наведванняў экспазіцыі аказаўся... адзіным гледачом! Так, запэўніць вас які слынны крытык, Польшча стала зараз палігонам абстракцыяніцкіх эксперыментаў, а каларыстычны жывапіс увогуле не мае спросу на Захадзе, і гэта адзнака часу. Сумнавата, але сапраўдных жывапісцаў, што ідуць ад прыроды, колеру і гармоніі, не так ужо многа засталося, а ўспрыманне іх творчасці, бяруся гэта сцвярджаць, патрабуе пэўнай эстэтычнай выхаванасці.

Як бы там ні было, а мне пашчасціла сустрэцца з непаўторнай творчасцю Валішэўскага, яго сяброў і, трапіўшы пад уздзеянне аўры іх работ, міжволі адчуць прысутнасць Р. Семашкевіча, М. Філіповіча, М. Станюты, А. Малішэўскага. Спадкаемцы! Пластыка твораў беларускіх і польскіх мастакоў 30-х гадоў нашага стагоддзя мела шмат агульных рысаў, якія сканцэнтраваліся, пасля сінтэзаваліся ў работах А. Малішэўскага фактурай, колерам, вобразамі, прасторай.

Але ж вернемся да выставы і пройдземся па яе залах як шчыра зацікаўлены гледачы, якія імкнуцца зразумець творчасць мастакоў-каларыстаў. Бо разуменне гэта вельмі актуальнае для сучаснага беларускага мастацтва, дзе пытанне, што ж такое жывапіс, якім ён мусіць быць, праз што ствараецца яго каларызм, дасюль неакрэсленае. І не толькі тэарэтыкамі мастацтва, але і самімі творцамі. Меркаванні разышліся найперш у пытаннях навучання студэнтаў — будучых жывапісцаў — у Беларускай акадэміі мастацтваў. Але, зрэшты, гэта натуральна. Каму, як не галоўнай акадэмічнай мастацкай установе рэспублікі, займацца вытлумачэннем і станаўленнем беларускага жывапісу? Пакуль адзіна акадэмія можа выступіць стрымліваючай сілай анархіі сучаснага мастацкага рынку.



*М. Філіповіч, "Веснавое свята".*

Дык, можа, беларускім мастакам-жывапісцам дасць разуменне складанага пытання каларызму вопыт польскіх майстроў?

Выстава распачынаецца партрэтам "Стаські" З. Валішэўскага. Вас сустракае з усмешкаю дзяўчо басанож і з букетам кветак. Франтальная кампазіцыя цалкам перабіваецца дынамічным актыўным жывапісам з кантрастамі лілова-фіялетавых, блакітных, вахрыста-ружовых і зеленаватых таноў. Жывапіс нібы насычае кожны сантыметр палатна, надаючы статычнай кампазіцыі колеравы драматызм. Поўны драматызму і "Аўтапартрэт" 1936 г. Тонкія, сціснутыя вусны; шырока раскрытыя на свет вочы напісаны так, што яны нібыта ўвабралі ў сябе блакіт нябёсаў; вуглаватыя, акрэсленыя чырвонай вохрай бровы — уся постаць мастака імкнецца набыць дакладную форму ў інтэр'еры. І гэта пластычная барацьба за гармонію з'яўляецца нібы споведдзю мастака аб сваім лёсе, які, на жаль, быў трагічны. Пасля першай сусветнай вайны мастак быў прыкаваны да інвалідкай каляскі.

Што ж датычыць ягоных работ у апошні перыяд жыцця — з 1925 г. ("Аўтапартрэт") да 1933 г. ("Капішча Касцюшкі", "Алея ў Варшаве") — яны ўбіраюць у сябе дасягненні пленэрнага жывапісу XX ст., у прыватнасці Л. Банара, як класіка стылю, але стафажныя фігуркі ці то конніка ў "Капішчы Касцюшкі", ці то натоўпу людзей у "Алеі ў Варшаве" акрэслены разам з тым гратэскна, з добрай доляй ласкавай іроніі, што сведчыць аб ужыванні элементаў неапрымітывізму. Гэтыя ж элементы маюць быць і ў такой працы, як "Рэстаран", што нагадала мне творы Р. Семашкевіча імправізаванасцю пластыкі, стрыманасцю палітры, але дакладнасцю колеравых спалучэнняў. Найбольш выразна выявілася гэта ў работах апошніх год жыцця мастака — "Трапеза" (1933) і "Бальзак" (1931). Невялікія па памеры творы захавалі фактуру палатна, багата нюансаваны паўтанамі колеру, з вялікай доляй каларыстычнай імправізацыі, грунтоўнай распрацоўкай святла. Цені напісаны больш абагулена, набываюць характар дакладнай геаметрычнай формы. Малюнак становіцца вольным, залежным ад пластычнай распрацоўкі вобразу. Выяўляецца ўзаемазалежнасць пластычнага матэрыялу (алею), пакладзенага на палатно вельмі тэмпераментна, і абвостранага адчування першаформы. І гэта надае творам характэрныя рысы, уласцівыя прымітывам, ажыўляючы статычнасць гратэскам і іроніяй. Ці ж не апісанне перад вамі палотнаў М. Ларыёнава, М. Філіповіча, Ж. Руо?



*З. Валішэўскі, "Бальзак".*



*Р. Семашкевіч, "Партрэт Таўлая" (друкуецца ўпершыню)*

Узгадайце "Купалле" М. Філіповіча, дзе дзеянне адбываецца пазачасна, яно было да нас, ёсць сёння і будзе надалей. Зігмунд Валішэўскі часта звяртаўся ў сюжэтах да венецыянскага рэнесансу, але ў іх дыхае і сучаснасць самога творцы. Але ў параўнанні з польскім мастаком М. Філіповіч будуе сваю каларыстыку на больш фавісцкіх суадносінах, адкрытых кантрастах, спалучэннях асноўных колераў — чырвонага, жоўтага, блакітнага, карычневага, якія ўзмацняюцца ўвядзеннем чорнага контуру. Стоячы перад палотнамі З. Валішэўскага, я прыгадаў як бы самыя полюсавыя працы беларускіх мастакоў 30-х гадоў. Халодная гама "Старога беларуса з люлькай" Філіповіча, "Аўтапартрэт" Станюты з аднаго боку і "Купалле", "Партрэт дачкі" з другога, а таксама "Партрэт Таўлая", "Партрэт жонкі" Семашкевіча і іншыя. Іх яднае багацце каларыстычных распрацовак разам з экспрэсіяй, тэмпераментнасцю пісьма, сапраўднай культурай распрацоўкі фактуры палатна, драмай творчасці і жыцця (хто мусіў з'ехаць без жадання, а хто быў расстраляны, а разам з імі і ягоныя творы — як той жа Семашкевіч).

Менш драматызму ў творчасці Яна Нахт-Самброўскага. Яго ўраўнаважаныя, дакладна збудаваныя нацюрморты звяртаюць на сябе ўвагу каларыстычнай еднасцю, геаметрызмам пабудовы прасторы, спрошчанасцю, абагульненнем формы. Лаканізм простых рэчаў, напоўненых своеасаблівым меладычным рытмам, вабіць да сябе яснай гармоніяй, прасветленасцю і цалкам адпавядаюць сэнсу самога тэрміна "нацюрморт" — stilleben — ціхае жыццё рэчаў. Мастак насычае святлом усю жывапісную прастору і дзіўным чынам спалучае ахраматызм з усполахамі адкрытага колеру. Контр-ажур формы цягнецца да святла і на мяжы з ім набывае дадатковы колер: так белая рэч можа быць акрэслена аранжавым мяккім контурам, не страціўшы пры гэтым уяўлення аб'ёмнасці. Гэты своеасаблівы антычны эфект трывала ўвайшоў у скарбніцу дасягненняў каларыстыкі з часоў Дэлакруа і быў падхоплены мастакамі на пачатку XX ст.

Пленэрны жывапіс Яна Цыбіса вабіць багаццем каларыстычных аркестровак, моцнай фактурай ("з кулак", як любіў на тое казаць сябра Альгерд Малішэўскі). Мастак прадстаўлены на выставе 14 краявідамі. Больш даўнія — невялікія па памерах, сваёй утульнасцю і рамантызмам блізкія да прац Р. Семашкевіча. Але ім не хапае ягонай дынамікі, напружанасці колеру, рытму. У далейшым Ян Цыбіс надае сваёй творчасці больш упэўненасці і моцы. Паўлічваецца доля колеравай плямы з дробнай апрацоўкай паўтанамі. Ён здзіўляе культурай свайго бачання, моцным пранікненнем у сюжэт, імпульсіўным пісьмом. І зноў вярнуўся я ў думках да Беларусі, дзе ўсе гэтыя шляхі развіцця мастацкай творчасці былі падобныя, а Альгерд Малішэўскі, на мой погляд, паяднаў усе — і беларускіх, і польскіх жывапісцаў — дасягненні.

А калі мне давялося наведаць майстэрню Лёніка Тарасэвіча, успомнілася старажытная кітайская прыказка, як мастак пайшоў у лес маляваць малпу. А праз месяц запытаўся ў падарожнага, што той бачыць на малюнку. Адказаў — малпу. Зноў пайшоў мастак у лес і праз тры месяцы пачуў адказ — малпа на дрэве. А калі мастак вярнуўся з лесу праз паўгода, то падарожны адказаў, што малпа плача. Бо твор — не проста адлюстраванне пабачанага, нават калі гэта звычайны нацюрморт. Драма ў жывапісе ствараецца праз працягласць мазка, яго накірунак, моц, з якім ён пакладзены. Жывапіс існуе не таму, што ёсць сюжэт, што выкладзены ён светла альбо цёмна. Жывапіс імкнецца выявіць прастору і занатаваць яе імгненне. Таму жоўта-карычневая, ахраматычная гама пад геаметрычна дакладнымі штрыхамі на работах Тарасэвіча — рытмы самой прыроды, настрої наваколля. І — жывое пацвярджэнне неабходнасці развіцця каларыстыкі ў новых пл... жывапісных формах.

**Алег МАЦІЕВІЧ**

*Фотарэпрадукцыі А. МАЦЮША*

# БЕНЕФІС... ВІЯЛАНЧЭЛІ

**Гэта быў не проста канцэрт, а творчы вечар —з прамовамі, успамінамі, віншаваннямі і, канечне, з кветкамі ды авацыямі. Гэтым вечарам адзначаў 30-годдзе свайй творчай дзейнасці вядомы музыкант Алег Алоўнікаў. Ён саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, але ў розны час паспытаў музыканцкай працы ў сімфанічных і ў ваенным аркестрах, у анасамблі танца. Ён быў сярод стваральнікаў нашага Камернага аркестра, выкладаў, займаўся дырыжыраваннем. Ён — аўтар твораў для віяланчэлі і музыкі да шэрагу фільмаў. Ён — папулярызатар музычнага мастацтва розных эпох, краін, стыляў, і ўсю гэтую стылёвую стракатасць, усё багацце вобразнага зместу, увесь гэты неабдымны і невычарпальны духоўны свет імкнецца выказаць голасам свайго інструмента. Віяланчэлі...**

**Пэўна ж, не пакрыўдзіцца Алег Алоўнікаў, калі гераіняй вечара назваць менавіта яе, віяланчэль.Голас яе зністоўваў такую насычаную і разнастайную праграму канцэрта: Бах, Вівальдзі, Бетховен, Глюк, Сен-Санс, Арэнскі, Блох, Уэбэр... Віяланчэль у дуэце з арганам, з фартэпіяна, у "кампаніі" з акцёрскай дэкламацыяй, з ансамблем арфістак, са струннай групай, з хорам, з вакальным ансамблем, з джаз-рок ансамблем ды пантамімай... А якія партнёры дапамаглі А. Алоўнікаву ажыццявіць праграму! Арганіст К. Шараў, піяніст Ю. Гільдзюк, хормайстры А. Шут ("Sonorus") ды Н. Жураўленка (Маладзёжны камерны хор), ансамбль "Камерата" пад кіраўніцтвам А. Шыкунова, навучэнцы харэаграфічнага вучылішча, ансамбль пантамімы "Рух" пад кіраўніцтвам У. Колесава, ансамбль салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Б. Бярнштэйна, артысты В. Анісенка, А. Уладамірскі...**

**Віншавалі музыканта яго добрыя знаёмцы і сябры — А. Кірыенка (ад Міністэрства культуры), мастак У. Стальмашонак, мастацкі кіраўнік БДФ Ю. Гільдзюк, мастацкі кіраўнік Акадэмічнага рускага тэатра Б. Луцэнка, акцёрскі дуэт З. Браварская ды В. Лебедзеў. Ну, а спатоліць творчую ненасытнасць А. Алоўнікава, якая выявілася ў складзенай з размахам праграме, дапамаглі шчодрыя спонсары.**

**У канцы вечара публіку чакала сапраўдная сенсацыя — першае выкананне ў Мінску і, як падказала праграмка, — у СНД варыяцый Э. Л. Уэбэра на тэму Паганіні для віяланчэлі і джаз-рок ансамбля. Ажыццёўлена гэтае музычна-пластычнае відовішча было з удзелам ансамбля "Рух"... Тыя, хто ведаў толькі творчыя якасці А. Алоўнікава, цалкам пераканаліся ў яго арганізатарскім таленце, што дазволіў яму сабраць у адным канцэрце цэлае сузор'е выдатных беларускіх музыкантаў.**

**С. Б.**

# КОНКУРС ЗАВЯРШЫЎСЯ, КОНКУРС ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Завяршыўся Рэспубліканскі конкурс твораў для дзяцей, які праводзіў Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей. Пераможцамі сталі: А. Федарэнка, В. Шчукіна (у жанры драматургіі), А. Канапелька, М. Чарняўскі, У. Скарынкін, юныя паэты гуртка Цэнтра творчасці г. Орша, В. Лаўрыновіч (у жанры паэзіі), У. Кур'ян, А, Кленавец, Э. Наско, юныя кампазітары школы г. Зембіна Барысаўскага раёна (у жанры песні), А. Чыркун, А. Масляніцын (у жанры музычнай казкі).**

**Журы выказвае вялікую падзяку Беларускай Рэспубліканскай партыі (старшыня У. Белазор) і асабіста прэзідэнту фірмы "ВІК" В. Вішкоўскаму, якія выступілі фундатарамі конкурсу. Таксама запрашае да ўдзелу ў новым конкурсе твораў для дзяцей, які будзе праходзіць з 1 мая 1995 года па 1 лютага 1996-га.**

**Творы драматургіі, паэзіі, песні, музычнай казкі, сцэнарыі святочных ды ўрачыстых вечарын трэба дасылаць у двух экземплярах, надрукаваных на машынцы, на адрас: 220030, г. Мінск, пр. Скарыны, 32 б, Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей.**

**Тэл. для даведак: 27-51-76.**

**ЖУРЫ КОНКУРСУ**

# "КРАЙ МІЛЫ, РОДНЫ МОЙ, РАССТАЎСЯ Я З ТАБОЙ..."

***Сумная вестка прыйшла з далёкай Аўстраліі — 3 лютага 1995 г. на 68 годзе жыцця памёр Уладзімір Случанскі (Шнэк) — таленавіты беларускі пісьменнік, мастак жывапісец, адзін з актыўных дзеячаў беларускай эміграцыі. Яго лёс мог бы стаць асновай для аб'ёмнага даследавання аб шляхах-пуцявінах чалавека, які апынуўся на перакрыжаваннях айчыннай гісторыі, і найперш — выгнанніцкай гісторыі.***

Сваёй малой радзімай Уладзімір Случанскі лічыў Случчыну, хаця нарадзіўся ён у Мінску (як і ягоны брат Алег (1930), таксама вядомы дзеяч беларускай эміграцыі ў Аўстраліі), у сям'і кадравага вайскоўца, якога службовы лёс кідаў па ўсім неабдымным СССР. У час сталінскіх рэпрэсій бацька быў выключаны з партыі, звольнены з войска, і сям'я вярнулася на Случчыну, у вёску Лядныя, дзе жыла ўся бацькава радня. І, можа, з тых незабыўна-шчаслівых дзён запалі ў сэрца і памяць будучаму мастаку непаўторная краса родных мясцін, дзе працякаюць Случ і Марачанка, а вакол, як кінуць вокам, казачна-прыгожы лес, бабулін сад з яблыкамі і грушамі, вясковыя раніцы са спевамі пастуховае жалейкі, пахамі свежаспечанага хлеба і сырадою... Можа, адсюль пачалося для яго ўсведамленне і нязгасная любоў да Бацькаўшчыны, зоркі якой заўсёды асвятлялі нялёгкі жыццёвы шлях...

Паспеўшы зведаць жахі вайны, акупацыі, 17-гадовым юнаком Уладзімір Шнэк стаў выгнанцам. Вучыўся ў беларускай гімназіі, заснаванай у лагеры для перамешчаных асоб у Ватэнштаце (Германія), дзе беларускую мову і літаратуру выкладаў паэт Хведар Ільяшэвіч. Пад яго кіраўніцтвам і апекай Уладзімір Шнэк пачаў пісаць апавяданні, і першае з іх ("У агні") было надрукавана ў лагерным часопісе пад псеўданімам "Случанскі", які параіў яму ўзяць Хведар Ільяшэвіч. Пазней пасябраваў малады аўтар з паэтамі Пятром Нядзведскім-Звонным, Масеем Сяднёвым, актыўна ўключыўся ў жыццё беларускай калоніі, публікаваўся ў часопісе "Нашы ветразі". Давялося, каб неяк выжыць, папрацаваць у вугальных капальнях у Францыі, на тэкстыльнай фабрыцы ў г. Бэльфор, зноў вярнуцца ў Германію, дзе было цяжка, няўстойліва. І таму сям'я Шнэкаў, разам з іншымі беларусамі, вымушана была ў 1950 годзе выехаць у Аўстралію. Нялёгка было і тут наладжваць жыццё. Аднак беларусы змаглі аб'яднацца, разгарнуць супольную дзейнасць. Уладзімір Случанскі ўзначаліў маладзёжны скаўтынг імя Усяслава Чарадзея, пачалі вывучаць беларускую гісторыю, нацыянальныя традыцыі, арганізавалі мастацкую самадзейнасць, адзначалі розныя беларускія святы. Па яго ініцыятыве была заснавана нядзельная беларуская школа, а ў 1956 г. яго выбралі старшынёй Беларускага аб'яднання ў Вікторыі. Было наладжана выданне часопіса "На варце" (а пазней і гумарыстычнага дадатку да яго — "Ёрш"), дзе ў 1958 годзе была надрукавана гістарычная паэма Лявона Случаніна "Рагнеда" (аўтар яе ў гэты час адбываў 15-гадовую катаргу на радзіме). Магчыма, у гонар славутай беларускай гераіні Уладзімір Случанскі назваў сваю другую дачку, якая нарадзілася ў 1958 годзе, Рагнедай.

Усе гэтыя гады ён не толькі шмат працаваў, каб матэрыяльна забяспечыць сям'ю, але і настойліва вучыўся: скончыў (1961) завочны факультэт Мастацкага інстытута ў Мельбурне, быў прыняты ў Згуртаванне мастакоў Вікторыі, намаляваў шмат карцін алеем і акварэллю, пераважна краявідаў, якія хутка былі раскуплены. У 1967 годзе ён стаў курсантам лекцый "Сучасная зброя і асновы стратэгіі", скончыў з ганаровым дыпломам Каралеўскі інстытут тэхналогіі ў Мельбурне (1972). Як мастака, яго захапіла ідэя распрацаваць ваенную форму і адзнакі беларускага вайскоўца, паколькі на эміграцыі працягваў існаваць Беларускі Вызвольны Фронт. У. Случанскі ўласнаручна зрабіў 10 каляровых паасобнікаў альбома "Беларуская Краёвая абарона. Уніформа і адзнакі, 1944—1984" і пераслаў іх у еўрапейскія музеі і бібліятэкі. (Копія аднаго такога альбома знаходзіцца ў Беларускім аддзеле нашай Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску). Доўгі час У. Случанскі працаваў інжынерам-дызайнерам у аддзеле электраўпраўлення штата Вікторыя, адкуль і пайшоў на пенсію ў 1989 годзе. Але да апошніх дзён не адыходзіў да беларускіх спраў: ездзіў на розныя Міжнародныя канферэнцыі, дзе выступаў з дакладамі аб становішчы на Беларусі, з якой падтрымліваў цесныя сувязі, шмат вандраваў з сям'ёй па розных краінах свету.

Усе гэтыя вехі жыццёвай біяграфіі У. Случанскага непарыўна звязаны з яго творчасцю мастака-жывапісца і пісьменніка, які прысвяціў свой талент Бацькаўшчыне. Творчая актыўнасць празаіка прыпадае на другую палову 50-х — 60-я гады, калі быў напісаны раман "Драбы", аповесць "Братчына", вершаваны сказ "Аброк Кіеву", публіцыстычныя артыкулы, у якіх асабліва адчувальны яго балючы роздум пра гісторыю, мову, сучасныя праблемы Беларусі: ...Так зляжылася гістарычная абставіна, што страціла Беларусь не толькі сваю магутнасць, незалежнасць ды сваё сапраўднае гістарычнае імя, але і здольнасць аднадушна ўстаць у сваёй абароне ды пазбавіцца чужацкага прыгону і знявагі, але дайшло і да поўнага адмаўлення існавання беларусаў як нацыі. Дайшло нават да таго, што і мову нашу родную беларускую забаранілі як неіснуючую. Забаранілі яе ўжываць ва ўрадавых установах, школах, у друку. Мову нашу пачалі ганьбіць, называць хамскай, мужыцкай, лапцюжнай, нязграбнай і грубай, ды нарэшце абвясцілі, што гэта зусім не мова, а проста скалечаны дыялект "русского языка". Аднак гэтыя ганьбіцелі добра ведалі і ведаюць, што мова гэта беларуска-лапцюжная не так даўно была мовай навукі і культуры на ўсходзе Еўропы, мовай прыдворнай у каралеўскіх харомах Кракава ды царскіх палатаў Масквы. Мова гэта была дыпламатычнай мовай славянскіх княжых двароў, мовай летапісаў і гандлёвых падрахункаў ды спісаў. Мова перадавая, прыгожая, багатая, ласкавая, выразная. Мова, на якой выдрукавана першая кніга на славянскім усходзе — біблія Францішка Скарыны. Мова, на якой у некалькіх выданнях выдаваўся Статут Вялікага княства Літоўскага — найбольш дасканала-юрыдычны дакумент на цэлую Еўропу. Пры гэтым трэба не забывацца, што Вялікае княства Літоўскае — гэта наша, і толькі наша Беларуская Дзяржава, ды нічога супольнага з сённяшняй Летувой, а ў мінулым званай Жмуддзю, не мае.

Чаму ж тады такі забойчы націск на гэту мову? Каму і дзеля чаго спатрэбілася знішчаць мову беларускую?

Добра вядома, хто безупынна імкнецца прыляпіць нашым абшарам мянушкі накшталт "Крэсы всходне" Польшчы ці "северо-западный край" расійскай імперыі. Але трэба ведаць, а захопнікі гэта добра ведаюць, што гэтыя мянушкі не прыліпнуць, пакуль існуе беларуская мова, мова асобная і асобнага народа. Значыцца, спачатку зняваж мову, а тады зусім яе знішчы — знікне і народ, бо мова — гэта душа народа. Таму так і стараліся ды надалей стараюцца нашы "дабрадзейныя" суседзі: знішчыць мову, знішчыць народ ды загарнуць сабе багатую спадчыну... Але, як і кожная жывая істота, Беларускі Народ бароніцца як можа ад згубы, бароніць сваю мову, свае звычаі і сваё Я. Бароніцца ўжо больш як два стагоддзі..." ("Кароткі нарыс фармавання і дзейнасці Беларускай Краёвай Абароны").

Так непрымірыма-бескампрамісна беларускія дзеячы замежжа ставяцца да нацыянальнага бязладдзя на Бацькаўшчыне, уяўляюць яе краінай шматпакутнай, забранай, але не зломленай, жыватворнай сваімі векавымі традыцыямі еўрапейскай дзяржавы.

Для раскрыцця гэтых традыцый і звернуты раман У. Случанскага "Драбы". У лісце да аўтара гэтага артыкула (5.5.1994) пісьменнік адзначаў: "...Узяўся я пісаць "Драбы" са злосці ці роспачы. Справа ў тым, што ўсе нашы празаікі і паэты толькі і знаюць, што аплакваюць злую долю, бяду і прымус, а плачам і стогнамі моладзь не падымеш да змагання, не павядзеш да ахвярнасці і патрыятызму. Моладзі патрэбна героіка! Ёй патрэбны нашы собскія Спартакі, Робін Гуды, Квенцін Дорварды, д'Артаньяны... Патрэбны прыклад, варты наслядоўвання. У кожным разе я так уважаў і ўважаю. Вось з гэтымі думкамі я і ўзяўся пісаць. Было вельмі цяжка, бо ўсё гэта рабілася, можна сказаць, на калене, у цягніку, у часе перарываў на працы, а часам, як прыйдзе думка, хаваючыся ў часе працы. Блакнот і алавік у мяне заўсёды напагатове. А працавалі мы тут шмат і цяжка, акрамя гэтага, сямейныя і грамадскія абавязкі, брак гістарычных даведак, асабліва імёнаў і гістарычных мапаў, вельмі дакучалі. Падтрымкі ад сяброў было вельмі мала... Вось так і сталася, што распачатая другая частка "Драбаў" так і засталася няскончанай. Як бачыце, сур'ёзна я не займаўся пісаннем, а толькі так, час ад часу, як кажуць, для аблягчэння душэўнага...".

Можна ўявіць гэты душэўны стан аўтара, калі пісьменніцкая фантазія і ўласная памяць вялі яго на радзіму, у тыя далёкія стагоддзі, калі яна была адной з магутнейшых і паважаных дзяржаў свету. Пісьменнік раскрывае эпоху вялікага князя Вітаўта, Гаспадара Літоўскага, той перыяд, калі ён са сваім войскам выратаваў краіны Заходняй Еўропы ад татарскага нашэсця, нягледзячы на тое, што пацярпеў паражэнне на рацэ Ворскле. Гэта першы ў сучаснай беларускай літаратуры раман на такую тэму, ніхто яшчэ да У. Случанскага з нашых пісьменнікаў у тыя гады не звяртаўся да падобных гістарычных тэм. ("Драбы" былі выдадзены ў Мельбурне ў 1958 г.). І празаік сапраўды захапіўся патрыятычнай ідэяй — стварыць вобразы маладых, мужных беларускіх рыцараў, паказаць іх самаадданае служэнне народу і радзіме.

Раман складаецца з 30 частак, у якіх раскрываецца не толькі знешняя палітыка Вітаўта, але ўсебакова паказана жыццё тагачаснай Беларусі, усіх яе слаёў. Нездарма аўтар даў свайму твору назву "Драбы" — так раней называліся Рыцары Пагоні, Драбы (воіны) Літоўскія, якімі маглі стаць не толькі маладыя прадстаўнікі магнацкіх родаў, але і звычайныя, простыя людзі, калі яны вызначаліся асабістай мужнасцю, сумленнасцю, любоўю і адданасцю Бацькаўшчыне.

У яшчэ больш аддаленыя стагоддзі звернуты аповесць "Братчына" ("Сказ аб падарожніках Горгію і Саўку, аб слаўным Гаспадару Полацкім князю Расціславу") і паэма "Аброк Кіеву" ("Сказ аб Рацібору, тысяцкім з Іскарасценя"). Творы гэтыя, па прызнанні аўтара, напісаны для хатняга чытання ўласным дзецям: калі яны яшчэ хадзілі ў школу. Сваім дочкам У. Случанскі наогул шмат расказваў пра гісторыю Беларусі, чытаў ім вершы Я. Купалы, паэму Л. Случаніна "Рагнеда", па памяці апавядаў пра перамогі князя Альгерда, мужнасць вялікага Князя Вітаўта, мудрасць Льва Сапегі, друкі Ф. Скарыны. Творы пра смелага кемлівага юнака Горгія, асілка Саўку, якія дапамаглі князю Расціславу выкрыць здраду нядобрасумленных купцоў-змоўшчыкаў, і пра мужную абарону драўлянамі, якія сяліліся і жылі па рэках Прыпяць і Случ, свайго горада ад войска княгіні Вольгі, праілюстраваны самім аўтарам выдатнымі малюнкамі.

Сёння нам застаецца толькі пашкадаваць, што так рана абарвалася жыццё таленавітага пісьменніка, што ён напісаў так мала і яго несумненныя здольнасці празаіка не змаглі раскрыцца ва ўсёй глыбіні і шматграннасці. Нават гэтыя яго першыя спробы ў асэнсаванні гістарычнай тэмы паказваюць, колькі ён мог бы напісаць цікавых твораў, каб жыццё склалася па-іншаму, каб не стаў ён выгнаннікам, а жыў на сваёй Бацькаўшчыне, якая магла б спрыяць нацыянальным талентам. Магла б, а не вынішчала ў гулагах, не выштурхоўвала за свае межы. Пакуль яна паспрыяла таму, што праз дзесяцігоддзі ізаляванасці і нематы беларусы-эмігранты пачынаюць наведваць Бацькаўшчыну, вяртаць ёй усё лепшае са сваёй духоўнай спадчыны.

У 1993 годзе пабываў і Уладзімір Случанскі на Беларусі. Яны з братам Алегам былі запрошаны на Першы З'езд беларусаў свету, што праводзіла ЗБС "Бацькаўшчына". Якія радасныя і сумныя, светлыя і трывожныя пачуцці ахапілі яго, калі ён, пасля паўстагоддзя, ступіў на зямлю Радзімы! Найпершае спатканне з Мінскам, удзел у рабоце З'езда, як паўнамоцнага дэлегата ад Беларускага Вызвольнага Фронту. Выступаў з прамовай. Па запрашэнні палкоўніка М. Статкевіча У. Случанскі быў прыняты ў шэрагі Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў. Як удзельнік з'езда, разам з іншымі дэлегатамі У. Случанскі пабываў у Бярэсці, Камянцы, Белавежскай пушчы, на Нарачы, у Пінску, Лідзе, Магілёве. Купальскую ноч правялі каля Навагрудка над Нёманам, па ўсіх правілах старажытнага нацыянальнага свята, якое здаўна жыве ў народзе.

І некалькі дзён хадзіў ён па слуцкай зямлі. "Гэта была мара праз усе гады выгнання, і нарэшце яна здзейснілася! Колькі хвалюючых успамінаў перапаўняла душу, якое шчасце — зноў пахадзіць па сцежках маленства і ранняга юнацтва, аднавіць незабыўнае, — згадваў пісьменнік. — Гэта было шчасце вяртання на Бацькаўшчыну, здавалася, пакінутую назаўсёды, але якая ніколі не забывалася на далёкай чужыне..."

Вярнуўшыся ў Аўстралію, ён жыў успамінамі пра сваё спатканне з радзімай, прысвяціў ёй кранальныя, шчырыя радкі:

**Мілейшай сэрцу краіны не знойдзеш!**
**Зімой, вясной і летам,**
**восеньскай парой.**
**Край мілы, родны мой,**
**растаўся я з табой**
**А ў сэрцы смутак, жаль і непакой.**
**Жыву табой!**

Не думаў ён, што гэта было яго развітанне з Бацькаўшчынай назаўсёды. У сакавіку прыйшоў мне ліст з Аўстраліі ад Рагнеды — дачкі Уладзіміра Случанскага. Яна напісала пра цяжкую хваробу бацькі і яго смерць. Ён пакінуў родным запавет — завезці на Беларусь і пахаваць яго астанкі на Случчыне, каб навечна вярнуцца і спачыць у роднай зямлі.

**Лідзія САВІК**

1945 -1995

**Я ўглядаюся ў здымак, зроблены ў чэрвені 1974 года ў Хатыні, куды я павёз прыехаўшага да мяне ў Мінск старога баявога сябра Фёдара Манзіенку, на жаль, цяпер ужо нябожчыка, і многае, многае ўспамінаецца з тых далёкіх векапомных гадоў партызанскага змагання з ненавісным ворагам...**

# КАЛІ ПРЫЙДУЦЬ НАШЫ?

Я бачыў гэты самалёт. Так здарылася, што па справах падпольнай групы я пакіраваў у вёску, размешчаную ад родных Васілевіч вёрст за дванаццаць, і там заначаваў. Сядзеў на лавачцы з мясцовым хлопцам, з якім разам вучыўся ў школе.

Гэта быў сорак другі год, чэрвень месяц. Настрой, які тады валодаў намі, быў трывожны, панылы. Пасля пераможнай, радаснай зімы, калі немцаў пагналі ад Масквы, калі Чырвоная Армія наступала на іншых напрамках, калі ў нямецкіх зводках разы два-тры нават мільганула назва беларускага Віцебска, фашысты зноў узялі ў рукі ініцыятыву. Захапілі Керч, дабівалі акрываўлены Севастопаль, пад Харкавам акружылі вялікую групу савецкіх войскаў...

Трэба разумець настрой таго часу. Патрыятычна настроеная моладзь, асабліва тая, якая намацвала ніці сувязей з падполлем, з партызанамі, што пачыналі разгортваць дзейнасць, чуйна прыслухоўвалася да падзей на фронце. Фронт азначаў усё. Ад поспехаў на фронце залежала, як хутка прагоняць немцаў, а, значыць, прыйдуць нашы, усталюецца ранейшае жыццё, можна будзе адчуваць сябе вольнымі людзьмі, вучыцца, працаваць. Думка гэтая: калі прыйдуць нашы — сядзела ў свядомасці неадступна. Я клаўся спаць і прачынаўся з ёю.

Летам, у чэрвені, змрок наступае позна. Недзе а дванаццатай гадзіне, калі мы з таварышам збіраліся разысціся, пачуўся гул самалёта. Яго сілуэт мільгануў над лесам, затым самалёт зрабіў яшчэ два ці тры кругі. І гул матора пачаў аддаляцца ва ўсходнім напрамку...

Мы з таварышам рашылі: самалёт савецкі. Аднак пра тое, чаму ён кружыў над мясцовым лесам, прыходзілася толькі здагадвацца.

Адгадка прыйшла няхутка, позняй восенню таго ж года. У гэты час савецкія войскі ўжо вялі зацятыя баі ў Сталінградзе. Многа іншых падзей адбылося за гэты час. Умацаваліся мясцовыя партызаны, асабліва атрад імя Варашылава, людзей якога з Мазыра, Калінкавіч вывеў у лес капітан-акружэнец Кузьма Бакун. Загартавалася мястэчковая падпольная група, хоць нашага кіраўніка Анісіма Белага, ягоную сястру Олю фашысты расстралялі. І я пасядзеў у турме, паглядзеў, як кажуць, у вочы смерці.

Той восенню сорак другога года мы ўжо мелі трывалую сувязь як з партызанамі, так і з дэсантнікамі, ваеннымі разведчыкамі, якія прыляцелі на памятным самалёце. Іх узначальваў капітан Фёдар Манзіенка, палітрук, перавучаны на разведчыка, ураджэнец Адэсы.

Скінулі дэсантнікаў на лес, і ад гэтага здарылася бяда. Яна здарылася яшчэ і ад таго, што парашутыстаў ніхто не чакаў, не паліў, як увайшло ў далейшую практыку, кастроў, не падаваў папераджальных знакаў.

Скакалі ў адны дзверы, груз выкінулі праз другія. Бачылі, што пад імі лес, вузкая лінія звілістай рачулкі. Першы скочыў масквіч Толя, затым радыстка і сам камандзір, нарэшце два астатнія дэсантнікі.

Ён, камандзір, завіс паміж трыма вольхамі. За плячамі, акрамя парашута, было болей за сотню кілаграмаў грузу. Разгойдаўшыся, прыстаў нарэшце да большага дрэва, падрэзаў зверху стропы — ад аднаго дрэва адстаў. Затым адхліснуў лямку з грудзей. Парашут цягнуў уверх. Нарэшце капітан падрэзаў усе стропы, пакінуўшы толькі лямку, на якой сядзеў.

На зямлі Манзіенка пачаў падаваць умоўныя знакі — заквакаў лягушкай. Пачуў адказ. Хутка знайшоў радыстку. Яна адна апусцілася на паляну.

Вандруючы па лесе, капітан з радысткай пачулі стогн. Пакуль знайшлі месца, адкуль ён даносіўся, было позна. Масквіч Толя, які завіс уніз галавой, быў мёртвы. Похапкам пахавалі таварыша.

Увогуле іх высадку нельга было назваць удалай. Яшчэ адзін дэсантнік завіс уніз галавой. Але ён здагадаўся падаць пра сябе сігнал — стрэліў з пісталета, яго выратавалі. Валодзя Офман, маскоўскі мастак-афарміцель, якога ўзялі ў групу за веданне нямецкай мовы, ад групы адбіўся і знайшлі яго толькі праз тры месяцы.

Увосень 1942 года група Манзіенкі аб'ядналася з калінкавіцкім атрадам імя Варашылава. Хоць разведчыкі захоўвалі сваю самастойнасць. Да лета 1943 г. яны стварылі ўласны атрад — N 14. Дзіўны быў гэты атрад. Толькі камандзір Манзіенка, некалькі яго памочнікаў, радысткі, падрыўнікі былі ў лесе. Астатні народ сядзеў на станцыях — ад Мазыра, Калінкавіч да Васілевіч і Рэчыцы. Бо атрад быў разведвальна-дыверсійны. Кожны дзень (а то і дватры на дзень) радысткі выходзілі ў эфір, перадавалі ў Маскву, у Цэнтр разведданыя.

Я і мае таварышы Мікалай Белы, Іван Доўжык, Мікалай Пінчук, яшчэ некалькі хлопцаў і дзяўчат былі ў гэтым атрадзе ці, праўдзівей, служылі разведчыкамі манзіенкаўскай групы.

Летам сорак другога, калі немцы рваліся да Сталінграда, грымела ад партызанскіх выбухаў чыгунка. Без выбухаў не абыходзілася, бадай, ніводная ноч. Непаўторнае было тое лета. Здавалася, нават навакольныя



лясныя абшары — сасняки на сыпучых пясках, беразнякі, круглыя купы лазняку на балацянках, зарослыя травой лясныя сцежкі, па якіх шнырылі, мы, сувязныя-разведчыкі — былі прасякнуты адчуваннем таго, што на свеце ідзе самая вялікая вайна.

У нямым чаканні, здавалася, застылі лясныя вёскі — з крытымі дранкаю хатамі, саламянымі стрэхамі хлявоў. Узыходзіла сонца, і над сасоннікамі, над соннымі з выгляду ваколіцамі трымцела няпэўная, з сінявaтым адценнем смуга. Яна, здаецца, таксама сведчыла аб значнасці, неразгаданасці падзей, якімі ахоплен свет. "Калі прыйдуць нашы?" — гэтае пытанне не знікала і цяпер. Толькі адказ быў няпэўны: вельмі далёка зайшоў вораг. Нялёгка будзе яго выгнаць...

Шмат пашкодзілі фашыстам партызаны, у шэрагах якіх змагаліся і дэсантнікі і падпольшчыкі. Акрамя дыверсій на чыгунцы, выбухаў магнітных мін, ад якіх узрываліся цыстэрны з гаручым, вагоны, ворагу наносіўся вялікі маральны, гаспадарчы ўрон. Усю жывёлу, напрыклад, якую немцы рэквізавалі ў насельніцтва спаленых вёсак і трымалі ў гарнізонах саўгаса "Ведрыч" і ў кашарах "Заготжывёлы" ў мястэчку Васілевічах, партызаны адабралі, загналі ў свой лес.

І ўсё ж не гэта, як здаецца, было галоўным у дзейнасці капітана, пазней маёра-разведчыка Фёдара Манзіенкі. Галоўнае: звесткі пра ворага, часам вельмі каштоўныя.

Збіраліся і факты мясцовага значэння, якія Цэнтр таксама патрабаваў. Вось адна з радыёграм (яны ўсе захоўваюцца ў ваенным архіве г. Падольска Маскоўскай вобласці).

"У Цэнтр. 12.5.43 г. Абстаноўка ў гарнізоне Васілевічы.

Немцаў — 80 чалавек, ахова чыгункі. Немцаў-жандармаў — 23. Добраахвотнікаў — 57 чалавек. Паліцыі — 120 чалавек. З іх перайшло да нас са зброяй у руках 18 чалавек.

6 мая у Васілевічах выгрузіліся 3 эшалоны немцаў з Гомеля. Узброены кулямётамі, мінамётамі, аўтаматамі, вінтоўкамі. Да 100 аўтамашын. Грузавыя матацыклы без нумароў, веласіпеды. Палавіна паехала па чыгуначнай ветцы. Частка рушыла пешшу на Маканавічы..."

З такіх вось будзённых звычайных паведамленняў там, у Цэнтры, складвалася, відаць, карціна жыцця глыбокага тылу акупантаў.

Цікавіўся Цэнтр не толькі выездам, прыбыццём воінскіх часцей. Ён патрабаваў асвятляць усе бакі дзейнасці ворага. Пагэтаму разведчыкі, побач з паведамленнямі аб руху эшалонаў, перадыслакацыі воінскіх часцей, перадавалі Фёдару Манзіенку дадзеныя аб колькасці нарабаванага фашыстамі збожжа, забранага ў насельніцтва малака, мяса, аб гаспадарчай рабоце прадпрыемстваў.

У рукі камандзіра групы траплялі копіі, а іншы раз арыгіналы загадаў, распараджэнняў розных фюрэраў, бургамістраў, старастаў, а таксама газеты, якія фашысты выдавалі на рускай і нямецкай мовах. Гэта была дадатковая інфармацыя.

Ужо некалькі месяцаў радысткі адстуквалі радыёграмы аб руху эшалонаў па чыгунцы Жыткавічы—Гомель. Перадача і прыём не заўсёды былі паспяховыя. У эфіры шмат перашкод. Але так ці інакш Цэнтр атрымліваў дакладную інфармацыю аб дзеяннях ваеннай, адміністрацыйнай нямецкай машыны ў міжрэччы Дняпра і Прыпяці.

Назіраючы за перавозкамі немцаў, усё болей набываў вопыту Манзіенка, якому яшчэ ў красавіку 1943 года кінулася ў вочы: лік эшалонаў, якія ідуць да фронту, нягледзячы на партызанскія дыверсіі, няўхільна павялічваецца. Гітлераўцы перавозяць у асноўным гаручае, баявую тэхніку, а таксама каменны вугаль. Бензін, гарматы, аўтамашыны — гэта ясна. Фашысты ўмацоўваюць фронт. А дзеля чаго каменны вугаль?

Пасля нядоўгіх разваг Манзіенка прыйшоў да вываду: вугалем фашысты забяспечваюць заводы, на якіх рамантуюць ваенную тэхніку. У такіх гарадах, як Гомель, Бранск, Харкаў: там ёсць машынабудаўнічыя заводы.

Тады ж Манзіенка адчуў: вораг пачынае рыхтавацца да нейкай буйной аперацыі. Магчыма, да новага наступлення.

21 мая 1943 года Манзіенка паведаміў Цэнтру: з 10 па 18 мая на фронт накіравана 1550 гітлераўцаў. Бензіна перавезена 4900 тон, боепрыпасаў — 420 вагонаў. Аўтамашын легкавых, пафарбаваных у светла-кафейны колер, перакінута 370, аўтамабіляў грузавых — 332, усюдыходаў — 154, харчовых прыпасаў — 540 вагонаў. З фронту ў Германію пакіравала 120 санітарных вагонаў.

Пачынаючы з мая 1943 г., Манзіенка сустрэўся амаль з усімі сувязнымі, якія асвятлялі ваенныя перавозкі па чыгунцы. і ўсіх настойліва прасіў: асаблівую ўвагу звяртаць на новую тэхніку.

Поспех прыйшоў. Новы танк адзін сувязны-мастак з Васілевіч (хоць тэхніку везлі на платформах, накрытых брызентам) нават змаляваў, прыслаў камандзіру чарцёж-малюнак.

Зрэшты разведчыкі здабылі дакладныя звесткі пра новыя танкі.

Манзіенка неадкладна радыраваў Цэнтру, што танкі новай канструкцыі прывозяцца па чыгунцы Брэст—Гомель упершыню. Вага іх 70-75 тон, таўшчыня брані — 80 міліметраў, шырыня гусеніц — 70 сантыметраў. Да машын ёсць запасныя гусеніцы: за тыдзень іх перавезлі 65 вагонаў. Узбраенне танка — гармата. Сярэдняя далечыня стральбы — 7,5 кіламетра.

5 ліпеня 1943 года разгарнулася на Курскай дузе гіганцкая танкавая бітва. Несумненна: савецкае камандаванне ўлічыла інфармацыю, якая паступіла ад закінутай у палескія лясы групы Манзіенкі, і гэтая інфармацыя спрацавала на нашу Перамогу.

Нашы прыйшлі. Яшчэ восенню 1943 года. Атрад Манзіенкі рушыў за Буг, у Польшчу для далейшай дзейнасці. Каб не трапіць у рукі ворага, у канцэнтрацыйны лагер, папярэджаныя нашай настаўніцай, мы ўліліся, як кажуць, у мясцовы атрад імя Панамарэнкі, з якім таксама мелі сувязь. Вызвалялі родныя Васілевічы, памагалі байцам падалей адагнаць ворага.

Потым былі новыя дарогі вайны. Я ўдзячны лёсу, што мне пашанцавала дайсці да Германіі, бачыць ганьбу ворага, адчуць зіхатлівую радасць, слодыч нашай вялікай Перамогі.

Іван НАВУМЕНКА

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11264.
Нумар падпісаны 20. 4.1995 г.
ЗАКАЗ *1137*
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12